




# НА МАЛЕНЬКАЙ СТАНЦЫІ

Рэпартаж А. ДЗІТЛАВА



Прайшло некалькі гадзін, як цягнік выйшаў з Брэста. Вось ён нырнуў у зялёны тунель сасновага бору. За вокнамі вагона бягуць тэлеграфныя слупы, мільгаюць жоўтыя ствалы сосен. І раптам вынырнуў зялёны паркан, паказаўся чысты цагляны будынак, праляцела, быццам крыло чайкі, чорна-белае слова на фасадзе: «Лясная». І зноў цягнік імчыць па жывому, зялёнаму калідору.

Мы наведалі гэтую самую звычайную маленькую станцыю і пацікавіліся жыццём яе калектыву.

Начальнік станцыі, нядаўні вучань Брэсцкага чыгуначнага тэхнікума, Аляксей Ціханавіч Шарко (на здымку справа, уверсе) не без гонару паведаміў, што Лясная займае вядучае месца ў спаборніцтве станцый Брэсцкага аддзялення Беларускай чыгункі. Многія работнікі маюць вялікія асабістыя заслугі ў працы. Дзяжурны па станцыі Купрыян Уласавіч Капашылаў (на левым верхнім здымку — з сігналам у руцэ) працуе на Лясной з 1945 года. Ён двойчы ўзнагароджаны значком «Выдатны работнік службы руху». Нядаўна атрымаў ганаровую грамату. Добрым чыгуначнікам і актыўным грамадскім работнікам з'яўляецца старшы стрэлачнік, камсамолец Ягор Няфёдаў (на здымку злева ўнізе).

Начальнік станцыі расказаў пра тое, як на Лясной праводзяць пагрузку і выгрузку мясцовых грузаў без адчэпу таварных вагонаў, укладваючыся ў самыя мінімальныя тэрміны, пра тое, як побач з будынкам станцыі стваралася валейбольная пляцоўка, як праходзяць прагулкі на веласіпедах, як збіраюцца супрацоўнікі на калектыўныя радыёслуханні. І яшчэ пра многае іншае, што складае жыццё маленькага калектыву.

З акна хуткага цягніка, які імчыць без прыпынку міма Лясной, можа здацца, што гэтая станцыя згубілася недзе ў глухамані. Пабыўшы на ёй, лёгка пераканацца, што гэта далёка не так. І тут, на маленькай станцыі, кіпіць вялікае жыццё.







Усебеларуская спартакіяда 1956 года

# ЗА РЭКОРДНЫ СЦЯЖОК

Мінскі стадыён «Дынамо». У сектар, абгароджаны з трох бакоў металічнай сеткай, увайшоў высокі шырокаплечы атлет. Ён раскручвае вакол сябе прымацаваны да стальнога троса чыгунны шар. Некалькі імклівых паваротаў, і магутным рыўком спартсмен пасылае яго туды, дзе трапечацца пад ветрам маленькі чырвоны сцяжок. Гэты сцяжок абазначае рэкорд Савецкага Саюза.

Молат (так завецца спартыўная прылада), кінуты заслужаным майстрам спорту Міхаілам Крываносавым, падае ў 66 метрах 38 сантыметрах ад круга для мятанняў.

Праз некалькі хвілін радыёдыктар паведамляе:

— Сусветны рэкорд амерыканскага спартсмена Кліфа Блейера пабіты на 42 сантыметры. Міхаіл Крываносаў устанавіў новы рэкорд свету, Савецкага Саюза і Беларускай ССР.

Так апошні дзень Усебеларускай спартакіяды быў азнаменаваны новым сусветным рэкордам, які ўстаноўлены нашым выдатным земляком Міхаілам Крываносавым.

Сем дзён ішла спартыўная барацьба на стадыёнах, у гімнастычных залах, у парку імя Горкага, на воднай базе Мінскага возера і на аўтастрадзе Мінск — Масква. У розных відах спорту спаборнічалі каля 2,5 тысяч мацнейшых спартсменаў нашай рэспублікі. У ходзе спаборніцтваў было палепшана 19 рэкордаў Беларусі. 15 удзельнікаў Усебеларускай спартакіяды ўпершыню выканалі норму майстра спорту СССР. Спартакіяда выявіла шмат новых таленавітых спартсменаў, якія заваявалі чырвоныя стужкі і жэтоны чэмпіёнаў.

У апошні дзень спаборніцтваў на футбольным полі стадыёна «Дынамо» выстраіліся пераможцы. Ганаровы пераходны прыз Савета Міністраў Беларускай ССР быў уручаны ў гэты дзень першаму зборнаму калектыву спартсменаў Мінска — пераможцу каманднага першынства Усебеларускай спартакіяды. Другому калектыву мінскіх спартсменаў, які заняў другое месца, таксама быў уручаны пераходны прыз Савета Міністраў рэспублікі. Трэцяе каманднае месца заваявалі спартсмены Віцебскай вобласці.

Спартсмены Мінска, акрамя таго, выйшлі пераможцамі па 18 відах спорту і ўзнагароджаны васемнаццаццю пераходнымі прызамі.

Памятны прыз часопіса «Маладосць» — срэбраны кубак — за лепшыя дасягненні ўручаны плаўцам горада Мінска.

Ю. БАГУШЭВІЧ.




Міхаіл Крываносаў мятае молат.
Фото А. Мызнікава.


Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.
№ 8 (41).
Жнівень.
1956.



Хто з маладых і смелых не зайздросціў пакаленню Паўкі Карчагіна, якое з вінтоўкай у руках абараняла Кастрычнік? Хто не марыў быць такімі, як першыя будаўнікі-ўдарнікі Магніткі і Днепрагэса? Хто з любоўю і гонарам не ўспамінае бясстрашных герояў Айчыннай вайны?

Дзе-ж рамантыка нашых дзён? Дзе тыя справы, якія-б у вяках уславілі-б імёны камсамольцаў пяцідзесятых гадоў? Можа, наш час — гэта час звычайных спраў?

І заўсёды будучыя пакаленні, калі трэба будзе ўказаць на прыклад масавага патрыятызма ў працы, будуць называць вас, камсамольцы пяцідзесятых гадоў.

Вось яна, рамантыка нашых дзён: пакарэнне тайгі, сібірскіх рэк, суровай прыроды.

Не трэба, аднак, думаць, што Сібір — край пустыні. Навасёлы знойдуць там развітую прамысловасць, добра апрацаваныя палі, ўтульныя пасёлкі і гарады. Мы змяшчаем тут некалькі здымкаў



# СІБІР — КРАЙ СКАРБАЎ



Не! Пяцідзесятыя гады стануць гадамі легендарных паходаў тысяч маладых патрыётаў па асваенню неразведаных яшчэ зямель. Памятная адзнака ад гэтых паходаў застанецца ў выглядзе распрацаваных стэпаў Казахстана, у гмахах электрастанцый і заводаў Сібіры і Далёкага Усходу. Гэтыя збудаванні стануць помнікамі нашых дзён, гераічнай працы моладзі.

з Сібіры, якія красамоўна сведчаць аб праўдзівасці гэтых слоў.

Вось чатыры дзяўчынкі аглядаюць макет цяпліцы. Дзе зроблены гэты здымак? У Маскве? Ленінградзе? Не, ён зроблены на Магадане. Дзяўчынкі не адчуваюць, што яны жывуць за 10 тысяч кілометраў ад Масквы. Крыху ніжэй — здымак, які быў зроблены на правым беразе Ангары, у тым месцы, дзе ўжо другі год вядзецца будаўніцтва Брацкай ГЭС. На многія кілометры па абодвух берагах Ангары раскінулася будаўнічая пляцоўка. Першая чарга Брацкай ГЭС павінна ўвайсці ў строй у шостай пяцігодцы. За гэты час калектыву прадстаіць выканаць каля 30 мільёнаў кубаметраў земляных работ, улажыць 8 мільёнаў кубаметраў бетону і жалезабетону. Сёлетні план будаўніча-мантажных работ перавышае мінулагодні ў чатыры разы. На здымку — будаўніцтва пад'ездаў да створу плаціны.

Самы ніжні здымак зроблены на будаўніцтве «казахстанскай Магніткі» — Карагандзінскага металургічнага завода. А людзі, якія ўважліва слухаюць тлумачэнні свайго таварыша, гэта навасёлы, якія прыехалі будаваць завод.

Уверсе вы бачыце разгрузку верталёта, які прыляцеў у раён будаўніцтва Краснаярскай ГЭС. Гэты здымак быў зроблены яшчэ вясной. Калі ні машыны, ні самалёты не змаглі дастаўляць грузы на будаўніцтва, тады ў строй уступілі верталёты. Работа не спынілася ні на хвіліну.

У наш час рэактыўнай тэхнікі адлегласці намнога скараціліся. І ўсё-ж, каб перасячы Сібір, неабходна ўдвая больш часу, чым даляцець ад Масквы да Лондана. А ўявіце на хвіліну тыя часы, калі падарожнікам даводзілася адмерваць кілометры не на самалётах або аўтамашынах, а пешшу, на конях ці сабаках. Якімі бяскрайнімі тады здаваліся людзям сібірскія абшары.

Каб трапіць з Табольска ў Якуцк, цяпер патрэбна некалькі гадзін. А вось экспедыцыі Сцяпана Крашанінікава, аднаго з даследчыкаў Сібіры, на пераадоленне гэтай адлегласці спатрэбілася два гады. Амаль васемсот дзён!

Сібір — гэта такая прастора, на якой могуць размясціцца ўсе разам такія дзяржавы як Англія, Францыя, Бельгія, Галандыя, Данія. А колькі багаццяў, колькі скарбаў тоіць у сваіх нетрах сібірская зямля!

Кожны з нас у дзяцінстве, мусіць, наслухаўся казак пра запаветныя землі. Казкі, вядома, вымысел народа, але можна без перабольшання сказаць, што Сібір якраз і з'яўляецца такой казачнай запаветнай зямлёй.

Ткніце пальцам у любую клетку мендзелееўскай перыядычнай табліцы, і можна адразу-ж сказаць — гэты элемент ёсць у нетрах Сібіры.



Сібір — гэта кладовая, якая моцна зачынена ад людскіх вачэй. Адчыніць гэтую кладовую могуць толькі смелыя, настойлівыя людзі.



Многа клопатаў у будаўнікоў Енісейскай ГЭС. Пакуль што тут толькі вядуцца разведачныя работы. На здымку — начальнік геафізічнага атрада А. Хахлоў і тэхнік А. Сільчанкава праводзяць вертыкальнае электразандзіраванне.

На гэтай-жа старонцы ўнізе здымак з будаўніцтва Новасібірскай гідраэлектрастанцыі. Сюды таксама прыехалі маладыя патрыёты. У многіх з іх няма спецыяльнасці. Нічога, вось ужо адзін з іх пад кіраўніцтвам вопытнага майстра вучыцца працаваць на электрадрэлі. Многія юнакі і дзяўчаты тут авалодаюць спецыяльнасцямі экскаватаршчыкаў, арматуршчыкаў, электразваршчыкаў.

Гэтыя шэсць здымкаў — толькі кропля жыцця сучаснай Сібіры. А колькі новага, нязведанага чакае навасёлаў, смелых пакаральнікаў і пераўтваральнікаў Сібіры і Далёкага Усходу!



# Што думаюць пра вас хлопцы?

**АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА ДЗЯЎЧАТ**

Дарагія дзяўчаты! Перш чым напісаць гэты ліст, мы доўга думалі і прыйшлі да вываду, што нам ёсць пра што пагаварыць, нават паспрачацца з вамі. Мы не будзем тут гаварыць пра вашы працоўныя поспехі. Гэта агульнавядома, і ніхто гэтага не адбярэ ад нашых савецкіх дзяўчат. Але, нажаль, нярэдка сярод вас сустракаюцца і такія дзяўчаты, аб якіх будзе ісці гутарка ў гэтым нашым лісце, з-за чаго вы вельмі многае траціце ў нашых, хлапечых, вачах. Гэта-ж не сакрэт, што часам з-за вашых капрызаў, з-за няправільных, мяшчанскіх поглядаў на жыццё адбываюцца сямейныя нелады, а іншы раз і трагедыі.

Вы, магчыма, скажаце, што гэта, пакуль вы не замужам, не мае да вас ніякага дачынення? Дык вось мы і хочам пагаварыць з вамі на гэтую тэму, папярэдзіць вас, каб вы больш сур'ёзна, патрабавальна адносіліся не толькі да нас, але і да саміх сябе, да сваіх пачуццяў, каб тая незвычайная лёгкасць, якая часам наглядаецца ва ўзаемаадносінах маладых людзей, стала перажыткам, і каб гэтыя ўзаемаадносіны грунтаваліся на ўзаемаразуменні, на павазе аднаго да другога, на шчырасці і сардэчнай замілаванасці.

Слесар нашага завода Міхаіл Лукашоў цяжка захварэў і злёг у бальніцу. Мы даведаліся, што да яго яшчэ ні разу не прыходзіла жонка Валя Мураўёва. Вырашылі пагаварыць з ёю. Валя нават абурылася: «Якое вы маеце права ўмешвацца ў нашы сямейныя справы? Мне Міхаіл даражэй, чым вам». Але яна крывіла душой, бессаромна хлусіла. Праз некаторы час, калі ўжо нельга было ашукваць, яна прызналася, што вырашыла пакінуць мужа. «Я, маўляў, маладая і не хачу сябе звязваць на ўсё жыццё з хворым чалавекам».

Гэта ўсіх нас усхвалявала да болю ў душы, узрушыла, бо мы думалі, што Валя кахае Міхаіла. На заводзе ўсе лічылі гэтую сям'ю моцнай. Чаму-ж яна так лёгка распалася?

Вы, магчыма, скажаце, што гэта выключны выпадак. Нам хацелася-б, каб ён быў выключным. Але дзе гарантыя таго, што маладажоны, якіх мы сёння шчыра віншуем, падымаем тосты за іх будучае шчасце і крычым «Горка!», заўтра не разыйдуцца кожны ў свой бок і на гэты раз будзе горка не гасцям, а ім самім. А што такая небяспека часам падпільноўвае хлопцаў, дык гэта-ж факт!

Вы наўрад ці будзеце аспрэчваць, што сярод вас ёсць такія дзяўчаты, якія глядзяць на каханне, як на лёгкі флірт. Такая дзяўчына толькі і дбае аб тым, каб хутчэй выйсці замуж. Пры гэтым яна цікавіцца толькі адным— колькі зарабляе будучы муж. Калі па заробку хлопец падыходзіць у будучыя мужы, такая дзяўчына пускае ў ход усе чары, і хлопец часта прымае майстэрскую хлусню за шчырае пачуцце. Нам здаецца, што Валя Мураўёва якраз і належыць да катэгорыі такіх дзяўчат. А што атрымалася з гэтакага «кахання», мы вам ужо расказалі.

Ці то баючыся застацца «ў дзеўках», ці яшчэ па якіх іншых прычынах — гэта вам больш вядома,— некаторыя з вас часта, як у той футбольнай камандзе, забяспечваюць сябе запаснымі «ігракамі». Нават дзіву даешся, як яны часам не блытаюць імён сваіх «каханых».

Наш рабочы Толя А. дружыў з Зінай С. з аддзела тэхнічнага кантролю. Чулі мы, што яны нават прызнаваліся адзін аднаму ў каханні. Але вось Анатоля прызвалі ў армію. Зіна не хадзіла доўга засмучанай. Неўзабаве ў яе з'явіўся новы кавалер, які выпадкова прыехаў пагасцяваць у Оршу.



## ПІСЬМЕННІК-ПАТРЫЁТ

**Да 50-годдзя Макара Паслядовіча**

У жніўні спаўняецца 50 год з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Макара Трафімавіча Паслядовіча. З юных год Макар Трафімавіч становіцца актыўным селькорам газеты «Беларуская вёска», а затым пераходзіць на сталую работу ў рэдакцыю. У якасці спецыяльнага карэспандэнта газеты ён аб'ездзіў амаль усю краіну, пабываў на будаўніцтве Харкаўскага і Сталінградскага трактарных заводаў, у Сібіры і на Далёкім Усходзе. У 1928 годзе М. Паслядовіч пачынае пісаць апавяданні, а ўжо ў 1930 годзе выходзяць два зборнікі яго твораў «Зруйнаваныя межы» і «Людзі вясны».

Гады калектывізацыі, класавая барацьба, пераўтварэнне вёскі ў калектыўную гаспадарку становяцца тэмамі наступных твораў М. Паслядовіча, такіх, як аповесць «Хада ў заўтра» і зборніка апавяданняў «Чатырнаццаты нумар».

Буйнымі даваеннымі творамі, якія сведчылі аб ідэйна-творчым росце М. Паслядовіча, з'яўляюцца яго раман «Паўстанне» і аповесць «Магістральны канал». У першым з іх даецца шырокая карціна партызанскай барацьбы беларускага народа супраць белапольскіх захопнікаў. Аповесць «Магістральны канал» прысвечана людзям, якія пераўтваралі палескія балоты ў багаты і квітнеючы край.

Макар Паслядовіч адным з першых у нашай літаратуры прысвяціў свой твор тэме пасляваеннага адраджэння жыцця ў рэспубліцы, магутнаму індустрыяльнаму будаўніцтву: у 1947 годзе выйшла з друку яго аповесць «Цёплае дыханне».

Доўгі час М. Паслядовіч вывучаў жыццё калгасаў рэспублікі. У 1952 годзе ён закончыў раман «Святло над Ліпскам», прысвечаны пасляваеннаму станаўленню калгаснай вёскі. Гэты раман — творчая ўдача пісьменніка.

Пісьменнік-патрыёт Макар Паслядовіч актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці краіны. Ён выступае з нарысамі і артыкуламі ў газетах і часопісах, піша сцэнарыі дакументальных фільмаў, перакладае на беларускую мову лепшыя здабыткі вялікай рускай літаратуры.

Пажадаем яму плённай працы на карысць свайго народа.



Малады беларускі паэт Уладзімір Нядзведскі нарадзіўся ў 1929 годзе ў Ленінскім раёне Брэсцкай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1943 годзе бацькі яго былі забіты фашысцкімі захопнікамі.

Пазней Ул. Нядзведскі выхоўваўся ў Мікашэвіцкім дзетдоме.

У 1955 годзе ён скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта і цяпер працуе настаўнікам на Лагойшчыне.

Вершы Ул. Нядзведскага друкаваліся на старонках «Полымя», «Беларусі», «Маладосці», «Чырвонай змены».

## Максім Горкі на станцыі Стоўбцы

Ішоў май зялёны,
Быў год дваццаць восьмы.
Экспрэс цераз Нёман
Стралою пранёсся.
Да болю ўглядаўся
Праз шыбы экспрэса ён
У край той, што зваўся
«Усходнімі крэсамі».
Там дзёўб «ожэл бялы»
Загончыкі вузкія,
І, нібы, стагнала
Зямля беларуская.
Калі-ж семафоры
Мільганулі зялёныя
Ступіў на платформу
У Стоўбцах з вагона ён.
Сядзеў у буфеце,
Піў чай тою раніцай.

Шапталіся недзе:
— З Сарэнта вяртаецца.
Сядзеў, і па твары
Калолі, як шпількамі,
Паноў і жандараў
Пагляды шматлікія.
З вакзала выходзіў
Ён крокамі цвёрдымі,
Ішоў, як праходзіць
Жывы паміж мёртвымі.
Калі-ж ад вагона
Адхлынулі сышчыкі,
Пісьменнік далоню
Паціснуў насільшчыку.
...Мне ў Стоўбцах сівенькі
Насільшчык расказваў,
Як стрэў Чалавека
Тады першы раз ён.

## Над Гайнай

Поля пачатак
І край не відзён,
Бралі дзяўчаты
Над Гайнаю лён.

Рукі — у поце,
Далоні, як воск.
Ехалі хлопцы
Уранку ў Лагойск.

Газу, магчыма,
Забыў даць шафёр:
Стала машына,
Заглухнуў матор.

Хлопцы у жарты:
— Шафёру — ключы!
Пойдзем дзяўчатам
Дапамагчы!

Ладзіў дзень цэлы
Машыну шафёр,
Сонейка села
Дзесьці за бор.

Бралі пад вечар
Дзяўчаты свой лён —
Сэрцы хлапечыя
Бралі ў палон.

## Дыплом

На вуліцы дождж і гразь.
Далёкія стогны грому.
Надвор'е — хоць не вылазь,
Ды нельга сядзець мне дома.

Патрэбна ісці і ў час
Урокі правесці ў школе,
А потым сабраць свой клас
І бульбу садзіць у полі.

За вёскай хлявоў рады
Бялеюць здалёк уранку.
Спяшаюся я туды,
Каб выпусціць там «маланку».

Увечары ў клубе сход —
Чакаюць мяне з дакладам
Аб тым, як сабе народ
Паставіў на службу атам.

Мне трэба схадзіць на дом
Да вучня, што сёння хворы.
... Калі выдаюць дыплом,
Пра ўсё гэта не гавораць.

А каб і сказалі — не змог
Я жыць-бы цяпер іначай,
Таму што Радзіме доўг
За мой дыплом не заплачан.

Калі гэты паехаў, дык Зіна знайшла сабе трэцяга. І ўсім яна пасылала пісьмы, кожнаму пісала, што кахае толькі яго аднаго і больш нікога на свеце.

Гэтак-жа робіць і Марыя Л. з інструментальнага цэха. Яна вядзе перапіску аж з чатырма «жаніхамі». Відаць, думае дзяўчына, хто першы прапануе ёй руку, за таго яна і схопіцца. А дзе-ж шчырасць, дзе пачуцці? Бо наўрад ці хопіць іх на чатырох нават у самай шчодрай з вас? А Валі К. з аддзела тэхнічнага кантролю, дык той даводзіцца дзяліць свае пачуцці аж на шасцёх!

А вось Шура Ш. з аршанскага медвучылішча сустракаецца з нашым рабочым Леанідам З. Аднак ёй гэтага мала. На той выпадак, калі Леанід працуе ў начной змене, яна мае замену. І пра кожнага з іх гаворыць, як пра свайго жаніха. Праўда, з Шурай здарылася тое, чаго яна не чакала. Аднаго разу сабраліся яе «жаніхі», дамовіліся і пакінулі сваю «шчодрую» сяброўку.

Дарагія дзяўчаты! Мы хочам вам сказаць, што каханне — гэта пачуццё сур'ёзнае, узвышанае, святое. І нельга на яго глядзець, як на разменную манету. Той, хто так глядзіць на яго, прайграе ў сваім жыцці. Няхай гэта вам будзе вядома.

Нам, хлопцам, не заўсёды можна ведаць, ці сапраўды цябе кахае дзяўчына, ці яна проста «дурыць» галаву. А вось вам, дзяўчатам, гэта добра вядома. Чаму-ж вы не скажаце сваёй сяброўцы, каб яна не чмурыла галавы хлопцу, калі яна яго не кахае? Чаму, нарэшце, не скажаце пра гэта самому хлопцу? Няўжо перашкаджае ўяўная салідарнасць?

Ёсць і ў нас, хлопцаў, такія з'явы. Але мы не церпім у сваім асяроддзі такіх матылькоў, якія пералятаюць з кветкі на кветку, і вядзем з імі барацьбу.

За апошнія гады нашы дзяўчаты пачалі больш прыгожа апранацца. Гэта вельмі добра: прыемна зірнуць на чалавека, калі ён прыгожа апрануты. Але некаторым з вас здраджвае густ. Глядзіш на другую: на ёй усё дарагое, добрае, але пашыта яно так, што, не раўнуючы, мае выгляд нейкага пудзіла з агарода. А яшчэ калі на прычоску зірнеш, дык хоць ты адварочвайся. Нас яшчэ непакоіць і тое, што многія дзяўчаты толькі тое і ўмеюць, што апранацца з выбрыкамі. А вось папрасіце вы іх згатаваць абед, дык яны вам такое зварaць, што ў рот не возьмеш. Многія з іх самі ўвесь час на сухім пайку сядзяць або ў сталовую бегаюць, бо не ўмеюць згатаваць абеду. Міжвольна ўзнікае думка: нічога сабе перспектыва — ажэнішся на такой і будзеш на сухім пайку сядзець век свой.

Чаму-ж так бывае? Таму, што некаторыя дзяўчаты вельмі мала звяртаюць увагі на хатнія справы, не вучацца рабіць хатнюю работу, быць гаспадынямі. Яны спакойна сядзяць за матчынымі спінамі.

Сустракаюцца сярод вас і такія дзяўчаты, якія лічаць хатнюю работу мяшчанствам. Наша работніца Ева С. ходзіць у невыпрасаваных суконках, у нячышчаных туфлях, п'е гарэлку і трымае сябе так, што часам брыдка на яе глядзець. Горш за ўсё тое, што яна лічыць гэта нормай паводзін перадавога чалавека. А некаторыя дзяўчаты замест таго, каб асудзіць такія яе паводзіны, бяруць з яе прыклад.

Для таго, каб стварыць у будучым добрую сям'ю, дзяўчаты, як і мы, хлопцы, павінны ўмець гэта рабіць. А хто з вас прачытаў хоць-бы адну кнігу пра выхаванне дзяцей? А колькі потым інцыдэнтаў бывае ў маладых сем'ях. Жонка лічыць, што дзяцей трэба пясціць, як нейкія кветкі ў цяпліцы, і ўвесь час папракае мужа, што ён мала ўдзяляе ўвагі свайму дзіцяці. Бываюць і розныя іншыя непаразуменні.

Наступнае пытанне, якое мы хочам узняць, — гэта рэўнасць і тое, што з яе вынікае.

Колькі добрых хлопцаў пасля таго, як пажаніліся, пакінулі займацца ў спартыўных секцыях, у гуртках мастацкай самадзейнасці. А ўсё з-за чаго: жонкі рэўнуюць. Вядома, каму прыемна: пагуляеш у валейбол гадзіну, а потым дома табе тыдзень збыту не даюць, чытаюць натацыі. Не так даўно ажаніўся Фелікс Д. Яго жонка Таіса — настаўніца. Яна сама ўдзельнічала ў гуртку мастацкай самадзейнасці. Фелікс быў добрым футбалістам. Але як толькі яны пажаніліся, дык Таіса катэгарычна забараніла мужу гуляць у футбол. А каб у Фелікса не было да яе прэтэнзій, яна і сама пакінула наведваць гурток самадзейнасці. Таіса рэўнуе Фелікса без усялякіх падстаў. Няўжо ёй, як настаўніцы, не зразумела, што яна гэтым абражае свайго мужа, яго і свае шчырыя пачуцці?

Вядома, не ўсе такія. У нас на заводзе ёсць сям'я Альберта Савіцкага і Надзі Лукашовай. Яны абое працуюць на заводзе. Альберт член камітэта комсамола, добры футбаліст. Надзя ўдзельнічае ў мастацкай самадзейнасці. У сям'і Савіцкага не чуваць папрокаў, тут усё грунтуецца на ўзаемным давер'і.

Страшэнна нам не падабаецца, калі жонка папракае мужа, што ён мала зарабляе і не можа ёй выкраіць на шаўковыя плацці і мадэльныя туфлі. Міша З. вучыцца ў вячэрняй школе. У яго пакуль не вельмі высокі заработак. Але хіба трэба кожны раз напамінаць яму пра гэта? Між тым, Зіна, яго жонка, заўсёды папракае мужа тым, што ён мала зарабляе, псуе яму настрой.

Часта ў маладых сем'ях сваркі з-за дробязей набываюць характар скандалу. Бацькі бяруць пад абарону сваіх любімых дачушак і яшчэ больш паглыбляюць нелады. Ліна Э. — дачка даволі забяспечаных у горадзе бацькоў — выйшла замуж за Аляксандра В. З дзяцінства Ліна дома нічога не рабіла, і калі ёй давялося рабіць сякую-такую хатнюю работу, дык ёй гэта здалося пеклам. Аднаго разу бацькі Ліны прыйшлі праведаць дачку і ўбачылі, што яна мые падлогу. Маці адразу-ж накінулася на зяця:

— Я аддавала за цябе дачку не для таго, каб яна мыла падлогу!

Адкуль такое панства? Адкуль такая пагарда да працы? Мы ўсе дзеці працоўных, і сорамна, калі ў некаторых з нас праяўляецца вось такая мяшчанская ідэалогія.

І апошняе. Некалькі слоў пра ваш гонар, дзяўчаты.

Вы і не ўяўляеце часам, які вы добры ўплыў робіце на нас, хлопцаў. Мусіць, вы і самі ведаеце нямала прыкладаў, калі хуліганісты хлопец закахаецца ў дзяўчыну і пад яе ўплывам выпраўляецца. Ёсць такія сур'ёзныя дзяўчаты, пры якіх хлопцы не развязваюць языка, трымаюць сябе прыстойна. Гэта — строгія, гордыя дзяўчаты. З такой дзяўчынай не пойдзе танцаваць хлопец у кепцы і з папяросай у зубах. Але часта ў вашай прысутнасці з языка хлопца ляціць брыдота, а вы не звяртаеце на гэта ўвагі. Горш таго, часта бывае, што вы задзірыстых хлопцаў лічыце героямі, а тых, хто трымае сябе сціпла, называеце цельпухамі і не хочаце з імі сябраваць.

Мы не гаварылі тут пра ваш удзел у грамадскім жыцці. Гэта натуральна. Дзяўчаты павінны нароўні з хлопцамі прымаць удзел у грамадскай рабоце. Між тым, вельмі часта дзяўчаты пасіўнічаюць: на сходах не выступаюць, комсамольскія даручэнні выконваюць абы-як. А колькі ёсць прыкладаў, калі, вышаўшы замуж, дзяўчына зусім адрываецца ад жыцця комсамольскай арганізацыі.

Мы яшчэ раз гаворым, што такія дзяўчаты, пра якіх мы тут расказалі, не ўсе. У нас вельмі многа працавітых, чулых, сардэчных, сапраўдных савецкіх дзяўчат. Але ёсць нямала і такіх, аб якіх мы пісалі.

Мы гаворым вам гэта шчыра, адкрыта. Што вы нам на гэта адкажаце? Хочацца, каб і вы гэтак-жа шчыра і адкрыта сказалі нам пра нашы недахопы, пра нашы памылкі. Гэта будзе карысна і нам, і вам.

**Леанід ЖЫЛЯНІН,**
**Аляксандр ФІЛІПАЎ,**
**Валянцін МАНЬКОЎСКІ.**

**г. Орша,**
**завод швейных машын.**

# За партай і ля станка

Раман САБАЛЕНКА



За пэртай у школе. На пярэднім плане Галіна Іванова і Валянціна Ліпень. За імі Эдуард Кушнароў і Канстанцін Ціхановіч.
Фото С. Чырэшкіна.

Аршанскія ціхія вуліцы агаласіліся залівістым смехам. ПацІху, як-бы чаго баючыся, забурліла песенка без слоў. Валя Ліпень, шустрая дзяўчына, узмахнула галавой і сказала:

— Вы от сабе смяецеся, а я дык баюся. А што, калі мы правалім. Гэта-ж які сорам будзе!

Анатоль Мілашчанка, сакратар камітэта комсамола школы і выкладчык політэхнічных дысцыплін, зірнуў на Валю і ўсміхнуўся нейкай лагоднай усмешкай.

— Калі ўжо ты правалішь, дык нам няма чаго ісці і на экзамен.

А гэты экзамен быў незвычайны. Дзесяткі год існуе першая руская школа, а такога экзамена вучні яшчэ ні разу не здавалі.

У леташнім годзе зайшла сур'ёзная гаворка пра політэхнізацыю. У школе ўжо быў абсталяваны клас аўтамабіля, электратэхнікі, набыты некаторыя станкі. Анатоль Мілашчанка бачыў зацікаўленасць большасці вучняў да тэхнікі. Але што гэты клас! Гэта толькі так, можна сказаць, для адводу вачэй, для таго, каб запісаць у справаздачу, што ў школе вядуцца ўрокі політэхнізацыі, а вучні, па-сутнасці, нічому істотнаму тут не навучацца. У галаве ў яго мільганула думка: «А што, калі дамовіцца з якім-небудзь заводам і хадзіць у цэх з вучнямі працаваць». З гэтай думкай ён і прышоў у кабінет дырэктара школы Георгія Фёдаравіча Анціпенкі. Той уважліва выслухаў Мілашчанку, падумаў, як-бы ўзважваючы, чаго варта гэтая прапанова, і сказаў:

— А гэта вельмі слушна, Анатоль Мікалаевіч. Каб нам гэта ўдалося, дык было-б вунь як добра.

Ён адразу ўзяўся за тэлефонную трубку і папрасіў, каб яму далі кабінет дырэктара завода швейных машын. Доўга гаварыў Георгі Фёдаравіч з дырэктарам завода Францам Мартынавічам Бязлюдавым. Мілашчанка слухаў размову і не мог ніяк зразумець, што там адказвае дырэктар завода, і калі Анціпенка паклаў трубку, дык ён адразу-ж запытаў:

— Ну як, згодны ён?

— Ён гаворыць, што гэта вельмі добрая прапанова, але як практычна гэта зрабіць, я і сам не ведаю.

Мілашчанка на момант задумаўся.

— А мы от што, Георгі Фёдаравіч, склічам комсамольскі сход, запросім з завода рабочых, і яны нам раскажуць пра завод. А потым няхай нашы комсамольцы выкажуцца.

Сход гэты быў незвычайны. У прэзідыуме сядзеў наватар вытворчасці фрэзероўшчык завода Пейсаховіч, поруч з ім віхрасты хлопец. Вучні пазналі яго. Два гады таму назад ён скончыў школу і цяпер працуе на заводзе. Гэта сакратар комсамольскай арганізацыі першага механічнага цэха Філіповіч.

Далі слова Пейсаховічу. Ён павольна ўзняўся і пачаў гаварыць:

— Я ўжо, дзеці мае, стары чалавек. Амаль усё жыццё сваё пражыў у рабочым калектыве. І, як бачыце, цяпер мне і гонар і слава. От гэтая мазольная рука гэтулькі перарабіла работы. Яна ніколі не квапілася на лёгкі хлеб. І таму цяпер, от, як бачыце,— і ён сам зірнуў на значок дэпутата Вярхоўнага Совета БССР,— народ мяне паслаў сваім выбраннікам у вярхоўны орган улады... Дык я заклікаю вас не баяцца мазаля, не баяцца працы.



У лабараторыі аддзела тэхнічнага кантролю. Лабарантка Марыя Музыкантава і Канстанцін Ціхановіч ля мікраскопа.

Другім узяў слова Філіповіч. Ён страсянуў чупрынай і пачаў расказваць пра тое, як ён, скончыўшы вось гэту-ж школу, стаяў на раздарожжы, не ведаючы, куды падацца. Пайшоў на завод. Яго там прынялі, як сваго даўно знаёмага. Праз якіх два месяцы ён ужо стаяў ля такарнага станка і працаваў гэтак, што нават старыя токары зайздросцілі ўмельству гэтага хлапчука.

— А цяпер вось, таварышы, як бачыце, я рабочы. Мяне выбралі сакратаром комсамольскай арганізацыі цэха. Я маю кваліфікацыю. А вечарамі сяджу над кніжкамі. Мяне прынялі на трэці курс політэхнікума. Скончу яго і буду тэхнікам. Так што я вас заклікаю, таварышы, ісці на наша прадпрыемства.

А дні праз тры пасля ўрокаў трыццаць вучняў дзевятага класа пайшлі на завод. Усё там для іх было незвычайным. Вялізныя станкі, паслухмяныя руцэ чалавека, рытмічна і чотка працавалі. Валя Ліпень падыйшла да малога фрэзернага станка, за якім працавала дзяўчына Нэля Кучынская.

— Давайце пазнаёмімся,—звярнулася Валя да фрэзероўшчыцы.—Мы прышлі са школы і будзем у вас вечарамі працаваць.

— Калі ласка, мы будзем вам вельмі рады,—адказала Нэля Кучынская.—Вы проста за мой станок станавіцеся.

— Дзякую,— адказала Валя.

Потым яна распытвала пра ўмовы працы, пра заработак, пра заводскі калектыў.

— А я, ведаеце, цяпер-бы нізавошта нікуды не пайшла з завода. У нас тут гэтак добра.

Валя нават пазайздросціла такой любві дзяўчыны да свайго завода.

Потым вучняў, якія прыйшлі пакуль што як экскурсанты, сабралі ўсіх разам і майстар цэха Пятро Сямёнавіч Бацюкоў вадзіў іх ад станка да станка і расказваў пра гэтыя цудоўныя машыны. Вучні слухалі з захапленнем. Нават Генадзі Гурэвіч і той захапіўся быў расказам майстра.

— Я абавязкова буду хадзіць працаваць. Гэта-ж як цікава тут, рамантычна нават.

Валя зірнула на хлопца і скептычна ўсміхнулася, відаць, падумала: «Ой, наўрад ці хопіць у цябе, хлопча, надоўга гэтага захаплення?»

І сапраўды, у Генадзія Гурэвіча і ў Ларысы Рагоўскай не надоўга хапіла захаплення.

У Анатолія Мікалаевіча недзе ў сярэдзіне забушавала злосць, але ён яе прыглушыў і толькі сказаў:

— Ну што-ж, гэта ваша справа. Як той казаў, сілай мілы не будзеш.

Паўтара года праляцелі неяк неўзаметку. Вучні, цяпер выпускнікі школы, нават не заўважылі, як яны пасталелі за гэты час. А Валя Ліпень, як цяпер, перад сабой бачыць першую сваю рабочую гадзіну. Яна тады надзела рабочы халат і гэтак, не павязаўшы хусцінкай галавы, падыйшла да станка, на якім працавала Нэля Кучынская. Валі здавалася, што ў гэтым працэсе па адшліфоўцы адтулін і бабышак рукава швейнай машыны няма нічога складанага. Перад гэтым вучням паказалі мярыцелі, пазнаёмілі з чарцяжамі. Чытаць чарцяжы было не так ужо і цяжка, маючы сярэднюю адукацыю, і чамусьці ўзялі ў іх падпіску аб тым, што яны будуць захоўваць тэхніку бяспекі. Валя падпісалася пад гэтым абавязацельствам, нават не надаючы яму вялікага значэння. Але вось, як толькі яна падыйшла да станка, каб пачаць працаваць на ім, Нэля Кучынская неяк незвычайна ўсміхнулася і сказала:

— От ты, Валя, і парушыла тэхніку бяспекі.

— А чым гэта я парушыла? — не ведаючы, чаго хоча ад яе Нэля, спытала Валя.

— Да станка нельга падыходзіць з непавязанай галавой.

— А я і не ведала,— пачырванела Валя.

Гэта была першая «асечка» ў Валі, і дзяўчына хуценька павязала хусцінку.

— Тое, што мы будзем з табой рабіць,— пачала тлумачыць Нэля,— называецца трынаццатай аперацыяй — шліфоўка вонкавай часткі рукава машыны.

Потым фрэзероўшчыца неяк вельмі-ж спрытна замацавала рукаў у станок. Выняла яго і падала Валі, сказаўшы:

— На, сама цяпер зрабі.

Калі Валя глядзела на работу Нэлі Кучынскай, ёй здавалася, што гэта вельмі проста, што той рукаў проста сам становіцца ў пазы, але як толькі яна ўзялася ставіць яго, дык ён нібы пабольшаў і ўжо не лез туды, куды яму трэба. Нэля ўсміхнулася, але, бачачы, што Валя пачала ўжо нервавацць, супакоіла яе.

— Гэта ва ўсіх так спачатку бывае. Глянеш, дык здаецца-б вачыма ўсё зрабіў адразу, а возьмешся рукамі, дык яно ні блізка. У мяне ў самой першыя часы так было. А ты от вазьмі ды вось гэтак, — і Нэля ўзяла з валіных рук рукаў і паставіла зноў гэтак-жа хутка, як і ў першы раз. Але цяпер ужо яна паказвала, як і што трэба рабіць. Усю тую першую змену Валя ніяк не магла налаўчыцца ставіць рукаў.

Толькі праз якіх месяцы два ў яе ўсё пайшло як мае быць. Нэля глядзела на спрытныя рухі валіных рук і гаварыла ёй:

— А ты казала, што ў цябе ніколі не будзе выходзіць так, як у мяне. Аж вунь выходзіць яшчэ лепш.

— Гэтак ужо і лепш,— сціпла казала Валя, а сама ў душы захаплялася сваёй работай, нават ганарылася тым, што яе рукам паслухмяны фрэзерны станок. У той дзень, як толькі вучні выйшлі з цэха, Валя ўсклікнула:

— Дзяўчаткі, а я ўжо сапраўдная фрэзероўшчыца, мне Нэля сказала, што хоць сёння магу яе замяніць.

Косця Ціхановіч і Эдуард Кушнярoў выбралі сабе іншую спецыяльнасць. Яны вырашылі навучыцца на кантралёраў аддзела тэхнічнага кантролю. І вось яны сядзяць у лабараторыі АТК за вялізным мікраскопам, а лабарантка Марыя Музыкантава тлумачыць ім, як абыходзіцца з гэтай вельмі складанай і дакладнай прыладай. Пад канец сваёй рабочай практыкі хлопцы гэтак напрактыкаваліся, што начальнік АТК Барыс Мікалаевіч Смірноў пасылаў іх самастойна прымаць самую дакладную і тонкую работу.

Больш, як паўтара года трынаццаць лепшых вучняў кожную суботу прыходзілі ў 3 гадзіны дня ў першы механічны цэх, у лабараторыю АТК, станавіліся хто за фрэзерны, хто за такарны станок і працавалі гэтак-жа, як і кадравыя рабочыя завода. А незадоўга перад экзаменамі ў школе на атэстат сталасці на заводзе ў першым механічным цэху сабралася кваліфікацыйная камісія на чале з дырэктарам завода Бязлюдавым. Вучні — маладыя рабочыя — хваляваліся і перад гэтым экзаменам на рабочую сталасць. Члены кваліфікацыйнай камісіі былі вельмі патрабавальнымі, асабліва начальнік цэха Пятро Кузьміч Кузняцоў. Ён патрабаваў, каб вучні чыталі чарцяжы, рабілі самае дакладнае апісанне фрэзаў, вызначалі клас дакладнасці. Але як ні былі яны патрабавальны, усе трынаццаць вучняў здалі экзамены на рабочыя разрады. Дырэктар завода, віншуючы маладых рабочых, сказаў:

— Я спадзяюся, што вы, атрымаўшы атэстаты сталасці, прыдзеце ў цэхі нашага завода. Нам заўсёды патрэбны рабочыя з адукацыяй.

Валя Ліпень не магла ўтрымацца, каб не сказаць слова:

— З атэстатам сталасці я прыду да свайго фрэзернага станка і стану работніцай такога выдатнага завода, як наш. А пасля паступлю завочна ў політэхнічны інстытут і буду вучыцца, каб назаўсёды звязаць сваё жыццё з нашым слаўным рабочым класам.

У добры час вам, маладыя сябры, перад вялікай дарогай жыцця, — скажам мы маладым людзям, якія атрымалі атэстаты сталасці і сталі рабочымі.




Афіцэр В. Абмялюхін (першы справа) расказвае сваім сябрам па службе аб выкананні палётнага задання.
Фото В. Аркашова.

# Палёт на перахват

Н. ВІНАГОРАЎ

Павінны былі адбыцца вучэбныя палёты... Бамбардыроўшчык «праціўніка» вылецеў на заданне. У яго бомбавых люках — смертаносны груз. Самалёт ляцеў з велізарнай хуткасцю. Паветраны «парушальнік» яшчэ не бачны і не чутны. Ніхто не ведае пра яго заданне.

Але вось дальназоркае вока радыёлакатара заўважае бамбардыроўшчыка далёка ад умоўнай лініі фронта. На экране лакатара з'яўляецца кропка — адзнака самалёта-«парушальніка». Нельга марудзіць ні секунды. Трэба неадкладна паведаміць зенітчыкам аб набліжэнні ворага, узняць з аэрадрома знішчальнікі. Гэтую задачу па загаду афіцэра выконвае радыст. Як ні вялікая хуткасць сучаснага самалёта, але яшчэ з большай хуткасцю распаўсюджваюцца радыёхвалі. Пакуль самалёт за секунду праляціць некалькі метраў, радыёхвалі могуць абысці вакол Зямлі некалькі разоў.

У эфір ляціць трывожны сігнал, па якому павінны стаць у баявую гатоўнасць лётчыкі-перахватчыкі, каб знішчыць самалёт «праціўніка» раней, чым ён скіне свой смертаносны груз.

Гэта каманда лётчыку Вячэславу Абмялюхіну. Ён неадкладна падрыхтаваўся выканаць любое заданне камандзіра.

Мінутная стрэлка вялікага штурманскага гадзінніка, што стаіць на стале кіраўніка палётамі, ледзь кранулася, як са старта пачуўся нарастаючы гул уключанага рухавіка. Праз некаторы час афіцэр Абмялюхін вырулiў на лінію старту. Устанавіўшы знішчальнік паралельна да лініі пасадачных знакаў, лётчык спытаў дазволу на ўзлёт.

— Узлёт дазваляю, — перадаў па радыё кіраўнік палётамі.

Міма каманднага пункта імкліва пранёсся серабрысты знішчальнік.

Набраўшы вышыню, лётчык праверыў сувязь з камандным пунктам, атрымаў заданне...

З гэтай мінуты радыёлакацыйная станцыя пачала сачыць не толькі за бамбардыроўшчыкам «праціўніка», які ўвесь час набліжаецца да аб'екта, але і за знішчальнікам-перахватчыкам. Поспех перахвату цяпер у роўнай ступені залежыць ад дзеяння лётчыка і каманднага пункта. Каб не дапусціць «праціўніка» да аб'екта, знішчальнік і разлік працуюць зладжана, быццам гадзіннікавы механізм. Апаратары дакладна вызначаюць каардынаты цэлі, а таксама знішчальніка, які ідзе насустрач. Усе гэтыя дадзеныя авіятары наносяць на планшэт. З цягам часу дзве кропкі становяцца ўсё бліжэй і бліжэй.

Задача штурмана каманднага пункта заключаецца ў тым, каб вывесці знішчальніка не толькі ў раён бачнасці цэлі, але і ў зыходнае становішча для атакі, а таксама забяспечыць у працэсе паветранага бою выкананне знішчальнікам паўторных атак.

В. Абмялюхін ляціць не бачачы «праціўніка». Ён дакладна выконвае каманды «зямлі» і ўвесь час сочыць за паветрам, як кажуць лётчыкі, вядзе пошукі праціўніка. Зоркасць для знішчальніка — закон жыцця. Хто дрэнна бачыць, таго заўсёды б'юць. Не дагледзіш вокам — заплаціш бокам, — кажуць лётчыкі.

— Разварот налева, на 20°, — чуе Абмялюхін у навушніках. Ён паўтарае каманду і разварочвае самалёт на ўказаны курс.

Праходзяць мінуты. На камандным пункце чуецца голас лётчыка:

— Увайшоў у воблачнасць, дазвольце прабіваць!..

— Прабіваць воблака дазваляю, — адказвае камандзір. Ён паўтарае лётчыку курс і вышыню.

У кабіне самалёта становіцца цёмна. Знікаюць зямныя арыенціры. Усю сваю ўвагу лётчык пераключае на паказанні пілатажных прыбораў і перш за ўсё на авіягарызонт. На авіягарызонце сілуэцік самалёта размясціўся вышэй і паралельна да гарызантальнай лініі. Гэта значыць, самалёт набірае вышыню па прамой і без крэнаў. Затым лётчык кідае позірк на варыёметр. Прыбор паказвае, што самалёт набірае вышыню з хуткасцю, якая патрэбна для прабівання воблакаў. Усё гэта вельмі важна для паспяховага выканання задачы.

Лётчык услухоўваецца, як працуе рухавік. Паказанні прыбораў, што кантралююць воблачнасць, і рытмічны гул турбіны запэўняюць яго, што ўсё ў парадку.

Самалёт «праціўніка» час-ад-часу манеўруе: мяняе вышыню, напрамак. Ён прымае меры каб збіць з курса авіятараў. На нейкі момант цэль на экране лакатара знікае. Апаратары спакойна, але хутка наладжваюць станцыю. Дорага кожная секунда! Неўзабаве адзнака цэлі паказваецца зноў, але ўжо на другім месцы. Лётчыку пасылаецца новая каманда.

Стрэлка высатаметра знішчальніка падыходзіць да зададзенай вышыні перахвату. Але вось нечакана — воблакі не прабіты. Значыць, бамбардыроўшчык ідзе ў воблакі. Гэта перашкаджае выкананню задачы.

Між тым, на планшэце афіцэра каманднага пункта адзначана, што дзве кропкі сыходзяцца. Наступіў самы адказны момант работы баявога разліку. Трэба вывесці знішчальнік у зручнае становішча для атакі.

— Падрыхтавацца да развароту!

Неўзабаве падаецца каманда на разварот. Лётчык дакладна вытрымлівае крэн і курс.

— Увага!

Значыць, цэль блізка. Цяпер поспех задання цалкам залежыць ад лётчыка. Ён узмацняе назіранне за паветрам у разрывах воблачнасці. Але вось верхні край воблачнасці паплыў уніз, а бамбардыроўшчык усё яшчэ не бачны.

Знішчальніку дадзены новы курс. Каб не праскочыць «праціўніка», ён змяншае хуткасць, аб чым неадкладна паведамляе «зямлі». Увага лётчыка вельмі напружана. «Праціўніка» трэба не толькі знайсці, але і атакаваць, а прыборы паказваюць, што гаручага застаецца нямнога. Пра гэта-ж напомніў і камандзір.

— Што-ж, хіба вяртацца ні з чым? Не, «праціўніка» нельга падпускаць да аб'екта, яго трэба знайсці і знішчыць! Нават, калі самому давядзецца прызямліцца на незнаёмым аэрадроме.

Лётчык удакладняе каардынаты бамбардыроўшчыка. Знішчальнік упэўнены, што знойдзе яго. У Абмялюхіна паляўнічы зрок і арлінае чуццё. Праходзяць яшчэ некалькі секунд, і на фоне белых воблакаў заўважаецца бамбардыроўшчык. Ён ляціць, маскіруючыся воблачнасцю, то хаваецца ў ёй, то паказваецца ў разрывах воблакаў. Але яму не ўцячы!

— Цэль бачу! Атакую! — паведаміў Абмялюхін. Ён выраўняў хуткасць і выбраў момант для адкрыцця агню. Адна чарга, другая...

На камандным пункце ўвесь час сачылі за абодвума самалётамі. Калі знішчальнік заўважыў цэль, разлік уздыхнуў з палёгкай. Кожны з іх трымаў экзамен. І вытрымаў добра!

Але праца яшчэ не скончана. Разлік «вядзе» самалёт на свой аэрадром.

Вучэбнае заданне выканана. Вынікі дэшыфравання здымкаў фотакулямёта паказалі, што цэль знішчана. Гэта значыць, калі-б перад знішчальнікам Вячэславам Абмялюхіным быў самалёт сапраўднага праціўніка, яму-б не прайсці — ён быў-бы збіты яшчэ далёка за лініяй фронта, над варожай тэрыторыяй.

**Іван ГРАМОВІЧ**

# Рына-Марына

**Апавяданне**

Мал. Г. Паплаўскага



З карэтай «хуткая дапамога», у якой ехалі дзяжурны доктар, яна і яшчэ адна медсястра, здарыўся няшчасны выпадак. Яны ехалі днём па цэнтральнай вуліцы горада. Машына імчалася правай стараной, па яе сігналу быў адкрыты праезд на ўсіх скрыжаваннях. І раптам на рагу нечакана, з боку, выскачыў маленькі «масквіч» і шмыгнуў карэце пад колы. Ён, мабыць, спадзяваўся праскочыць.

Яна сядзела ў карэце бліжэй да кабіны і бачыла, як вадзіцель хацеў абмінуць гэтага неасцярожнага, нецярплівага ездака, а мо' разяваку на сваёй уласнай малалітражцы; ён на хаду затармазіў і крутнуў абаранак. Яна помніць рэзкі ўдар ілбом у кабіну, трэск і звон шкла. Гэты балючы звон зрабіўся несціханым і надоўга працяў усё яе цела.

На месцы здарэння ўмомант сабраўся натоўп. Падышоў тралейбус — спыніўся, усе пасажыры высыпалі на вуліцу. Пакуль міліцыя распачынала сваю справу, сёй-той дапамагаў няшчасным, сёй-той разглядаў, пытаўся. Некаторыя не маглі стрымаць гнеў, казалі, што зараз пешаходу на вуліцы нікога баяцца не трэба: ні трамвая, ні тралейбуса, ні іншай машыны, акрамя «масквіча», якога купіў грамадзянін ва ўласнае карыстанне. Небяспечнымі сталі вадзіцелі. Дарэчы, вінаваты, дзядзька з пабітымі акулярамі, гаспадар цяпер патрушчанай машыны, разгублены і спалоханы, мітусіўся між людзей. Ён ехаў адзін і не вельмі каб пацярпеў. Яму больш дасталася ад прысутных, якія акружылі яго аднагалосным абурэннем.

Медыцынская сястра нічога гэтага не чула. Яна апынулася на руках шафёра аднае машыны, якая падаспела на месца аварыі. Шырокаплечы юнак у клетчатай рубашцы з расшпіленым каўняром беражліва нёс яе, падтрымліваючы адной рукой пад калені, другой — пад плечы. Дзяўчына была ў непрытомнасці: галава яе бязвольна схілялася на грудзі, ногі ў басаножках проста віселі. Шафёр, відаць, бывалы на такіх здарэннях, закамандаваў даставаць з машыны астатніх — чаго было разглядаць ці чакаць!— а сам са сваёй ношай падаўся да ўласнай «пабеды». Натоўп перад ім расступіўся. Нехта адчыніў яму пярэднія дзверцы.

Не прайшло і пяці хвілін з моманту няшчаснага выпадку, як пацярпеўшыя — доктар і дзве сястры, адна пажылая, другая гэтак год дзевятнаццаці, былі адпраўлены ў клініку. Усе думалі, што вось яны выехалі з клінікі і з нічым вярнуліся назад да сябе, у клініку, а дзесьці нехта чакае хуткай дапамогі, можа скалечаны ці памірае. Так думаў і шафёр у клетчатай рубашцы. Ён не ведаў, што карэта з сястрою, якую ён ратуе, належыць радзільнаму дому і ўсе гэтыя пацярпеўшыя ехалі па тэлефоннаму выкліку да парадзіхі.

На мосце «пабеда» падскочыла, здрыганулася, і сястра, якая сядзела побач, вяла прытуліўшыся да шафёра, войкнула і адкрыла павекі. Убачыўшы крою на сваім белым халаце, сіне-блакітныя вочы яе акругліліся, зрабіліся вялікімі, яшчэ больш сінімі. Яна паварухнулася, каб раўней сесці, і зноў войкнула. Адкрытыя збялелыя губы паказалі асцятыя рады густых зубоў. Дыханне было частае і парывістае.

— Баліць? — запытаўся ён, але яна не адказала.—Ну, нічога, нічога! Пройдзе!

Дзяўчына толькі зірнула на яго з мальбою; шафёр стаў яшчэ мякчэй, лагодней суцяшаць яе, спрабуючы нават пажартаваць. Яна ўжо зусім апрытомнела, маўчала і старалася не застагнаць.

На двары ў клініцы ён хуценька выскачыў з машыны, адчыніў процілеглыя дзверцы і старанна ўзяў яе аберуч, падняў, як і раней. Ён не намнога быў старэйшы за гэтую дзяўчыну. Так ён падумаў, узяўшы яе другі раз на рукі. А яна, зноў адчуўшы сябе ў дужых абдымках, падатліва і паслухмяна абняла яго шыю і чамусьці ўсхліпнула.

— Нічога, нічога!— супакойваў ён.

Несучы да прыступкаў ганка і сціскаючы ў руках гэтую маладую дзявочую постаць, ён адчуваў сябе надта дужым, нават неяк ганарыўся, што рашыў спожніць такі нечаканы абавязак. Ён бачыў, што з дзяўчынай нічога небяспечнага не здарылася, і радаваўся гэтаму. Яму прыемны быў яе даверлівы дотык да шыі, да валасоў. За шклянымі дзвярмі клінікі ў калідоры ён пайшоў дробна, памаленьку, быццам не хацеў адпускаць ад сябе сястру.

— Цябе як завуць?

Яе звалі Марына. Але яна ад болю вымавіла праз зубы:

— Рына.

— Нічога, нічога, Рына! Усё пройдзе. Усё будзе добра,— падбадзёрыў ён.— А мяне завуць Мікола. Коля!.. Запомніш? Я заўтра наведаюся... Ну, папраўляйся, Рына!..

І ён сапраўды назаўтра прыехаў у клініку даведацца пра яе здароўе. Але яны не ўбачыліся. Было позна, і яму не дазволілі спаткацца з ёю. Яго супакоілі, што медсястра, якую ён ратаваў, скора папраўіцца. Яна перанесла моцны ўдар. І толькі. Вось астатнія — горш. У доктара сатрасенне мазгоў, а пажылая сястра, напэўна, застанецца інвалідам да канца сваіх дзён. Што датычыцца шафёра карэты і гаспадара «масквіча», то ім толькі зрабілі перавязкі.

Марына ў бальніцы — праўда — доўга не ляжала. «Шчасце тваё»,— казалі сяброўкі, прыходзячы ў палату паспачуваць ёй. А яна сабе думала: «У чым-жа тое шчасце, хіба ў тым, што сядзела ў карэце бліжэй за ўсіх да кабіны?» і ўсміхалася. Яна так выцялася, што цяпер у яе ўсхапіліся гузакі, а над брывом рану ёй старанна зашылі і забінтавалі.

Калі гэта рана загоілася, яе выпісалі. Марына перш-на-перш пайшла не дадому, а туды, дзе яна працавала. Яе спаткалі па меншай меры, як гераіню, якая вярнулася пасля нябачанага подзвігу. Ну, што-ж, здараюцца і ў будзённым жыцці гераічныя моманты!.. Толькі ёй не хацелася бясконца расказваць пра той няшчасны выпадак. Марына сама ўсіх распытвала. Яе так абрадвала сардэчная сустрэча з усімі, што яна адмовілася ад бюлетэня і на наступны дзень, як звычайна, выйшла на работу. Выйшла, усёроўна як з ёй нічога тыдзень таму назад не здарылася.

Неяк яна вярталася з работы. Стаяла сонечнае лета. Але верасьнёвыя парывы ветру калацілі дрэвы. Пылела. (Той дзень ёй запомніўся вельмі добра.) На скверах, на плошчах шамацела лісце. А Марына з яркімі кветкамі ў руках, рэдкімі ў тую пару, ішла і думала сабе, як зараз прыдзе дадому, паставіць кветкі ў ваду, хуценька згатуе смачны абед. У вокнах кватэр гаспадыні павыстаўлялі засыпаныя цукрам шкляныя банкі з вішнямі, суніцамі. Яна ішла, заглядала ў вокны і зайздросціла.

Раптам па вуліцы паўз тратуар пранеслася «пабеда», абагнала Марыну і спынілася. Дзверцы ў машыне пстрыкнулі, адчыніліся, і адтуль выглянуў шафёр у клетчатай рубашцы.

— Рына!— паклікаў ён.— Сядай, падвязу! Гэта быў Коля. Яна адразу пазнала і ўспомніла яго. Успомніла, як у палацы ёй перадавалі яго прывітанне. Без шапкі, загарэлы, ён і цяпер быў такі, як тады, калі нёс яе на руках у прыёмную клініку. Тады ў яе кружылася галава, а цяпер неяк забілася сэрца. Гэта-ж яна была ў яго на руках!..

— Сядай, сядай! — загадаў ён. — Ну, як тваё «нічога»? Папраўілася?

— Як бачыце, паправілася.
— Правільна! Так і трэба.
— Толькі знак яшчэ вось,— паклаўшы сумачку на калені, паказала яна шрам над брывом.
— Э-э, глупства! Не так яшчэ бывае! — зірнуў і зноў прадаўжаў кіраваць Коля.— От і ўсё добра! А то спалохалася тады, збялела... Ні слова, як рыба...
— Я не помню, што было,—сарамліва адказала Марына.— Памалу! Нашто вы гоніце машыну?
— Хе-хе! Баішся? — засмяяўся Коля.
— А што-ж?! Вашаму брату, шаферу, цяпер даваряць нельга. Самі былі сведкам.
Колю, як шаферу, гэта было пацешна. Ён знарок націснуў на педаль і дабавіў скорасць.
— Ха-ха-ха!— смяяўся ён.— Мы паўзем, як чарапаха. Але, як гаворыцца, апёкшыся на малацэ, на ваду дзьмухаем. Ці як гэта?.. Толькі я, Рына,— не з такіх!

Коля любіў пахваліцца, калі гэта было пад настрой. І зараз такое жаданне апанавала яго. Ён пачаў расказваць, што працуе вадзіцелем у аднаго начальніка. Што гэта «пабеда» — яго персанальная машына. Яна стаіць у гаражы Совета Міністраў. У Колі правы першага класа. Ён ужо даўно здаў экзамен на гэтыя правы. І машыны розных марак даўно водзіць, але на гэтай, сіняй «пабедзе», ездзіць з таго часу, як дэмабілізаваўся. Яны з начальнікам выязджаюць у працяглыя камандзіроўкі ў бездараж, слоту, часамі ноччу, як «па трывозе». І ніколі ў яго «чапэ» не здаралася. «Гаспадарка» заўсёды ў парадку.
— Ну, а дзе ты жывеш? — раптам змяніў ён напрамак гаворкі.

Марына так заслухалася расказам Колі, што забылася назваць сваю вуліцу яшчэ ў пачатку, калі села. Ён расказваў весела, цікава, спрытна кіраваў машынай, прызнаваўся ва ўсім, здаецца, без хітрасці і адначасова быў клапатлівым да яе. На гэта не ўсякі меў здольнасць. У любым яго руху было столькі бойкасці, энергіі, непасрэднасці, якая заўсёды захапляла, падабалася новаму, незнаёмаму чалавеку.
— Ты і нарадзілася тут, у горадзе?
Яны звярнулі на ўскраіну ўжо блізка ад марынінага дома. Адсюль віднеліся прыгарадныя мясціны, палетак, лес удалечыні. Марына праз акенца паглядзела за горад, моўчкі, нібы ў згодзе, кіўнула ў адказ, а сама тым часам успомніла сваё сяло. Не лёгка ўспамінаць гісторыю сірочага маленства. Там, дзе яна нарадзілася, на тым месцы, дзе стаяла бацькава хата, пасля вайны нічога не засталося. Нават бярозы пагарэлі. Гэта далёка ад горада, у былой партызанскай зоне. Сяло не перастала існаваць, аднавілася, але ўся яго адбудова і новы дом марынінай цёткі, якая некалі прытуліла ў сябе дачку брата-партызана, вараслі з другога канца. Сяло так аднавілася, што нельга было яго пазнаць. Марына ездзіла туды ў госці гады са тры таму назад, якраз як скончыла медыцынскае вучылішча. І называлася гэтае паселішча смешна — Пальчык. Марына заўсёды саромелася назваць сваё роднае сяло. Ну, як гэта выгаварыць перад усімі? Адкуль ты? З Пальчыка. Куды ты едзеш? У Пальчык. Неяк сорамна...
— Значыцца, ты тут жывеш? — сказаў Коля, спыняючыся перад невялічкім драўляным домікам з чырвонымі аканіцамі.
— Тут,— адказала Марына.— Я кожны дзень па гэтай вуліцы на работу хаджу. І з работы.
— От, гэта вуліца!.. От, гэты дом!..— нараспеў пажартаваў Коля. — Буду мець на прыкмеце. Запомню твой дом, Рына.
— Яна ўсміхнулася і, ужо трымаючыся за ручку дзверцаў, сказала:
— Вы, Коля, не так мяне завеце. Я не Рына, а Марына.
— Марына? — здзівіўся ён. — Марына! Рына-Марына! А так яшчэ лепш — Рына-Марына! Рына-Марына!
Яна засмяялася, пакідаючы кабіну, і не заўважыла, як ён выхапіў з букета кветку. Тут-жа ён прымацаваў яе ў кішэньку клетчатай рубашкі. Гэта была самая ружавейшая кветка.
Ужо стоячы на тратуары, Марына, як гэта належыць, падзякавала шаферу.
— Няма за што! — адказаў Коля і з падкрэсленым жэстам панюхаў украдзеную кветку.— Вось ад цябе замест падзякі. Не крыўдуеш, што ўзяў?
— Калі ласка! — згадзілася яна.
Марына пайшла да брамкі ў варотах, «пабеда» фыркнула і знікла. Яна не глянула ўслед машыне, але дома, дагледзеўшы кветкі і паставіўшы букет на стол, падумала: «Мне трэ' было самой усе іх падарыць яму».
Тут яе думкі абарвала, уляцеўшы ў пакойчык, стрыечная сястра Зоя.
— Паслухай, Мара! — абняўшы Марыну, загаварыла яна.— З табою хоча пазнаёміцца Барыс. Помніш, такі сімпатычны, у шэрым касцюме, з кітайскім гальштукам. Ён з нашага тэрапеўтычнага факультэта. Пойдзем сёння ў кіно?..
Марына жыла ў пакойчыку разам з Зояй. Пакойчык быў невялічкі, але ўтульны. Сонечнае, поўднёвае акно асвятляла пафарбаваную падлогу, гарнітурную шафу ля дзвярэй і снежнабелыя пасцелі з вышываннем на падушках, фотакарткі на сценах, ля якіх стаялі ложкі, адзін насупроць другога. Увесь домік належаў другой марынінай цётцы. Навокал яго быў пляц з агародамі і садком, як ва ўсіх гаражан-старажылаў. Гэтая цётка таксама была па бацькавай радні. Марына пасля сямігодкі ў Пальчыку прыехала сюды, ды так і засталася. Яе прынялі тут, як сваю, і пасялілі са светлавалосай равесніцай і сакатухай Зояй. Зоя цяпер вучылася ў медыцынскім інстытуце. А Марына тады-ж, прыехаўшы з сяла, паступіла ў медвучылішча і зараз ужо трэці год самастойна працавала. Сёстры дружылі, не спрачаліся, аднак Зоя гульнямі і вечарамі захаплялася больш, чым Марына. Тут іх густы разыходзіліся, хоць яны ад чатырнаццаці год, як кажуць, разам елі і спалі галава ў галаву.
— Заўтра мне рана ісці на работу,— адказала сястры Марына.
— Ой, гэта твая работа,— перадражніла Зоя.— Вечна ў цябе адзін адказ... Нібы я нічым не занятая.
Да работы сваёй Марына ставілася, як да чагосьці надта важнага, самага большага ў жыцці. К такому ўсведамленню яна дайшла сама, і не скора. І трэба прызнацца, што яно стала ясным неяк неспадзявана. Калі дзядзька, Раман Іванавіч, калісьці параіў ёй паступіць у медвучылішча, яна ніколі не прадчувала, што ёй па характару дасца гэтая спецыяльнасць медыцынскай сястры. Пачатак вучобы быў нудны і нецікавы. Марына адразу нават каялася, што зрабіла такі выбар. Канешне, душэўна яна была падрыхтавана да больш выпрабаванняў і цяжкасцей, якія маглі сустрэцца на яе шляху. Пасля свайго жахлівага маленства Марына расла замкнутай, крыху дзікаватай. Здавалася, яе сэрца ачарсцвела да ўсялякага ўласнага болю і да болю і пакут у іншых. Сінія вочы падлетка Марыны былі спакойныя, задуменныя, бадай што халодныя. На другім курсе, асабліва на практыцы, яны зрабіліся вострымі, з адзнакай кемлівасці. Яна не крывілася, слухаючы розныя хірургічныя аперацыі, раны і пакалечанні, наглядаючы, не баялася, як іншыя, і магла сама зрабіць самую цяжкую перавязку, не адварочваючыся ад крыві.
«У цябе, Марына, каменнае сэрца»,— казалі ёй сяброўкі. І яна не пярэчыла ім.

Але якое-ж здзіўленне, ці разгубленасць з'явілася на марыніным твары, калі яна пачула, куды яе прызначаюць пасля выпуску ў вучылішчы!.. У горадзе адкрыўся новы радзільны дом. І Марына пасля экзамена была ўключана ў спіс яго штатных работнікаў. «Куды-ж гэта?— думала яна.— Што-ж я там буду рабіць?» Але гэтая разгубленасць была ад няведання ўмоў работы. Неўзабаве ўсё наладзілася і яна зразумела свае абавязкі. «Каменнае сэрца» і тут не прадчувала, што ў ім прачнецца гэтулькі чуласці, шчырасці і спагады да тых, хто трапляў пад яго нагляд у палату. Работу сваю яна палюбіла і праз нейкі месяц зразумела, што перад ёю адразу здрабнелі ўсе іншыя інтарэсы.
У канцы дня, вярнуўшыся з работы, Марына частавала Зою прынесеным шакаладам і дзялілася сваімі ўражаннямі.
— Ты ведаеш, што ў нашай краіне штогод прыбывае тры мільёны насельніцтва,— таямніча казала яна сястры.—Такі вялікі прырост! Кожную гадзіну нараджаецца трыста семдзесят пяць чалавек... А па ўсім зямным шары — кожную секунду два чалавекі... Кожную секунду два чалавекі!
Зоя пырснула ў жменю і кінулася на пасцель ад смеху.
— Чаго ты рагочаш? — насупліваючы бровы, пыталася Марына.
— Адзін смех! — адказала Зоя, абдымаючы свае калені.— Гэта вам на палітзанятках гаварылі?
— Прычым тут палітзаняткі? Я сама вычытала.
— Ха-ха-ха! — залівалася Зоя.
— Нічога тут смешнага не бачу,— пакрыўджана сказала Марына.— Прыдзі да нас, паглядзі! Я цябе колькі разоў запрашала і халат насіла... А ты ўсё зубы паказваеш. Гэта несур'ёзна. Ты-ж будучы ўрач.
— Я будучы ўрач-тэрапеўт,— з напускной важнасцю адказвала сястра.— У дом ваш мне рана адчыняць дзверы... Ха-ха-ха! Мне лепш у тэатр... ці ў цырк! Ну, чаго ты злуешся, Мара.
Такія размовы ішлі на першай пары. Потым яны былі спынены. Марына перастала расказваць Зоі свае навіны. Ды тая і не цікавілася імі. Аднак шакаладам, падарункамі, якія прыносіла сястра, яна рада была паласавацца і падзяліцца. Марына саступала, і з ёю нельга было распачаць сварку.
Зоя не разумела сваю сястру. Тады, калі Марына трапіла ў бальніцу пасля аварыі, а Зоя прыбегла да яе, то на развітанні яна прасіла збянтэжылася. Яна запытала, чаго Марына хоча, якія будуць даручэнні, і выслухала сястру, раскрыўшы рот.
— Пазвані да нас у дзяжурку,—знямоглая загадала хворая.— Запытайся, як з той парадзіхай, да якой мы ехалі. Я... я сама па тэлефону выклік прыняла. От, няшчасце! Ты даведайся і скажаш заўтра, што з ёю?..
Зоя жахліва зірнула на забінтаваную галаву



сястры, і ў яе тады паказаліся слёзы. «Памуцілася яна!» — з жалем падумала аб сястры Зоя...

І яшчэ аднаго не разумела Зоя ў Марыне — гэта яе адносін да хлопцаў. Марына з цягам часу зрабілася страйнейшай і паўнейшай за сваю сястру. На вечарах, на танцах, дзе яны бывалі ўдваіх, юнакі больш заглядаліся на Марыну. Студэнт трэцяга курса Барыс Любан проста надакучыў Зоі пісулькамі аб сястры. Дзе яна? А яна, як знарок, выклікаючы сестрыное недаўменне, да ўсіх заставалася абыякавай.

Час ішоў, і Зоя крадком, з радасцю для сябе, адзначыла ў Марыне перамену. Пачалося ўсё, здаецца, з аварыі. Яна заўважыла, як сястру нехта падвёз на машыне. Потым яшчэ раз. Зоя гэта бачыла, але, хітруха, не хацела дапытвацца, чакала, пакуль тая сама прызнаецца ў нечым невядомым.

А гэта невядомае, новае з Марынай адбывалася так.

Коля і другі раз дагнаў яе, калі яна зноў вярталася з букетам кветак.

— Рына-Марына, прывет!— крыкнуў ён параўняўшыся з ёю, і адразу адчыніў дзверцы сіняй «победы». — Паехалі!

Марына села, папраўляючы сумачку на локці, і разам з кветкамі ў руках, здаецца, заружавела ад радасці. У яе быў надзвычай бялявы твар. Ледзь-ледзь захвалюйся — ён увесь гарыць, а шчокі палаюць. Марына была нездаволена сабой. У смуглых і чарнявых гэта не відно. Бывала, гледзячыся ў люстэрка, яна зайздросціла ў думках смуглатварым: тыя, здаецца, умелі хаваць свае душэўнае ўзрушэнне.

— Што? Ты зноў з букетам?— здзівіўся Коля.— Цікава!..

Стаяў позні верасень. Усё на скверах і ў парках адцвітала, а Марына туліла да грудзей свежыя, яркія кветкі.

— Сур'ёзна, дзе ты бярэш такія букеты? — сказаў Коля.— Яны-ж цяпер дарагія.

— Гэта падарунак,— прыціскаючы да сябе кветкі, адказала Марына.— Мне іх падарылі.

— А-я-я-яй!— яшчэ больш здзівіўся Коля, раз-по-разу пагладаючы то на букет, то на Марыну.— Ад каго? Хто-ж такія падарункі дае штодзень?.. Цябе, мусіць, няйначай, прафесар акадэмік праводзіць з бальніцы на ганак?

Марына засмяялася, ды так ад душы і так звонка, што і яму стала смешна. І ён стаў рагатаць. Калі гэтую вясёлую мінуту пад шум калёс «победы» яны пакінулі за сабою, Коля пачаў сур'ёзна:

— Праўда, Рына!.. Дзе ты працуеш?

— У бальніцы,— сказала яна і (бывае смехатлівы настрой) зноў прыступ смеху напоўніў грудзі. Таіць ад Колі свае месца работы яна не збіралася — яна ганарылася сваёй работай, як гэтымі кветкамі,— але ёй проста хацелася пажартаваць з ім. Ды што ён сам такі нездагадлівы? Вядома, жартуе!

— Што-ж, у вас там кветнік ёсць?— круцячы баранку, казаў Коля.— Можа, аранжарэя ці цяпліца якая?

Марына не выцерпела і зноў залілася соладка смехам. Яна бачыла, што ён жартуе, і ёй прыемна было жартаваць з ім.

— Можа, пакатаемся? — спытаў Коля, пад'язджаючы да міліцыянера на скрыжаванні вуліц.— От так, аж за горад! Гэта раз-два!

Марына, калі-б гэта калісьці, калі-б не такі вясёлы настрой, калі-б не з тым, хто яе ратаваў, безумоўна, не дала-б згоды. Але тут яна завагалася і не асмелілася катэгарычна адмовіць.

— Толькі не надоўга,— сказала яна.— Трошачкі праедзем і назад...

«Пабеда» ірванулася, аж вецер засвістаў у прыадчыненых вітражах. Хоць Марына і прасіла павольна ехаць, Коля наперакор ёй, смеючыся, угаварваў не палохацца і знарок праязджаў у дотык з сустрэчнымі машынамі. Так яны не агледзеліся, як выскачылі за горад. Тут перад імі злева паказаліся два дамы, між якімі была нацягнута вяроўка з развешанай бялізнай, а справа, збоку, дзе сядзела Марына,— шырокі краявід, луг і рэчка, а далей лес. Коля спыніўся. Яна паклала букет і ўзялася за ручку дзверцаў.

— Пачакай!— стрымаў Марыну Коля.— Сядзі, мы яшчэ прагазуем!

Удалечыні Марына ўбачыла лес і адмоўна кіўнула галавой. Яна сказала, што лепш тут адпачыць, паглядзець і вярнуцца ў горад. Тут



быў узгорак, усё навокал далёка было відно.

— Тады давай пракатаемся назад, аж на той канец,— горача прапанаваў Коля.— Зноў цераз увесь цэнтр.

Марына ўсміхнулася.

— Ну, а што тут цікавага?— запярэчыў ён.

— А ваш начальнік убачыць,— сказала Марына, — і стане сварыцца потым.

— Ну, яшчэ!— махнуў рукой Коля і націснуў на педаль.— Я свайго начальніка адвёз на вакзал. Ён паехаў у Маскву, у камандзіроўку.

Машына вільнула на бугры і паімчалася ў горад, быццам яна там штосьці забылася.

Коля цяпер ехаў роўна, спакойна, нікога не абганяў. Марына гэта прыкмеціла і была рада, што ён яе паслухаўся. Сталі гаварыць аб усім, што траплялася на позірк. Аб новых будоўлях, аб магазінах. Праязджаючы там, дзе калісьці была аварыя, ён і яна аб здарэнні загаварылі адначасова. Ім стала аж смешна: значыцца, яны аднолькава думалі і ўспомнілі тое месца.

Праз нейкі час яны апынуліся на другім канцы горада. Гэта ўскраіна была ніжэйшая, без узгоркаў. Абапал старой, брукаванай дарогі выраўняліся, як на чыгунцы, густыя, высокія ёлкі, утварыўшы жываплот, за якім стаялі прысадзістыя яблыні. Безліч спелых яблыкаў і бярозавых падпорак віднелася між рэдкіх яловых прагалін. Тут была цішыня. Здаецца, яе ніхто, акрамя вартаўніка, не мог парушыць. Толькі зрэдку магла прагудзець выпадковая машына, накшталт іх «победы».

Коля спыніў машыну, Марына выйшла і ўздыхнула вольна, на ўсе грудзі. Толькі зараз яна адчула зморанасць за цэлы дзень. І яшчэ яна задыхнулася ад пахучага настою яблыкаў, тут, у блізкім садзе.

— Хараша?— падыходзячы да яе, запытаўся Коля.

Яна кіўнула ў знак згоды, агледзелася навокал і пачала расказваць, як яны каталіся на аўтобусе, калі выязджалі ў нядзелю на маёўку. Загаварыла, што яна вельмі любіць доўгае падарожжа, якое ёй ніколі не надакучвае. Коля стаяў побач з ёю. Упершыню яго незанятыя, без абаранкі рукі ніяк не знаходзілі сабе месца. Яны цягнуліся да Марыны і неяк незнарок злавілі яе два пальцы. І моцна злавілі. Яна паспрабавала вызваліцца і не змагла. У гэтым паядынку рук расказ яе абарваўся. Абедзве рукі трапілі ў яго дужую жменю. І раптам яна адчула, як Коля адным парывам абхапіў яе, быццам некалі, несучы ў клініку, і прыгарнуў да сябе.

— Не трэба!— сказала Марына, вызваляючыся ад Колі.

Яго ўсхваляванае дыханне чуваць было на яе твары. Рукі яго ўчэпіста самкнуліся дзесьці за плячыма. Ёй стала цесна. Ён лавіў губамі яе губы, а яна старалася схаваць свой гарачы твар. «Што-ж гэта?!»— мільгнула думка ў Марыны. Яшчэ адзін момант і вусны яе маглі спаткацца з яго вуснамі.

— Не трэба!— усё паўтарала яна і потым, сабраўшы сілы, штурхнула яго ў грудзі. Ён выпусціў яе з абдымкаў, потым зноў стаў намагацца абняць. Тады Марына нехаця размахнулася і ўдарыла Колю. Ударыла і тут-жа ёй стала шкада, што яна ўдарыла яго.

Ён, збянтэжаны, здзіўлена разглядаючы яе, нібы ў першы раз, адступіўся.

Марына папраўіла кафтанік. Позірк яе штосьці шукаў на зямлі і не знаходзіў.

— Калі хочаце, то я пайду пешшу адсюль.

Яна хацела вымавіць «калі будзеце прыставаць яшчэ», але сказала «калі хочаце». Вочы яе пазбягалі сустрэчы з яго вачамі. Коля адышоўся да машыны і, чуваць было, уздыхнуў.

— Паедзем!— апамятаўшыся, сказала яна.

Коля нешта пакалупаўся ў маторы, потым зайшоў са свайго боку і адчыніў дзверцы. Калі крануліся, ён загаварыў, быццам нічога між імі не было.

— Ну, і строгая ты... Дужая будзеш жонка,— і засмяяўся, баязліва пагладаючы на Марыну. — Ты, мусіць, хворых лупцуеш? Гы-гы-гы! Бяда будзе з табой мужыку... Не будзе яму жыцця. А дзяцей сыпнеш, як з прыпола. Штогод у радзілку!..

Марына адразу зразумела гэта ў літаральным сэнсе. Яна сцяміла, што Коля даведаўся аб яе працы. Аднак ён з усёй прастатой свайго характару і не падазраючы аб месцы яе працы, рагатаў і даводзіў свае, здавалася ёй, грубыя думкі. Яна мусіла слухаць. Ёй не было дзе дзецца.

— Як вам не сорамна так гаварыць?— толькі сказала яна.

— Ну, а што, няпраўда? Ты-ж, як гром! Хіба ты не адчуваеш сама? Эх!..

Коля ўздыхнуў, быццам пашкадаваў чагосьці пакінутага, беззваротнага. Крадком пагладаючы, ён адной рукою пачаў шукаць яе локця, мабыць, каб у час язды яшчэ хоць дакрануцца. Але Марына адсоўвалася. Яна глядзела толькі наперад з-пад насупленых брывей. І, вядома, усё чула, што ён гаварыў, і нават пад канец ёй здалося, што ён і не думаў абразіць яе, як яна спачатку палічыла.

— Выбачай!— папрасіў Коля на развітанне.— Ты не крыўдуй! Больш так не буду... Ты-ж, брат, ну... слоў не падабраць. Дальбог! З табою не ўседзіш. Не крыўдуй, Рына-Марына!..

Яна не ведала, што яму адказаць, дзе схаваць свае вочы і ўсё не давалася, каб ён да яе дакрануўся. Быццам дотык яго мог запаліць яе полымем. І нарэшце яна проста вырвалася з кабінкі.

— Рына! — паклікаў ён, і крык яго прымусіў яе агледзецца.— Рына-Марына, не крыўдуй! Ну, ладна... Бачу, не дарэмна табе дораць гэтыя кветкі. Пачакай, я табе таксама арганізую букет. Яшчэ не такі... Добра, Рына-Марына?.. Я цябе яшчэ дапільную!..

Марына пакрыўджаная прышла ў пакой. Зоі не было дома. Яна распранулася і чамусьці баязліва зірнула ў акно. Там, дзе стаяла колiна машына, цяпер ехаў ламавы рамізнік. Перачакаўшы, калі ён міне акно, яна адхінулася і падышла да люстэрка. Занятак перад люстэркам не быў у яе любімым, як, напрыклад, у Зоі. Марыне здавалася, што той, хто прыхарошвае свой вонкавы выгляд, надта выдаскальваецца ў гэтым, той, відаць, стараецца схаваць сваю сапраўдную, зусім супроцьлеглай якасці душу. А ёй не трэ' было клапаціцца аб гэтым. Яна была такой, што выгляд адпавядаў яе натуры — адкрытай і простай душы, як яна ўся сама.

Аднак з нядаўняга моманту ў Марыны з'явілася іншае адчуванне. Яна была ранейшая, але быццам глянула на сябе збоку. З'явіліся новыя думкі і жаданні, якіх раней не было. Марына настойліва не хацела ўспамінаць тое, што было гадзіну таму назад, што Коля гаварыў ёй у машыне, а яно само лезла ў галаву, за што яна ні спрабавала ўзяцца.

Яна лягла ў пасцель і таксама думала. Калі неадчэпная думка вярталася да таго, якім Коля быў да яе ля машыны, Марына ўся ўздрыгвала — у яе яшчэ не астыла абурэнне. Але яно ўжо было не такое, як тады, раз'юшанае. Цяпер-жа яна знаходзілася дома, адпа-

чывала, ухутаная цёплай коўдрай. І ёй усё здавалася, што шчокі яе палаюць, а дужыя рукі Колі, як абцугі сашчэплены ў яе за плячыма. Яна адчувала гэта целам і доўга не магла заснуць.

Раніцай, збіраючыся на работу, Марына падыйшла да люстэрка, каб завязаць сваю каляровую касынку. Зоя бачыла, як сястра доўга і старанна падбірала косы пад шаўковыя беражкі. І не дзіва! А што там? Марына прывыкла да акуратнасці на рабоце!

Наогул некаторыя дзяўчаты насілі касынку, як павязку ад зубнога болю. Згорнуць яе напалам, яшчэ напалам, як шалік, потым на завіўку, вушы павяжуць, завяжуць пад барадой, а ззаду матляецца ражок касынкі. З валасамі ён тырчыць, як ашчыпаны хвост у пеўня. Куды гэта мода?! Марына не любіла так.

Пасля сну і ўмывання твар яе быў ясны, а вочы свяціліся. Закінуўшы рукі ўверх, за сябе, каб завязаць ражкі касынкі на патыліцы, Марына хвілін пяць стаяла перад люстэркам.

— Ты пудрай!— параіла Зоя, бачачы, як Марына далонню разгладжвае шрам над брывом.

— Ай, не хачу!— адказала сястра.

Яна вышла на вуліцу і накіравалася да цэнтра. Марына ніколі не пазнілася на работу, хоць і часта бывала ў розных зменах. За свой параўнаўча невялікі час працы ў роддоме яна ўжо дасягнула сякога-такога поспеху. Практыка ёй залічылася на выдатна. Ва ўстанове яе, можна сказаць, налічвалася тры асноўных аддзяленні. Сёстры, як памочнікі дактароў, ва ўсіх гэтых аддзяленнях былі розныя, з рознымі абавязкамі. Яны не маглі адразу падмяніць адна другую, паколькі ў кожнай быў свой пэўны круг работы. Аднак Марына, працуючы са сваімі шматлікімі сяброўкамі, прайшла ўсе гэтыя аддзяленні, як ступені. І прыёмную, куды перш-на-перш траплялі парадзіхі, і аддзяленне, адкуль выпісваліся, вярталіся ўжо дадому маткі з дзецьмі, і палату з хворымі пасля цяжкіх родаў. Зараз яна працавала ў аддзяленні старшага ўрача-акушора Зарыны Палікарпаўны. Гэта, бадай што, галоўнае аддзяленне. Марыну не так даўно перавялі сюды на абавязкі сястры-акушоркі. Ёй дабавілі аклад. Канешне, і працы тут прыбавілася, і надта адказнай. У гэтым аддзяленні трэба было, акрамя ведаў і ўмення, мець яшчэ сілу ў руках.

Дарэмна Коля падазраваў, што яна няветлівая ў абыходжанні з хворымі. Дзе-ж так можа быць? Хто-ж гэта хворых зневажае? «Ён сам грубіян і недалікатны»,— думала, ідучы, Марына.



Калі ўжо гаварыць аб ёй, дык усюды, дзе ні пабывала Марына, яна была самай абыходлівай і ласкавай сярод медсясцёр. А гэта, магчыма, самае асноўнае ў іх рабоце. Часамі патрабавалася супакоіць і дзіцё і маці. Маці таксама любіць уцеху. Здаралася так, што, калі Марына брала нованароджанага ў рукі, ён адразу сціхаў плакаць, засынаў. Вядома, што і слёзы такога грамадзяніна ці грамадзянкі яшчэ не называліся слязьмі, аднак, што значыць пяшчота і голас добрай сястры ў вачах роднай маткі, якая ні на хвіліну не хацела разлучацца, адпусціць крывінку сваю ад грудзей.

А колькі клопатаў і ўвагі патрабуецца, напрыклад, у трэцім аддзяленні? І падушку папраў, і падай, і накажы, схадзі, прынясі!.. Марына там навучылася лёгка і ціха ступаць, рабіць усё хутка, на хаду. З палаты ў палату яна быццам на крыллях лятала ў сваім лебядзіна-белым халаце і накрахмаленай касынцы. Бывалі дні, што яна страшэнна стамлялася. К канцу змены не чула ні рук, ні ног. Але гэтая знямога апаноўвала тады, калі, панурыўшы галаву, Марына ішла дадому. У часжа работы ёй было толькі весела і радасна. Гэта-ж якое вялікае, бязмерна пачэснае пачуццё, калі ты дапамагаеш нарадзіцца чалавеку на свет, скарачаеш яго і матчыны пакуты, калі ты адзін на некалькі хвілін раней, як сакрэт, ужо ведаеш аб новым чалавеку і ідзеш, паведамляеш бацькам тое, што ў іх ёсць, але яны аб гэтым яшчэ не знаюць: сын ці дачка?! Сын!! Дачка!!! Зарына Палікарпаўна строгая, яна паведамляе, быццам спакойны бухгалтар адкладвае на лічыльніку штодзённага прыбытку чалавецтва чарговую костачку: «Сын» або «Дачка». А Марына ўсхвалявана вымаўляе гэтыя словы са шчаслівым святлом у сініх вачах. Бацька падскоквае ад радасці, а маці пераможна ўсміхаецца. Калісьці ў аддзяленні выпіскі яна прымала наведвальнікаў, збірала, адносіла ў палату перадачы. Здараліся смешныя выпадкі. Бацькі — нецярплівы народ! Бывала, некаторыя кідаліся пад рукі, каб праврвацца ў палату. Але сястра і для іх знаходзіла не жорсткае, а заспакойлівае слова. Яна адносіла перадачы, назад прыносіла пісьмы. Нярэдка сама карандашом на лісце паперы пісала іх пад дыктоўку маці, аслабелай, з глыбока запалымі вачыма. Яна сама меркавала, якія словы трэба дадаць, каб не напалохаць тых, хто чакае. Між імі — бацькам, маткай і іх нашчадкам — сястра была сувязной, як бяздротавы тэлефон. І некаторыя за якіх-небудзь восем дзён так прывыкалі да Марыны, што, пакідаючы гэты светлы двухпавярховы будынак, казалі: «А назавём малога так, як Марына скажа»... І яна блаславуляла. Былі такія выпадкі! Марына мела запісную кніжачку, дзе былі разам з песнямі сабраныя ёю імёны.

Не, ніхто, ні Зоя, а тым больш Коля, не мог дагадацца, як яна горача адносілася да сваёй работы. І цяпер, пасля аварыі, асабліва пасля доўгай бяссонніцы ад сустрэчы з Колем, Марына яшчэ ў большай меры несла трапяткую павагу да сваёй палаты. Сама таго не прыкмячаючы, яна і тут пераменьвалася.

Цяпер Марына яшчэ больш замілавана глядзела на новароджаных, усміхалася ім, іх галасы былі ёй пацешныя, прыемныя. Яна проста зрабілася ў сваёй справе артысткай. Усіх у прыёмным аддзяленні падбадзёрвала словам, хоць сама такога нічога не перажывала. А магчыма ў гэтым і заключалася ўрачыстасць яе бадзёрых слоў!

Змардаваўшыся на рабоце, Марына вярталася дадому, але ішла не панурая, як раней. Цяпер яна перад заканчэннем змены паглядала на гадзіннік, а ў вестыбюлі затрымлівалася перад люстэркам. Яна ступала па вуліцы, не аглядалася, але ўсё неяк здавалася, што хтосьці сочыць, вось-вось пакліча, затрымае Марынку. Сігнал машыны ззаду збіваў, непакоіў яе крокі, хоць ішла яна старанон, па тратуару. Яе позірк праводзіў сустрэчныя і спадарожныя «пабеды». І ў гэтым позірку гарэла трывожнае чаканне.

Аднак мінуў дзень. І тыдзень.

Прайшло некалькі тыдняў...

Па графіку Марыну перавялі на другую змену. Цяпер яна вярталася дадому позна ноччу. Ішла адна. Ішла і баялася. У яе ўжо стала прывычкай адчуваць, што хтосьці ў яе за плячыма. І гэта неяк раз страшэнна напалохала Марыну. Святла на ўскраінах горада не было, мабыць, дзесьці на электралініі пашкоджанне здарылася. Цёмна... Вуліца пустая. Уласныя крокі адгукаюцца ўнутры. І раптам яна пачула ззаду: цоп-цоп! цоп-цоп!.. Відаць, нехта бег. Марына падумала: за ёю гоняцца! Можа якія хуліганы? Яна прытулілася за вугал дома і стала чакаць, што будзе. Калі ісці, яе маглі насцігнуць гэтыя цяжкія разбойніцкія

Іван ФРАНКО

## Песня і праца

Песня, была ты сяброўкай крылатай,
Сэрцу уцехай ў дні гора і слёз.
Нібыта спадчыну, з бацькавай хаты
Гэту любоў да цябе я пранёс.

Помню, як зараз: маленькі хлапчына,
Матчыны песні любіў слухаць я;
Песні былі мне красою адзінай
Долі няшчаснай, цяжкога жыцця.

«Мама, галубка! Спявай, — паўтараю, —
Шчэ' пра Ганусю, Шумільца, Вянкі!»
«Не, сынку, годзе! Пакуль я спяваю,
Праца чакае мазольнай рукі».

Мама, галубка! Заўчасна ў магілу
Праца з хваробаю склалі цябе...
Песні тваёй неўміручую сілу
Я і цяпер адчуваю ў сабе.

Тая журботная песня, бывала,
Ў хвілі вялікіх нягод на пуці
Мне, як матуля, прывет пасылала,
Сіл надавала ў гаротным жыцці.

«Сынку, трымайся! — не раз ты
сцвярджала, —
Бо нарадзіўся не панам-жа ты!
Праца, якая ў труну мяне склала,
Выведзе ў людзі цябе з цемнаты».

Дзякуй, матуля, за гэту параду!
Праўду яе ўжо не раз я спазнаў.
Праца дала да жыцця мне прынаду,
Мэту дала, каб дарма не блукаў.

Праца ўвяла ў тайнікі векавыя,
Песень крыніцы струменяць з якіх,
Цуды яна праясніла зямныя,
Тайны спрадвечных няшчасцяў людскіх.

Песня і праца — дзве моцныя сілы!
Ім да скanання хачу я служыць;
Чэрап разбіты — як лягу ў магілу,
Імі-ж змагу і для праўнукаў жыць!

Пераклад з украінскай мовы
М. АЎРАМЧЫКА.

крокі... І раптам, скрозь цемень яна ў жахлівым чаканні ўгледзела каня. Конь! Ён дзесьці абарваў прывязь і з доўгім канцом вяроўкі, якая цягнулася ззаду, шпацыраваў па гарадской вуліцы.

Марыне зрабілася смешна з самой сябе. Яна прышла дадому і расказала аб гэтым Зоі.

— Мара, ты нешта скрываеш. Па вачах бачу, — сказала сястра. — Што з табою?

Марына недаўменна павяла плячыма.

— Давай заўтра пойдзем да нас, у інстытут,— усхапілася Зоя.— На танцы!

Яна падумала і адмовілася.

— Не, не пайду.

Яе яшчэ больш апанаваў назойлівы роздум над тым, што з ёю адбываецца. У пасцелі яна таямніча перабірала былое і разважала сабе, чаму так чакае сустрэчы з Колем. «Што з ім?— гадала яна. А далей злавалася: «Коля, Коля! Ну, што-ж Коля?!»

І на другі дзень, як заўсёды, спяшалася на работу.

Аднойчы ў аддзяленне Марыны трапіла маладая парадзіха. Прозвішча яе было Кавалёва. Невысокая, смуглявая ў твары ад плямістага рабаціння, спалоханая, як усе, хто ўпершыню збіраўся выканаць свой матчын абавязак. Урач-акушор агледзела яе і запыталася: ці бывала яна на кансультацыі, ці паказвалася перад гэтым доктару. Кавалёва прызналася, што нідзе не была.

— Чаму?— здзівілася Зарына Палікарпаўна.

Марына, прысутнічаючы на аглядзе, бачыла, як Кавалёва не магла знайсці апраўданне.

— Саромелася, доктар.

— Саромецца нечага,— строга заўважала марыніна начальніца.—Мы ўжо дарослыя людзі. Чаго-ж нам саромецца схадзіць да ўрача? Мы-ж ведаем, што аб здароўі будучай дачкі ці сына клапоціцца не толькі маці. А ўрач? Ён не дапамагае?.. Вось бачыце! Каб раней паказаліся, вы цяпер сябе лепш адчувалі-б...

Становішча было небяспечнае. Дзіцяці цяжка, а мо' і немагчыма было з'явіцца на свет. Такія выпадкі Марына ведала. Аднак гэта былі для яе вельмі адказныя і рашучыя моманты. Зарына Палікарпаўна загадала падрыхтавацца да аперацыі. Хірургічнае ўмяшанне было непазбежным.

Пакуль збіраліся і рыхтаваліся, сястра-акушорка глядзела на Кавалёву і спачувала ёй. Марына была ў адных гадах з маладой парадзіхай, і гэта яе вельмі кранала. Яна хвалявалася за Кавалёву. Калі ў парадзіхі пачаліся прыступы і крыкі ад болю напоўнілі палату, Марына, дапытліва пазіраючы ў вочы Зарыне Палікарпаўне, не выцерпела:

— А можа без аперацыі? Я сама...

Яна сказала ціха, з просьбай, але цвёрда. Зарына Палікарпаўна не раз даручала ёй такое, што магла зрабіць толькі адна яна. Урач-акушор ганарылася Марынай. На гэта давер'е і спадзявалася цяпер сястра-акушорка.

Ну, што-ж? Зарына Палікарпаўна паглядзела на маладую парадзіху і згадзілася. Старшы ўрач была згодна, хоць усе інструменты былі напагатове ў суседнім пакоі. Зарына Палікарпаўна была побач і з кожнага руху Марыны не спускала позірку.

Гэта была барацьба. Упартая барацьба за два жыцці. І магло здарыцца так, што з двух адно жыццё магло ахвяраваць сабою. Марына аб такім думаць не хацела. Яна ўся была разам з Кавалёвай. Трэ' было мець вялікую любасць да сваёй сястры-жанчыны, каб так тонка адчуваць адно і другое жыццё. Зарына Палікарпаўна не без радасці за сваю памочніцу сачыла, наглядала за гэтым, часамі папраўляла. Дзве жанчыны, адна пажылая, з сівымі валасамі, схаванымі пад павязкай, і другая — юная, расчырванеўшыся ў сваім стараннi, дапамагалі: першая — напэўна сваёй унучцы, а другая — сяброўцы. Тут была няпісаная калектыўная ўмова матак, ад якіх ішло, ідзе і будзе ісці жыццё.

Справа зацягнулася. Кавалёва страціла прытомнасць. Марына не помніла сябе, не ведала, колькі прайшло часу. Ёй здавалася, што прайшла вечнасць. І ўсё-ж яны перамаглі. Як на тое, быццам доказ іх жаночай змовы, той чалавек, які ішоў на свет недазволеным медыцынай чынам, адразу нагамі, была дачка Кавалёвай. Сястра ўсміхнулася Зарыне Палікарпаўне, калі пачула, што нованароджаная важыць пяць з палавінай кілограм.

Усё на гэтым не закончылася. Кавалёву адвезлі ў палату для цяжка хворых. І толькі на другі дзень у яе твары з сінімі пражылкамі на скронях пачала паказвацца рэдкая ружовасць. Толькі Марына ўжо была шчаслівая. Ёй здавалася, што самае найлепшае, найважнейшае, зробленае ёю да таго, было тое, што споўніла ўчора.

Пакуль Кавалёва папраўлялася, Марына па некалькі разоў у дзень прыходзіла да яе ў палату. Яны гаварылі, як роўная з роўнай, і нават пасябравалі. Кавалёва частавала Марыну гасцінцамі, якія прысылаў муж. А ён прысылаў перадачы часта з сёстрамі трэцяга аддзялення. Марына яго не бачыла.



Калі-ж Кавалёва ўжо змагла хадзіць па калідоры і настаў дзень выпіскі, Марыне захацелася самой выправіць дадому маладую маці з дачкой. Яна помніла, калі яшчэ працавала ў аддзяленні выпіскі, як хвалююча развіталіся ўсе, пакідаючы гэты гасцінны дом.

Вось Марына прышла ў палату да Кавалёвай. Яны пацалаваліся па-жаночаму на развітанне. Дачка была закутана ў прасціradла і спала. Любуючыся на чырвоны мяккі носік дзяўчынкі, на яе малюсенькія роўныя губкі, Марына ўзяла яе на рукі і панесла. За ёю яшчэ няроўным крокам пайшла маці. У калідоры да іх далучылася Зарына Палікарпаўна.

З гэтым жывым белым канвертам Марына вышла на ганак. Яна ўжо прывыкла ўручаць такія гасцінцы бацькам. На ганку заўсёды чакалі: ён, родныя і блізкія маці.

Вось тут і здарылася нечаканае. На двары яна ўбачыла сінюю «пабеду». Ад машыны ўжо не ў клетчатай рубашцы, а ў фрэнчы насустрач ім ішоў Коля. Ён! Можа Коля заехаў падвезці Кавалёву? Вось цяпер і даведаецца, дзе яна працуе. Марына замарудзіла крок, пагладаючы наўкол. Але ён першым чынам падышоў да Кавалёвай, абняў і пацалаваў. Коля быў жанаты. Коля Кавалёў! Марына стаяла побач з Зарынай Палікарпаўнай і не верыла сваім вачам. Сэрца яе павольна затахкала. Рукі самлелі.

Але вось ён адвярнуўся ад жонкі, каб пабачыць дачку. Ён радасна зірнуў у бок урачоў, а потым на таго, хто трымаў яго, бацькаў, гасцінец.

— Ма-рына?! — здзівіўся ён.

Адзін момант бліснула ўсмешка на твары Марыны. А потым, нібы Зарына Палікарпаўна падштурхнула: маўчы, не ўсміхайся!.. І даўняе абурэнне ў ёй нахлынула і запяклося ў грудзях.

Коля ўзяў з марыніных рук дачку і больш ні на каго не хацеў глядзець, толькі на сваё дзіця. Мабыць баяўся. А жонка гаварыла:

— Гэта, Коля, сястра наша... Я-ж пісала ў пісьме табе, помніш? Дзякую вам, доктар!

Панурыўшы галаву, з дзіцем на руках Коля пайшоў да машыны, на якой каталася некалі Марына. Ён пасадзіў у яе жонку, нейкіх двух бабулек і потым спахапіўся. Букеты кветак, якія трымалі бабулькі, ён паднёс ёй і Зарыне Палікарпаўне. Гэта былі позмія чырвоныя, белыя і сінія астры.

— Дзякую!—сказаў ён ветліва і стрымана.— Бывайце здаровы!

Вядома, ён помніў пра сваё абяцанне. Вось гэта і быў яго абяцаны букет. Цяпер ён будзе ведаць, хто Марыне дорыць кветкі. Вось і яго падарунак. Толькі які незвычайны! Не чакала такога Марына.

Дадому яна ішла з гэтым падарункам, а сініца на дрэве, як нямазаным вінцікам круціла: «чыкі-чыкі!» «чыкі-чыкі!» — на холад. Так заўсёды бывае глыбокай восенню.

«Кіну я гэту работу!—думала яна пад гэты свіст.— Стамілася зусім». Ішла і ўсю дарогу ёй у вачах уяўляўся маленькі мяккі чырвоны носік Кавалёвай-дзяўчынкі. Чамусьці знікла замілаванне да яе, якое было ўсе гэтыя дні. «Чыкі-чыкі!», «чыкі-чыкі!»—пілавала сініца.

Марына зайшла ў пакой, паставіла кветкі ў ваду і зморана села перад імі. Задуменная, яна пачала іх краtаць рукой.

Колькі Марына атрымала такіх букетаў! Колькі яна вынесла нованароджаных на ганак! Гэта відаць і з фото на сцяне. Вось картачка: вусаты дзядзька бярэ з рук сястры ў белым халаце дзіцё. Побач стаіць другая сястра, у яе на руках — другое дзіцё. Вусаты дзядзька — слесар трактарнага завода. У яго нарадзілася двое. Іх спецыяльна фатаграфаваў карэспандэнт з газеты... Падарункі! Падарункі! А колькі флаконаў духоў! Розных марак: «Казка», «Палёт», «Чакай мяне»... Больш за ўсё Марыне спадабаўся некалі белы лебедзь. З фарфару, заграніічнага вырабу. Цацка гэта цяпер стаяла на падаконніку. Белы лебедзь узмахнуў крыллямі і, здаецца, вось-вось паляціць на вуліцу. Яе падарыў адзін афіцэр за першага сына, атрыманага з марыніных рук. Марыну запрашалі ў госці, але яна заўсёды адмаўлялася...

Марына моўчкі глядзела на астры. Гэта былі кветкі, але яшчэ не такія, якіх яна чакала. Што-ж? Яе кветкі яшчэ не расцвілі.

Раптам прыбегла Зоя.

— Ты прышла? Так рана? Ой, як добра! — узрадавалася стрыечная сястра.—Ты мне патрэбна.

Потым зірнула на Марыну і ўжо ніжэйшым тонам запыталася:

— Ці не плачаш ты? Чаго ты плачаш?

— Вось яшчэ!—кінула горды позірк Марына.—Адкуль ты ўзяла?

— Тады пераадзявайся!—радасна затармашыла Зоя.—Надзень крэпжаржэтавае плацце! Яно табе надта ідзе і... на вечар! Там нас чакаюць... Барыс! Мне жыцця не дае Барыс. Ён ужо заходзіў сюды. Ну, я цябе прашу, Мара... Барыс проста памяшаўся... Хадзем!

І яна спакойна пераадзелася. Прыбралася перад люстэркам. І яшчэ раз зірнула на сябе, поўную маладых сіл, нязведаной будучыні і пайшла з сястрою на вечар.

Вечар быў звычайны.

Раніцай яна прахапілася ад сну і, умыўшыся сцюдзёнай вадою, снедала на хаду. Свежасцю раніцы зноў дыхала ад яе.

Яна спяшалася па вуліцы і думала, што ніколі ёй не разлучыцца са сваёй работай, ніколі.

# Ракета ляціць на Марс

У той момант, калі вы чытаеце гэтыя радкі, Марс нястрымна набліжаецца да Зямлі. 10-га верасня 1956 года адбудзецца вялікае супрацьстаянне Марса. Абедзве планеты размесцяцца па прамой, якая праходзіць праз Сонца. Зямля будзе паміж Сонцам і Марсам. Такое размяшчэнне Зямлі, Марса і Сонца паўтараецца праз кожныя 780 сутак, але адлегласць Марса ад Зямлі ў часы супрацьстаяння ў розныя гады бывае рознай. Тлумачыцца гэта тым, што арбіты абодвух пла-




**Схема супрацьстаянняў Марса і Зямлі.**

нет уяўляюць сабой эліпсы. Тэорыя руху планет даказвае, што кожныя 15—17 год збліжэнні Марса і Зямлі становяцца найбольш цеснымі — іх астраномы і называюць «вялікімі супрацьстаяннямі».

Сёлета супрацьстаянне Марса будзе адным з найбольш блізкіх. У канцы першай дэкады верасня Марс наблізіцца да Зямлі на адлегласць «усяго толькі» 56,5 мільёна кіламетраў. У гэтыя дні яго можна будзе назіраць у выглядзе вельмі яркай, чырванаватай немігаючай зоркі — у поўднёвай частцы небасхілу. Шлях руху Марса праходзіць па сузор'ю Вадалея, і ў поўночных частках нашай краіны ён будзе бачны параўнальна невысока над гарызонтам. У прыватнасці, у Мінску ў поўнач 10 верасня вышыня Марса над гарызонтам дасягне 26°.

Вялікія супрацьстаянні Марса — гэта найбольш спрыяльныя перыяды для яго даследавання. Зразумела, 56 мільёнаў кіламетраў па зямных маштабах — гэта велізарная адлегласць. Аднак нельга забываць, што Марс даводзіцца назіраць з куды большых адлегласцей, нярэдка з такіх, што перавышаюць 100 мільёнаў кіламетраў. Вось чаму важнейшыя з адкрыццяў пра Марс былі зроблены вучонымі ў перыяд яго вялікіх супрацьстаянняў.

Марс нагадвае Зямлю, хоць у папярочніку ён амаль у два разы меншы за яе; у многіх адносінах яго можна лічыць зменшаным падабенствам нашай планеты. Так, напрыклад, суткі на Марсе амаль роўныя зямным—Марс абарочваецца вакол сваёй восі за 24 гадзіны 37 мінут. Вось яго руху нахілена да плоскасці арбіты амаль так, як і зямная. З гэтага вынікае, што на Марсе бываюць лета, восень, зіма і вясна. Праўда, паколькі адлегласць Марса ад Сонца амаль у паўтара раза большая, чым у Зямлі, ён праходзіць па арбіце вакол Сонца за 687 сутак. Значыць, кожная марсіянская пара года амаль у два разы даўжэйшая.

Марс акружаны разрэджанай атмасферай, якая складаецца, напэўна, галоўным чынам з азону і вуглекіслага газу. Паблізу полюсаў Марса астраномы назіраюць белыя палярныя шапкі — скапленні ільду і інею. З наступленнем марсіянскага лета шапкі змяншаюцца, растаюць, утвараючы ваду. Вады на Марсе вельмі мала.

Тэмпературныя ўмовы на Марсе вельмі суровыя. На полюсах назіраліся маразы —80° і нават на экватары, на досвітку тэмпература падае да —50°. Праўда, днём у некаторых частках планеты яна павышаецца да +10° і нават да +20°. Але-ж суровасць кліматычных умоў зусім не выключае магчымай наяўнасці там арганічнага жыцця.

Марс — планета, дзе, несумненна, ёсць жыццё. Большасць яе паверхні пакрыта пясчана-гліністымі пустынямі; на асобных месцах ёсць расліннасць. Гэта так званыя марсіянскія «моры» — зеленавата-блакітныя плямы, якія рэзка вызначаюцца на фоне аранжавых пустынь.

Наяўнасць раслін на Марсе гаворыць за тое, што там зусім магчыма існаванне жывёльнага свету. Член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР Г. А. Тіхаў і яго вучні ў апошняе дзесяцігоддзе стварылі новую навуку — астрабатаніку, якая займаецца галоўным чынам вывучэннем уласцівасцей марсіянскай расліннасці.

Аддаленасць Марса ад Зямлі ўсё-ж пакідае шмат якія дэталі прыроды неразгаданымі. У прыватнасці, зусім няяснае пытанне аб знешнім выглядзе марсіянскіх раслін, застаюцца загадкавымі і тыя знаёмыя марсіянскія «каналы», спрэчкі аб існаванні якіх цягнуцца дзесяцігоддзямі і наяўнасць якіх на Марсе засведчана фотаздымкамі.

У гэтым годзе зноў буйнейшыя тэлескопы свету будуць накіраваны на нашага нябеснага суседа і, несумненна, многае, што зараз здаецца загадкавым, будзе раскрыта і растлумачана.

Аднак ніякія назіранні ў зямныя тэлескопы не могуць даць таго, што атрымаюць людзі, якія зробяць палёт на Марс. Ці магчымы ўсё-ж такі палёт і як ён мог-бы быць ажыццёўлены?

Цяпер, калі так хутка развіваецца рэактыўная тэхніка і ўсё шырэй выкарыстоўваецца атамная энергія, палёт на Марс — рэальная задача недалёкага будучага.

Ужо праз год-два сонечная сістэма ўзбагаціцца новымі нябеснымі целамі — штучнымі спадарожнікамі Зямлі. Спачатку гэта будуць невялікія радыёракеты, а затым вакол Зямлі ўзнікнуць вялікія, стацыянарныя яе спадарожнікі — тыя «эфирные жилища», лабараторыі ў космасе, аб якіх марыў К. Э. Цыялкоўскі.

Наступным крокам на шляху асваення сонечнай сістэмы будзе палёт на Месяц. Там, на гэтым нашым натуральным спадарожніку, чалавецтва пабудуе навуковыя інстытуты, якія і падрыхтуюць глебу для вырашэння яшчэ больш грандыёзнай задачы — палёту на Марс. Можа здарыцца, што самым зручным часам для гэтага і з'явяцца перыяды «вялікіх супрацьстаянняў». Іменна тады, накіраваўшы ракету па найкарацейшай адлегласці — па прамой — можна з Зямлі прыляцець на суседнюю к нам планету.

Астранаўтыка — навука аб міжпланетных падарожжах—даказвае, што такое «прамалінейнае» вырашэнне задачы, мажліва, і немэтазгоднае. Каб пераляцець з Зямлі на Марс па найкарацейшаму шляху, трэба, па-першае, «пагасіць» тую хуткасць, з якой Зямля рухаецца вакол Сонца па сваёй арбіце (30 кіламетраў у секунду). Для гэтага ракета павінна атрымаць такую-ж хуткасць, але накіраваную ў супрацьлеглы бок. Па-другое, ракета павінна развіць дадатковую хуткасць, каб паляцець на Марс, што патрабуе яшчэ большых расходаў паліва. Нарэшце, пры пасадцы на Марс, пры адлёце з яго і пры спуску на Зямлю зноў павінен будзе працаваць ракетны рухавік. Карацей кажучы, «лабавая атака» Марса ў энергетычных адносінах вельмі нязручная.

Тэхнічныя цяжкасці настолькі вялікія, што такія «прамалінейныя» палёты давядзецца адкласці на будучае, калі атамную энергію ў касмічных караблях можна будзе расходваць у неабмежаванай колькасці. Куды лягчэй ажыццявіць палёт да Марса без высадкі на яго паверхню. Для гэтага касмічны карабель, набраўшы хуткасць у 12,3 кіламетра ў секунду, ператворыцца ў невялічкую планетку, якая рухаецца вакол Сонца па эліптычнай арбіце. Можна так разлічыць пачатковую хуткасць і напрамак вылету карабля, што амаль увесь час ён будзе рухацца без затраты паліва за лік сілы прыцягнення Сонца. Толькі пры звароце на Зямлю зноў патрэбна будзе прывесці ў рух ракетны рухавік. Арбіта карабля будзе выбрана так, што ў момант перасячэння караблём арбіты Марса загадкавая планета акажацца ў непасрэднай блізкасці ад карабля.

Агледзеўшы Марс з вельмі блізкай адлегласці і атрымаўшы шмат каштоўных звестак аб яго прыродзе, астранаўты звернуцца на Зямлю. Разлікі паказваюць, што такі палёт на Марс і зварот зойме каля двух год.

Вядома, што Марс мае два спадарожнікі, два маленькія Месяцы, якім астраномы далі назвы Фобос («Страх») і Дэймас («Ужас»). Гэтыя касмічныя целы вельмі невялікія — папярэчнік Фобоса 16 кіламетраў, а Дэймаса — 8 кіламетраў. Нязначны ціск на паверхні спадарожнікаў дасць магчымасць у будучым іх выкарыстаць як назіральныя пункты для вывучэння Марса. Інакш кажучы, за палётам міма Марса пойдуць палёты на Фабос і Дэймас. Зручнасць такога падарожжа яскравая. З-за малой сілы прыцягнення Фабоса і Дэймаса высадка на іх, зварот касмічнага карабля можа быць зроблены куды лягчэй, чым на Марс. Спыніўшыся на некалькі тыдняў на Дэймасе ці Фобосе, астраномы змогуць грунтоўна разгледзець Марс на адлегласці ўсяго 24 або нават 9 тысяч кіламетраў. Нарэшце, на спадарожніках Марса можна паступова нарыхтаваць столькі паліва, колькі спатрэбіцца для высадкі на планету.

Такім чынам, палёт на Марс, напэўна, будзе ажыццёўлены за тры этапы. Першы — гэта палёт міма Марса ў непасрэднай ад яго блізкасці, другі — высадка на спадарожнікі і, нарэшце, трэці этап — наведванне самой загадкавай планеты.

Развіццё сучаснай тэхнікі ідзе настолькі бурнымі тэмпамі, што, магчыма, ужо ў наступнае вялікае супрацьстаянне Марса, якое будзе ў 1971 годзе, чалавек здолее вывучаць загадкавую чырвоную планету з куды большай адлегласці, чым гэта яму ўдасца ў сёлетнім годзе.

**Ф. ЗІГЕЛЬ,**
**кандыдат педагагічных навук.**

**Выгляд Марса ў тэлескоп:** уверсе — **праз чырвоны светафільтр (цёмныя палосы — «каналы»);** унізе — **праз зялёны светафільтр (светлыя палосы — воблакі).**






Тры сяброўкі, тры комсамолкі — Нэла Васіленка, Валянціна Дастанава і Галіна Банішэўская ніколі не лічылі сябе на ўсё жыццё іменна мінчанкамі і іменна супрацоўніцамі Белдзяржпраекта. Работа, якую яны выконвалі, падабалася ім. Удзельнічаць у markstайным праектаванні жылых і грамадскіх будынкаў, цэлых вуліц, пасёлкаў і нават новых гарадоў было вельмі цікава. Але... Але маладосць брала сваё! Дзяўчаты ўвесь час марылі аб тым, каб пабыць у новых месцах, пажыць сярод зусім іншай прыроды, пазнаваць усё новых і новых людзей. Заклік партыі да комсамольцаў і моладзі накіраваць свае сілы на будаўніцтва новых буйных прадпрыемстваў на ўсходзе і поўначы краіны знайшоў гарачы вудгук у тысячах сэрцаў. Васіленка, Банішэўская і Дастанава адразу-ж цвёрда вырашылі ўліцца ў маладзёжную армію працы. Але на чым спыніць свой выбар? Урал? Пячорскі край? Сібір? Далёкі Ўсход? Алтай?.. Рашэнню дапамагла новая, нечаканая акалічнасць. На гастролі ў Мінск прыехаў Омскі рускі народны хор. У дзень, калі сібіракі пакідалі беларускую сталіцу, сяброўкі з Белдзяржпраекта прышлі на вакзал правесці новых сяброў.

— Ну, якое ваша рашэнне? — спытала ў іх адна са спявачак хору, Марыя Ражкова. — Куды паедзеце?

— За Урал! — у адно слова ўсклікнулі сяброўкі. — Лічыце нас сваімі землякамі!

...З таго дня прайшло ўжо шмат часу. Былыя супрацоўніцы Белдзяржпраекта разам з вялікім атрадам беларускай моладзі цяпер недзе ў дарозе на Усход. У іх запісных кніжках, у ліку адрасоў сяброў, ёсць і такі: «Омск, Партызанская, 2. Дзяржаўная філармонія. Омскі народны хор». Комсамольцы з хору вельмі прасілі напісаць ім аб тым, дзе будуць жыць і працаваць пасланцы Беларусі, каб пры першай-жа магчымасці наведаць іх з канцэртам дружбы.

На здымку: група новых і «старых» сібіракоў на пероне Мінскага вакзала. Злева направа — Г. Банішэўская, В. Дастанава і Н. Васіленка і спевакі хору М. Ражкова і В. Мартынаў.

**Тэкст і фото А. Дзітлава.**



# ПІОНЕРСКАЕ ЛЕТА

Хутка, вельмі хутка ляцяць вясёлыя летнія дні. Здаецца, зусім нядаўна юныя падарожнікі з рукзакамі і ранцамі накіроўваліся ў паход па роднаму краю, на экскурсіі; стройныя піонерскія атрады з барабанамі і задорнай песняй праходзілі па гарадскіх вуліцах; паркі, скверы і стадыёны чырванеліся ад гальштукаў. У лагерах, на маляўнічых палянах, шугала полымя піонерскіх кастроў.

Яшчэ свежыя ў памяці надарожныя развітанні і пажаданні, калі мы адпраўлялі сваіх юных сяброў-піонераў у лагеры і здраўніцы, на спаборніцтвы і злёты. А сёння многія ўжо вярнуліся з гэтага незабыўнага летняга падарожжа; турысцкія атрады зрабілі данясенні, напісалі дзённікі.

Колькі было незабыўных і хвалюючых сустрэч, якія багатыя і яркія ўражанні!..

Кожны можа пазайздросціць юным натуралістам Брэста — яны ўлетку ездзілі на экскурсію ў Маскву. Пабывалі на Усесаюзнай сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўцы, на Ленінскіх горах, у Крэмлі, у маўзалеі. На верхнім здымку — брэсцкія школьнікі ў Маскве, на Краснай плошчы.

Многа школьнікаў Мінска, Віцебска, Гомеля, Гродна, Магілёва і іншых гарадоў адпачывала ў лагерах і здраўніцах.

Вучнёўскія атрады з гарадоў выязджалі да сваіх вясковых сяброў. Гарадскія школьнікі з асалодай папрацавалі ў калгасах, добра адпачылі, загартавалі свае сілы.

У раённых цэнтрах і гарадах прайшлі піонерскія спартыўна-турысцкія эстафеты і злёты, якія выявілі новых фізкультурнікаў, спезакоў, танцораў, таленавітых тэхнікаў, мадэлістаў. Лепшыя з лепшых удзельнічалі ў абласных і рэспубліканскім піонерскіх злётах, у спартакіядзе школьнікаў. Гэта было свята шчаслівага юнацтва, свята радасці і весялосці.

Захапляюча праходзіць лета ў сельскіх школьнікаў. Вясковыя дзеці спалучаюць свой адпачынак з грамадска-карыснай працай на палях і школьных доследных участках. А што можа быць цікавей, чым сваімі рукамі вырошчваць ураджай, выводзіць новыя гатункі раслін, ствараць народнае багацце!

Вучні Прудкоўскай сямігадовай школы Гомельскага раёна — сапраўдныя шэфы палёў. Кожны год яны за сваю вытворчую працу ў вольны ад вучобы час атрымліваюць падзякі і прэміі ад праўлення і дырэкцыі суседняга конезавода. На фото ўнізе злева—вучні гэтай школы Віктар Мурамцаў і Мікола Алейнік са сваімі веласіпедамі. Іх хлопчыкі купілі за грошы, зробленыя на сенаўборцы ў конезаводзе.

«Мы — лагернікі!» — з гонарам называюць сябе дзеці, якія летам былі ў піонерскіх лагерах і на аздараўленчых пляцоўках. Гэтыя лагеры ёсць у кожным раёне. Яны звычайна размешчаны ў ма-





пяўнічых мясцінах, паблізу рэчак і азёр, на ўзлессях. Старэйшыя сябры піянераў — камсамольцы — парупіліся, каб у піянерскіх лагерах струменіла жыццё, іскрылася весялосць.

На здымках бачны піянерскія лагерныя будні, напоўненыя рознастайнымі і цікавымі заняткамі.

Вось піянерскі лагер «Сасновы бор» — адзін з прыгажэйшых на Брэсчыне. Тут дзецям створаны ўсе ўмовы для вясёлага і здаровага адпачынку: працуюць рознастайныя гурткі, ёсць свой жывы куток, спартыўны гарадок, купальня.

На трэцім здымку: піянерважатая лагера «Сасновы бор» Каця Сямінская праводзіць заняткі з юнымі натуралістамі ў жывым кутку.

— А цяпер на рэчку! — закончыўшы гутарку, абвяшчае піянерважатая. — Вунь якое сонейка!..

«Лагернікі» шумлівай грамадой бягуць на рэчку, у купальню. Гульні на вадзе — найлепшая спартыўная зарадка. У аматараў рыбнай лоўлі свае клопаты — знайсці «клёўнае» месца. З верхняга здымку бачна, што ў юных рыбалозаў улоў будзе...

У піянерскіх лагерах цікава арганізаваны працоўныя заняткі. Дзеці з вялікай ахвотай палолі пасевы, зграбалі сена, збіраюць каласы.

На здымку ў кругу — група піянераў з Жабінкаўскага раённага лагера на праполцы буракоў у калгасе імя XIX партз'езда. На пярэднім плане — Нэля Якаўлева.

... Дахаты дзеці вяртаюцца бадзёрыя, загарэлыя, дужыя, поўныя ўражанняў прыгодніцкага лагернага жыцця.

На апошнім здымку — перад ад'ездам.

— Папраўіліся добра, — задаволена гаворыць хлапчукам урач лагера «Будаўнік» А. Д. Усвіцкая (Мінская вобласць). — Глядзіце, каб у новым навучальным годзе і вучыліся добра.

— Толькі на «выдатна»! — дружна адказваюць піянеры.

**АЛ. ВЕЧАРКОЎ.**

**Фота А. Дзітлава, С. Чырэшкіна і В. Германа (БЕЛТА).**











Уборка ўраджаю ў калгасе імя Леніна Любанскага раёна Мінскай вобласці.
Фото А. Дзітлава.

**Да 100-годдзя з дня нараджэння І. Я. Франка**

# У даліне сяло ляжыць...

З дзіцячых год мы памятаем яго вершы. Завучвалі мы іх напамяць, дэкламавалі на школьных канцэртах. А хто з нас не марыў пабываць у тым сяле, пахадзіць тымі сцежкамі, якімі хадзіў сын каваля Яця, паглядзець на тыя лясы і палі, на тыя карпацкія горы, з якімі нас пазнаёміў Іван Франко? Вось па гэтай дарозе, што каля лесу, ён вяртаўся з Драгобыча ў родныя Нагуевічы. Адпачываў пад высачэзным магутным дубам, які называюць цяпер «дубам Франка». Дуб абгароджаны. Тут часта затрымліваюцца экскурсанты. Расказваюць, што пад гэтым дубам малы пастух хаваўся ад навальніцы, тут пісаў свае вершы.

За лесам на невысокім пагорку — некалькі хат. Гэта — Франкаўка. Прыступкі вядуць да гранітнай пліты. На ёй сціплы надпіс: «На гэтым месцы стаяла хата, у якой 27 жніўня 1856 года нарадзіўся выдатны украінскі пісьменнік-рэвалюцыянер Іван Якаўлевіч Франко».

Побач і цяпер жывуць яго пляменнікі, унукі. Тут хата ўнучкі Анны, дачкі першага дырэктара музея І. Франка ў Нагуевічах Грыня Франка. Хата пляменніцы пісьменніка Юліі Даніцкай. Гэтая старая жанчына, мае ўжо ўнукаў. У памяці яна захоўвае падрабязнасці кожнай сустрэчы са сваім дзядзькам.

З хаты выходзіць юліна дачка Рузя. Высокі лоб, рыжыя косы... Старая жанчына заўважае нашу зацікаўленасць і тлумачыць:

— Дужа падобная на свайго дзеда. Праўда? Я вось гляджу на яе і адразу прыгадваю лоб Івана Якаўлевіча, і валасы, і вочы...

Крыху ніжэй — прыгожая хата з шкляною верандаю. Нас сустракае невысокая, русявая жанчына. Гэта праўнучка Франка — Стэфанія. Яна прадаўжае расказваць пачатую бабуляю гісторыю пра лёс сваякоў пісьменніка. Яе бацька Мікола быў да вайны ў Нагуевічах старшынёю сельсовета. Выехаць не паспеў. Калі на Прыкарпацці лютавалі фашысты, ён хаваўся, толькі зрэдку начамі з'яўляўся дадому. Былі ў сяле верныя служакі гітлераўцаў, пра сваякоў Франка яны казалі: «Гэта комуністы, усіх іх трэба знішчыць». Здраднікі выдалі Міколу акупантам. Гітлераўцы расстралялі яго. Родны брат Франка памёр тады ад голаду. А неўзабаве гестапаўцы схапілі і расстралялі жонку Міколы за тое, што яна хавала ў стадоле яўрэйскую сям'ю.

Стэфаніі было тады адзінаццаць год, а яе малодшаму брату Міхасю — шэсць. Засталіся сіротамі. Дала ім прытулак Юлія Даніцкая. Дзеці выраслі. Стэфанія выйшла ўжо замуж, а Міхась вучыцца ў Барыславе ў тэхнічным вучылішчы.

За мостам хаты стаяць густа, адна каля адной. Яны тонуць у садах. Навокал відаць зялёныя палі, цямнеюць лясы, а на поўдні ўздымаюцца горы.

Па сівой дарозе імчаць аўтамашыны. Дзесяткі іх праходзяць тут то з Драгобыча, то з Барыслава, то з Падбужа. Некаторыя з іх возяць каменне для брукавання дарогі. Будаўнікі дарогі далі абяцанне: да 27 жніўня заасфальтаваць дарогу Драгобыч — Нагуевічы. Уласна кажучы, не Нагуевічы, а сяло Івана Франка. Так яно цяпер называецца. Даўно землякі пісьменніка прапаноўвалі перайменаваць гэтае сяло. Але панскія ўлады і слухаць не хацелі пра гэта. Імя Івана Франка прысвоіла сялу совецкая ўлада.

Калісьці ў Нагуевічах хацелі паставіць помнік пісьменніку. Але патрэбны былі сродкі. Сяляне арганізавалі камітэт, які падрыхтаваў адозву да ўсіх працоўных. Старшынёю камітэта быў абраны Іван Гаўрылік. Калі пра гэта даведалася паліцыя, яна арыштавала Гаўрыліка, увесь тыраж адозвы быў знішчаны.

Цяпер у цэнтры сяла стаіць помнік вялікаму пісьменніку. Грошай на пабудову яго не збіралі. Іх дала совецкая ўлада. У сяле ёсць музей Івана Франка.

Ніколі так не будаваліся Нагуевічы, як цяпер. За апошнія два гады ў сяле пабудавана 57 хат. Усе яны накрыты чарапіцаю. Пачата будаўніцтва яшчэ 35 хат. Уздымаюцца цагляныя сцены новага клуба. У будынку старога клуба размешчана бібліятэка, у якой 5100 кніг.

Ілько Бадзінскі, які асабіста ведаў І. Франка, разглядаючы кніжныя паліцы, расказвае:

— Гляджу я вось на гэта — і вочы разбягаюцца. Чытай, што хочаш... А некалі не так было. Задумалі мы чытальню ў сябе арганізаваць. Франко нас падтрымаў. Нават нямала кніг прыслаў: і сваіх, і іншых пісьменнікаў... Але дарэмна мы стараліся. Дазнаўся аб гэтым поп Качкоўскі, забраў кнігі, знішчыў.

У сяле заканчваецца пабудова новага сельмага, чайной. Уздымаюцца сцены новага двухпавярховага будынка сярэдняй школы.

Калгас носіць імя Івана Франка.

Шырока раскінуліся калгасныя землі. Залацістымі хвалямі пераліваюцца масівы жыта. Зелянее лён і плантацыі буракоў.



Партрэт Івана Франка, работа мастака Віктара Савіна.

Змяняе сваё аблічча роднае сяло Івана Франка. У хатах гарыць электрычнае святло, гавораць радыё. Вечарам у клубе дэманструюцца новыя кінофільмы. Драматычны гурток рыхтуе да пастаноўкі п'есу І. Франка «Будка № 27». Хор развучвае песні на словы паэта.

Калгаснікі ўшаноўваюць памяць свайго земляка.

Я. СТЭЦЮК.

# Музей Івана Франка

Рэдка хто з тых, хто прыедзе ў Львоў і захоча пазнаёміцца з яго гістарычнымі помнікамі і памятнымі мясцінамі, не пабудзе ў гэтым невялікім будынку. У ім размяшчаецца дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Івана Франка. Пастановаю ўрада Совецкай Украіны ён быў адкрыты 10 кастрычніка 1940 года.

У невялікіх пакоях музея размешчана экспазіцыя, якая расказвае пра жыццёвы і творчы шлях Івана Франка. Тут захоўваецца фотакопія рукапісу санета «Народныя песні», які ў 1874 годзе быў надрукаваны пад псеўданімам Джэрджалік у львоўскім часопісе «Друг». Фотакопія атэстата сталасці І. Франка сведчыць аб тым, што гімназію ён скончыў выдатна. Гэта было ў 1875 годзе. З гэтага года, паступіўшы ў Львоўскі універсітэт, Франко пачынае новы, цяжкі і неспакойны этап свайго жыцця.

На старонках часопіса «Друг», які выстаўлены ў вітрынах, друкаваліся творы І. Франка, а таксама пераклад рамана Чэрнышэўскага «Што рабіць?»

У 1877 годзе Франко быў арыштаваны. Але рэпрэсіі не зламалі волі маладога пісьменніка. У турэмнай камеры ён піша мужныя радкі сваіх твораў, такіх, як «Таварышам з турмы», а пасля вызвалення смела бярэцца за пераклады на ўкраінскую мову «Капітала» і «Анты-Дзюрынга» (у музеі ёсць фотакопіі рукапісаў гэтых перакладаў). Праўда, пісьменнік пераклаў толькі пачатковыя раздзелы гэтых твораў.

У кожным раздзеле музея можна знайсці творы, у якіх Франко выступаў супроць рэлігіі, Ватыкана, украінскага буржуазнага нацыяналізма, дэкадэнцтва.

Будучы верным сынам украінскага народа, трымаючы цесную сувязь з многімі лепшымі украінскімі пісьменнікамі (Л. Украінкаю, П. Грабоўскім, М. Кацюбінскім, В. Стэфанікам і іншымі), Франко высока цаніў літаратуру вялікага рускага народа.

Многа працаваў Франко як выдавец і рэдактар. Ён выдаваў часопіс «Жыццё і слова». Пад рубрыкаю «Весткі з Расіі» часопіс паведамляў аб арышце В. І. Леніна і членаў створанага ім «Саюза вызвалення рабочага класа».

У часопісах «Новае слова» і «Жыццё», якія экспанаваны ў музеі, побач з творамі В. І. Леніна друкаваліся творы І. Франка.

На сцяне — карціна І. Гутарава «Пробная лекцыя І. Франка», якая расказвае пра абураючую гісторыю. Доктар філасофіі І. Франко (доктарскую дысертацыю ён абараніў у 1893 годзе) вельмі хацеў заняць месца прафесара украінскай літаратуры ў Львоўскім універсітэце. Бліскуча прачытаўшы пробную лекцыю на тэму «Наймічка» Т. Шэўчэнкі, вялікі пісьменнік усё-ж не быў дапушчаны рэакцыйнымі ўладамі да працы ва універсітэце.

У перыяд першай рускай рэвалюцыі І. Франко піша прасякнутую рэвалюцыйным пафасам паэму «Майсей». У музеі мы бачым першае выданне гэтага твора.

З кожным годам расла папулярнасць І. Франка. Харкаўскі універсітэт у 1906 годзе прысвоіў яму пачэснае званне доктара рускай славеснасці без падачы дысертацыі (у музеі захоўваецца фотакопія гэтай справы). Прагрэсіўныя рускія вучоныя прапанавалі абраць Франка правадзейным членам Пецербургскай Акадэміі навук. Але занадта вядомы быў пісьменнік сваімі рэвалюцыйнымі поглядамі, каб рэакцыйнае кіраўніцтва Акадэміі пагадзілася з гэтым.

Загляньце ў рабочы кабінет Франка, і вы убачыце, якім сціплым у побыце быў гэты волат думкі і працы. Невялікі пісьмовы стол, за ім — простае крэсла. Каля сцяны — дзве шафы з кнігамі. У кутку ляжаць рыбацкія сеці, а на сцяне вывешана калекцыя рыб. Іван Якаўлевіч у вольны час надта любіў займацца рыбнай лоўляй. Калі М. Кацюбінскі наведаў Франка ў 1905 годзе ён застаў яго за вязаннем невадка.

Вось пакой, у якім 28 мая 1916 года памёр вялікі пісьменнік. Тут стаіць жалезны ложак, на якім Франко ляжаў апошнія хвіліны. Пад шкляным каўпаком — пасмертная маска Івана Якаўлевіча. На сценах і на падлозе — мноства вянкоў, сярод якіх вылучаецца вянок з калючага дроту, пакладзены жыхарамі Львова ў дзень пахавання пісьменніка. Такі, вельмі калючы, быў жыццёвы шлях І. Франка.

Шматлікія дакументы, выстаўленыя ў іншых раздзелах музея, расказваюць пра тое, якім дарагім стала імя Франка для працоўных людзей усяго свету. Такую пашану ён здабыў, перш за ўсё, таму, што і сам быў нястомным працаўніком. Пра гэта сведчыць надпіс каля ўваходу ў пакой: «І. Франко — аўтар 4637 друкаваных твораў, паэт, празаік, драматург, літаратурны крытык, вучоны, фальклярыст, перакладчык з моў: рускай, французскай, нямецкай, англійскай, чэшскай, польскай, лацінскай, грэчаскай, балгарскай, рэдактар і выдавец некалькіх газет і часопісаў, палітычны дзеяч».

Д. ЦМАКАЛЕНКА.




Магіла Івана Франка.



Дом, дзе жыў Іван Франко.
Фото Д. Мулярчука.

# МАЛАДОСЦЬ

Янка БРЫЛЬ

З дарожнага блакнота










Першыя сербскія словы: «Добры дан, другары!» і так вядомае цяпер усяму совецкаму народу «Добро дошлі!» мы пачулі на досвітку 17 мая з вуснаў маладога югаслаўскага пагранічніка.

Праз два тыдні, калі наш маршрут закончыўся на пероне белградскага вакзала, мы, дваццаць шэсць мінчан і мінчанак, як з сястрой і братам, развіталіся з нашым гідам — студэнткай Даніцай і з маладым шафёрам турысцкага аўтобуса Вітам, разам з якімі мы праехалі больш двух тысяч кілометраў па маляўнічых дарогах Югаславіі.

У гарадах і сёлах Сербіі, Харватыі, Босніі, Герцагавіны, Далмацыі і Чарнагорыі мы сустракаліся з людзьмі розных узростаў. Чатырохгадовая далмацінка падаравала аднаму з нас сваё фота, на якім, — праўда, пакуль што рукой матулі — было напісана: «Пасланцу любімай Расіі ад маленькай Кавылькі». У курортным пасёлку Баня Кавыляча стары сербскі «селяк» Цветка Антоніч шчыра хваліўся нам успамінамі сваёй маладосці, — расказваў, як ваяваў супраць Вільгельма і Франца Іосіфа поплеч з нашымі салдатамі, паказваў пажаўцелыя фотаздымкі, на якіх ён усміхаецца разам з барадатымі «рускімі брачамі» ў мікалаеўскіх папахах... Так, з людзьмі розных узростаў сустракаліся мы ў Югаславіі, аднак, найбольш запала ў душу нам працавітая і мужная, вясёлая і шчырая моладзь гэтай цудоўнай краіны.

... Станкабудаўнічы завод імя Іво Лола Рыбара, народнага героя і правадыра югаслаўскай моладзі ў дні змагання з фашызмам, калі і загінуў гэты мужны юнак. Пры ўваходзе на завод мы ўбачылі надпіс на мармуравай дошцы, — гэты завод пабудаваны ў 1947—1948 гадах самаадданай працай 15600 юнакоў і дзяўчат пад кіраўніцтвам 2248 інжынераў і тэхнікаў.

Нямала гэтай моладзі, цяпер ужо сталых, вопытных рабочых, працуе на заводзе. Побач з імі — маладзейшае пакаленне, тыя, што ў дні вайны былі дзецьмі. Мы з радасцю назіралі іх дружную, шчырую працу ў прасторных, чыстых цэхах; мы слухалі іх сяброўскія словы і малады, іскрысты смех, калі яны, у час абедзеннага перапынку, акружылі нашу групу на зялёным двары завода.

Як і заўсёды бывае пры такіх многалюдных, кароткіх і шумных сустрэчах, няшмат запомніш твараў і слоў. Я, напрыклад, найбольш запомніў аднаго юнака. Па-сербску смуглы, стройны, чарнавокі прыгажун, ён на развітанне, калі пачуўся пасляабедзенны гудок, працягнуў мне руку і сказаў два словы на двух мовах:

— Довіджэння, таварыш!

У той кароткі момант, пакуль нашы далоні паспелі злучыцца ў моцным поціску, другі рабочы, значна маладзейшы, паспеў штурхануць серба пад бок і сказаць:

— Рука ў цябе такая брудная...

Старэйшы юнак паглядзеў на яго з дакорам, усміхнуўся і адказаў:

— Эх, другар, гэта-ж табе не хто-небудзь, а совецкі чалавек, які разумее, што рука мая — рука рабочага, рука таварыша.

Руку таварыша, душу таварыша і брата мы адчувалі тут усюды.

У раскошных алеях белградскага батанічнага саду, — духмяных і поўных птушынага звону, — мы доўга гулялі са студэнтамі-біёлагамі. Вясёлыя, разумныя і сціплыя дзяўчаты і хлопцы, дзеці рабочых і сялян, расказвалі нам пра сваё студэнцкае жыццё, распытвалі пра вучобу і адпачынак нашых студэнтаў, гаварылі пра сваю мару — пабываць у нашай краіне. Самае запаветнае ў гэтай мары — хоць год, хоць два павучыцца ў совецкім універсітэце. Калі-ж нехта з нас (маю на ўвазе нас усіх) дакрануўся да прыкрай, балючай тэмы, — успомніў пра сем год разрыву адносін, — і гэтая моладзь, як і ўсе югаславы, сказала: «Не, мы не разумелі гэтай сумнай сваркі, мы верылі, заўсёды ведалі, што нашы народы — браты, таксама, як ведалі гэта і вы».

На ўзбярэжжы Ядрана — Адрыятычнага мора — у чорнагорскім курортным гарадку Герцэгнові наш аўтобус з надпісам «Путнік» сустрэўся з другім турысцкім (путнік — турыст) аўтобусам, пасажыры якога адпачывалі побач у засені кіпарысаў. Гэта былі маладыя настаўніцы з Босніі. Яны пазналі нас адразу, як звычайна пазнаюць там нашых людзей сярод іншых замежных турыстаў, якіх, дарэчы, у Югаславіі вельмі шмат. Пачалася вясёлая гутарка, знаёмствы, абмен адрасамі, замітусіліся нашы і іхнія фатографы. Зноў, як і ўсюды, тая самая шчырасць пачуццяў, тая самая радасць сустрэчы і сум расставання.

Нехта спытае, магчыма, — а якжа мы разумелі адзін аднаго? Пра гэта вось і хочацца сказаць.

Нават нягледзячы на блізкасць нашых славянскіх моў і на тое, што рускую мову ў Югаславіі вывучаюць і гімназісты і студэнты, не заўсёды бывае лёгка дагаварыцца, зразумець адзін аднаго ва ўсіх дробязях. Іменна — у дробязях толькі, бо ў галоўным мы разумелі адзін аднаго заўсёды. Калі не хапала слоў — гаварылі вочы, усмешкі, а зрэшты з блізкім, родным чалавекам добра і памаўчаць.

Другар Вук, малады афіцыянт у рэстаране белградскай гасцініцы «Казіна», абслугоўваючы нас, заўсёды маўчаў і ўсміхаўся неяк, здавалася, загадкава і шматзначна. Але вось мы пакідаем гасцінны атэль, сядаем у аўтобус. Уваходжу адзін з апошніх, калі ўжо большасць сяброў, перш за ўсё, зразумела, жанчын, сядзіць у мяккіх, адкідных путніцкіх крэслах. Бачу — наш маўклівы Вук ходзіць ад крэсла да крэсла, горача паціскае рукі ўсім таварышам, толькі ў двух словах выказваючы свае пачуцці:

— Довіджэння, другары, довіджэння!..

Дзякуючы Даніцы, нашаму гіду, мы даведаліся, што Вук — студэнт, які зарабляе на жыццё працай у рэстаране, што і ў гэтага хлопца найбольш запаветная мара — пабываць у Совецкім Саюзе. Гэта было ў пачатку нашага падарожжа, калі сумачкі і кішэні ўсіх мінскіх другарыц і другароў былі поўныя розных значкоў, паштовак і альбомчыкаў. Вуку пашанцавала, — на далоні яго літаральна пасыпаліся сувеніры. Юнак-студэнт у белай курткы афіцыянта стаяў ушчэнт расчулены і збянтэжаны. І вось ён, нібы азораны натхненнем, адразу на цэлых тры галавы пераўзыходзячы свае лінгвістычныя здольнасці і веды, сказаў па-руску:

— Спасибо! Вы и мы — братья!..

Другі падобны выпадак здарыўся ў курортным горадзе Дуброўніку, дзе мы жылі некалькі дзён. У рэстаране гасцініцы «Сплендзід» нас абслугоўваў маладзенькі афіцыянт, прыгожы далмацінскі хлапчына Станка. Знаёмства адбылося так: ён падыйшоў з падносам да першага з краю століка, за якім сядзелі Пімен Панчанка і я, павітаўся і з мілай юнацкай усмешкай сказаў:

— Я — Станка.

На хвалях Ядрана.

Памяшканне рэдакцыі газеты «Борба».

Наш турысцкі аўтобус каля руінаў Смэдэраўскага замка.

Сараева. Рынак.

# ЮГАСЛАВІІ

— А я — Янка, — у тон яму адказаў я.

— Ну, а я, калі так, — Піменка, — дадаў Панчанка.

Пад шчыры, добры смех мы паздароваліся за руку, і неяк адразу знікла нябачная перагародка, што аддзяляе кліента ад афіцыянта, — для Станкі, які абслугоўвае нямала замежных гасцей, далёка ўбок адыйшоў «гаспадзін путнік», а застаўся толькі «другар із Совецкага Звезу».

Нельга не сказаць пра адну рысу характару югаслаўскіх юнакоў і дзяўчат, — пра іх паэтычнасць.

Сціплы, нават сарамлівы прыгажун Станка, які няшмат мог сказаць нам, зусім не ведаючы рускай мовы, упадабаў адну з нашых мінскіх сябровак. Здаецца, маўчаўбы ты, хлопча, пазіраў-бы ўпотай, дык не, — у час вячэры ён выбраў самае прыгожае пірожнае, з нейкай адмысловай крэмавай кветкай, як каралеўне, з паклонам, падаў яго сваёй другарыцы, а тады зачырванеўся, ледзь не па-дзявочы, і хутка выйшаў пад наш прыязны смех і словы адабрэння.

Многа паэзіі ў гэтай прыгожай краіне, у гэтым цудоўным народзе!

Зялёныя раўніны Сербіі, на якіх велічна калышуцца хвалі, і ў нашых песнях апетага Дуная; пакрытыя лесам і вечным снегам на вяршынях горы Босніі і Герцагавіны; суровыя скалы і вінаграднікі Чарнагорыі; кіпарысы, пальмы і кедры, зялёнаблакітныя хвалі Ядрана; шум векавых дубоў і гучных вадападаў Харватыі...

А звонкі смех, а задушэўныя песні!.. Нельга было не закахацца ва ўсю гэту непаўторную прыгажосць, нельга будзе забыцца пра іх, дзе ты ні будзеш!..

Далмацінскае ўзбярэжжа Ядрана. Вёска Стара Каштэля, паблізу ад горада Спліта. Поўднёвае сонца, лагодны гоман мора, а на беразе — шумная маладосць: дзяўчаты і хлопцы, у большасці — гімназісты, ходзяць або бегаюць па бетоне набярэжнай, загараюць, зрэдку купаюцца. Зрэдку — таму, што купальны сезон тут яшчэ не пачаўся, і, наўздзіў мясцоваму насельніцтву, па-сапраўднаму, з ранку да ночы, купаемся толькі мы, савецкія турысты. Стройная прыгажуня Ілонка, выпускніца гімназіі, іграе з хлопцамі футбольным мячом. Грацыёзна, як кошачка, яна танцуе вакол мяча, ажыўляючы яго спрытнымі штуршкамі маленькіх быстрых ног, пасля — нечакана моцным ударам б'е па аднаму з сяброў. Промах — мяч ляціць у ваду і вось ужо калышацца на хвалях, што раз больш аддаляючыся ад берага. Гуллівая кошачка не хоча, вядома, і лапак памачыць, і, як відаць, нядрэнна ведае сабе цану.

— Марка! — крычыць яна аднаму з хлопцаў, які ляжыць на бетоне пляжа.

Марка — разамлелы на сонцы кот у трусах — лянiва ўздымаецца і, памарудзіўшы трохі, спрытна нырае ў ядранскія хвалі — удагон за мячом.

Ілонка больш не іграе, — няхай абсохне мяч. Яна паварочваецца ў наш бок і, здаецца, зусім абыякава, ну, проста так сабе, з невялікай цікавасцю глядзіць на турыстаў: шмат іх бывае тут, і ў Спліце, і ў Старой Каштэлі..

Благаславенне на ўсе — і кучаравыя, і лысыя — галовы аматараў фатаграфіі, што хоць зрэдку, але з'яўляюцца ў час!.. Адзін з нашых мінскіх маэстра падыходзіць да стомленай футбалісткі і, галантна раскланяўшыся саламяным капелюшом, пачынае перагаворы наконт таго, як-бы гэта «зняцца з намі на добры ўспамін». Так і пачынаецца знаёмства. Ілонка, Мэры, Разарыя ахвотна здымаюцца з беларускімі «кніжэўнікамі» (пісьменнікамі). Пасля падыходзяць дзяўчаты з не менш прыгожымі імёнамі—Жывіца, Міліца, Ясна, Тацяна... Збіраюцца хлопцы — Марка, які яшчэ не абсох, Ёке, Іва, Чэда... Пачынаецца гутарка, жарты, смех.

Найлепш гаворыць па-руску Ілонка. Яна — выдатніца. Мэры, напрыклад, смяюцца хлопцы, атрымала па рускай мове чацвёрку, і недахоп гэты, не на карысць даволі гаварлівай дзяўчыне, выяўляецца на практыцы, — хочучы нешта выказаць або спытацца пра нешта больш складанае, яна звяртаецца да Ілонкі. Зрэшты, Ілонка — не толькі перакладчыца, — яна наогул душа ўсёй гэтай маладой, вясёлай кампаніі, да таго-ж — душа сапраўды паэтычная. Зняўшы, нарэшце, свае дымчатыя акуляры, вясёлая прыгажуня, з аганьком у чорных вялікіх вачах, пачынае чытаць нам пісьмо пушкінскай Тацяны:

Я вам пишу, чего же боле,
Что я могу ещё сказать?..

І чытае Ілонка, па ўсім відаць, зусім не таму, каб пахваліцца сваёй, бясспрэчна, заслужанай пяцёркай, — ёй блізкія, ёй родныя пачуцці далёкай рускай сяброўкі, заключаныя ў такія простыя і такія глыбокія, вечныя словы. І ўсе мы разам з Ілонкай адчуваем цяпер, якая гэта сіла — сапраўднае мастацкае слова, як яно лучыць, еднае людзей... На блакітна-зялёных хвалях Ядрана, раскіданыя па ўсёй затоцы, бялеюць ветразі яхт, нібыта застылі на вадзе, склаўшы крыллі, вялізныя капусныя матылі. Ілонка чытае Лермантава, пра тое, як

Он мятежный ищет бури,
Как будто в буре есть покой.

Мы гаворым пра Анну Карэніну, успамінаем Горкага, Чэхава, Дастаеўскага... Дзяўчаты і хлопцы пытаюцца пра навінкі савецкай літаратуры, называюць імёны любімых кіноакцёраў, балерын... Нас ведаюць, нас любяць — савецкіх людзей, савецкае мастацтва. І як-жа брыдка нам, што мы, у параўнанні з імі, так мала ведаем культуру братняга народа.

Нам трэба ведаць шмат. Калі мы сустракаліся ў Югаславіі з людзьмі, пераважна маладымі, якія добра ведаюць рускую мову, нам было не толькі прыемна, але і няёмка, што мы, прадстаўнікі савецкай інтэлігенцыі, для росту і ўсебаковага развіцця якое народ стварае ўсе магчымасці, мы зрабілі і робім не ўсё, што можам і што павінны зрабіць.. Здаецца, каб яшчэ адно жыццё, дык пастараўся-б вывучыць адразу некалькі замежных моў, — усюды ўбачыў-бы і зразумеў-бы больш, усюды, куды давялося-б паехаць, больш расказаў-бы пра наша жыццё, пра нашу родную, непараўнаную ні з чым краіну! Як-жа добра было-б, каб гэта жаданне прыходзіла ў час, на парозе жыццёвай сталасці!..

Песня — душа народа...

Позняй ноччу, калі над хвалямі чароўнага Ядрана перамігваліся агнямі марскія маякі і лагодны пошум і плёскат хваль зліваўся з яшчэ больш лагодным гоманам лісця, мы спявалі, седзячы па шурпатых надморскіх валунах. Нажаль, адну толькі песню навучыла нас Даніца, наша сяброўка па падарожжы. Простая, задушэўная песня — пра хлопца, які не змог узяць сваё шчасце, а шчасце гэтае, не дачакаўшыся прызнання, выйшла за другога. Гэтая песня з роднай для Даніцы лясной сербскай Шумадзіі цудоўна пераклікалася з нашай «А ў полі вярба», «Уральскай рабінушкай», украінскімі «Хмелем» або «Летіла зозуля»...

Найбольш, аднак, запомніліся песні далмацінскай моладзі, песні нашых сяброў у зялёнай надморскай вёсцы Стара Каштэля. Стройны хор іх маладых галасоў, задушэўны тэнар саліста і ціхі перазвон гітарных струн, ціхі плёскат хваль і поўны месяц над супакоеным морам, — усё гэта настройвае душу на адпаведны лад, вядзе за сабой увесь звінячы, радасны рой успамінаў пра братнюю краіну чароўных песень і натхнёнай працы, суровай мужнасці і братняй шчырасці пачуццяў.

Прывітанне табе — цудоўная моладзь Югаславіі, шчасце, надзея народа, сімвал яго непераможнай, незгасальнай маладосці!









Сустрэча з югаслаўскімі выпускніцамі гімназіі. Першая злева Ілонка.

Селян Антоніч Цветка сярод турыстаў.

Стары, але надзейны від транспарту.

Вобласць Ліка. Сяляне ў нацыянальных касцюмах.

Фото І. Салавей.





# Для абслугоўвання рабочых

Пры клубе друкарні імя Сталіна працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці: танцавальны (кіраўнік работніца т. Бабіновіч), харавы (кіраўнік дырыжор т. Грыгорчанка), драматычны (кіраўнік заслужаны артыст БССР т. Някрасаў). Удзельнікі мастацкай самадзейнасці неаднаразова выступалі з канцэртамі і пастаноўкамі перад рабочымі свайго прадпрыемства і цагельнага завода № 1, перад студэнтамі бібліятэчнага і політэхнічнага тэхнікумаў, выязджалі ў падшэфны калгас і воінскую часць.

Драмгуртток паставіў спектаклі «Прапанова», «Юбілей», «На дачы» А. Чэхава, «Платон Крэчат» А. Карнейчука, «Без віны вінаватыя» А. Астроўскага і цяпер падрыхтаваў п'есу «Будка № 27» І. Франка.

Асаблівай папулярнасцю сярод гледачоў карыстаецца камсамолец Н. Федаркоў, які выконваў ролі Чубукова («Прапанова»), Хірына («Юбілей»), Баранчука («Баранчук прачнуўся») і інш.

Актыўна ўдзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці заг. бібліятэкі Е. Маліноўская, карэктар С. Розенберг, тэхнарук пераплётнага цэха В. Порах, лінатыпіст В. Капацкі, бухгалтар В. Дуброўская, сакратар камітэта комсамола В. Санкевіч.

Дырэкцыя, партыйная і прафсаюзная арганізацыі друкарні аддаюць шмат увагі развіццю мастацкай самадзейнасці. Актыўныя ўдзельнікі яе неаднаразова былі прэміраваны. У 1954 годзе на рэспубліканскім аглядзе драмгурткоў калектыў друкарні заняў першае месца сярод прадпрыемстваў Мінска. Некаторыя гурткоўцы былі ўзнагароджаны граматамі.

Цяпер калектывы мастацкай самадзейнасці абслугоўваюць рабочых у часе іх адпачынку на дачах Стайкі і Нарач і калгаснікаў падшэфнага калгаса.

**Н. ФІДЛЕР.**

На здымку злева: Сцэна з спектакля па п'есе А. Чэхава «Прапанова»; справа — Комсамолец Н. Федаркоў у ролі Хірына (п'еса «Юбілей» А. Чэхава).

# Новы трактар

З канвеера Мінскага трактарнага завода нядаўна пачалі сыходзіць новыя тралёвачныя дызельныя трактары МДТ-40. Гэтая машына — вынік вялікай работы канструктараў, эксперыментатараў, тэхнолагаў, рабочых.

Прызначэнне тралёвачнага трактара — механізаваць найбольш працаёмкі працэс лесанарыхтоўчых работ — транспартыроўку дрэваў з месца вырубкі. Новы трактар праектаваўся на базе мадэрнізаванага трактара КТ-12А з улікам вопыту яго эксплуатацыі. На новым трактары ўстаноўлены дызельны рухавік магутнасцю 40 конскіх сіл. Запуск яго ажыццяўляецца пры дапамозе карбюратарнага рухавіка. Замена газагенератарнага рухавіка дызельным дала трактару шмат пераваг. Адпала неабходнасць у частай запраўцы газагенератара чуркамі, рухавік пускаецца значна лягчэй і хутчэй.

Перамешчана таксама каробка перамены перадач. У канструкцыі пагрузачнага прыстасавання прадугледжана магчымасць тралёўкі як вяршынямі, так і камлямі ўперад. Пры такім спосабе тралёўкі не трэба папярэдне, перад пагрузкай, абсякаць сучча.

Многа клопатаў праявілі канструктары аб рабочым месцы трактарыста. Кабіна трактара больш прасторная, рухавік закрыты герметычным металічным капотам.

Першыя ўзоры новага трактара з поспехам прайшлі выпрабаванні на працягу 2 тысяч гадзін у Бягомельскім леспрамгасе Мінскай вобласці і Крэсцецкім Наўгародскай вобласці. Трактар паказаў высокія эксплуатацыйныя якасці пры бездарожжы, на забалочаных участках, у глыбокім снезе.

У распрацоўцы канструкцыі новага трактара поруч з вопытнымі канструктарамі старэйшага пакалення Дронгам, Дзікалавым, Андроновым прынялі ўдзел маладыя канструктары-камсамольцы Гуськоў, Трухан, Яраш, Чабатарова і іншыя. Зараз яны прадаўжаюць працаваць над удасканаленнем канструкцыі, над змяншэннем вагі трактара.

**П. СЦЕПАНЮК,**
старшы інжынер-канструктар аддзела галоўнага канструктара.



# Неразлучныя сябры

ПОШТА „МАЛАДОСЦІ"

За некалькі кілометраў ад Клецка, у прыгожай мясцовасці, на ўзгорку размясціліся памяшканні дзіцячага дома «Сцюдзянец». Старажылы гавораць, што дзіцячы дом узяў сваю назву ад дзесяткаў навакольных сцюдзёных крыніц. Крынічыць жыццё і ў самім дзіцячым доме, апраўдваючы гэтую цікавую назву.

Выхаванцы «Сцюдзянца» жывуць прыгожым працоўным жыццём. Адны з іх кожную вольную хвіліну працуюць на агародах, у садзе, вырошчваюць розныя культуры. Другія свой вольны час аддаюць разьбе па дрэву, працы ў майстэрнях. Трэціх заўсёды сустрэнеш на спартыўных пляцоўках, на занятках гурткоў мастацкай самадзейнасці. Віцю-ж Кудраўцава трэба шукаць на канюшні, сярод яго выхаванак — любімцы ўсяго дзіцячага дома «Зоркі» і «Каштанкі».

...У кабылы «Машкі», якую дзеці любілі за рахманы нораў, нарадзілася «дачка» — рыжая, з белаю зоркаю на ілбе. Дзеці адразу-ж далі ёй клічку «Зорка». «Зорка» аддала перавагу перад усімі Віцю Кудраўцаву, лашчылася толькі да яго, ішла толькі на Віцяў покліч.

І вось Віця прышоў да дырэктара дзіцячага дома Адама Пятровіча Карканіцы.

— Адам Пятровіч, дайце мне «Зорку» на выхаванне.

— Ну што-ж, — крыху падумаўшы, адказаў дырэктар, — бяры... Але глядзі, каб потым не давялося чырванець ні мне, ні табе.

— Не давядзецца, Адам Пятровіч.

Хлопчык любоўна даглядаў сваю выхаванку, песціў, вадзіў на луг. Яна хутка расла. «Зорка» вучылася хадзіць у плузе, фурманцы. Яе маленькі гаспадар не аднойчы з гонарам аб'язджаў на ёй наваколле, выклікаючы зайздрасць у хлапчукоў.

Ранняй вясною дзіцячы дом атрымаў вестку: за выхаванне «Зоркі» Віця Кудраўцаў стаў удзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі 1954 года і ўзнагароджаны медалем.

З той пары прайшло багата часу. Віця ўжо закончыў восьмы клас. Ён мае намер паступіць у сельскагаспадарчую школу і атрымаць спецыяльнасць зоатэхніка. Як і раней, большую частку дня ён праводзіць на канюшні ля «Зоркі». Толькі цяпер яна ў яго ўжо не адна. Побач — стойла другой выхаванкі Віці «Каштанкі», якую ў мінулым годзе маленькім жарабём набылі ў суседнім калгасе. І яшчэ адзін сябра ніколі не адстае ад Віці — гэта сабака «Сільва», таксама выгадаваны хлопчыкам. Паявіліся ў Віці і памочнікі — шасцікласнікі Антось Цыкман і Лёня Нячай і паслядоўнікі — усе дзеці цяпер даглядаюць розную жывёлу: свіней, хатнюю птушку, трусоў, галубоў.

На здымку: Віця Кудраўцаў са сваімі выхаванкамі.

Фота і тэкст **Р. ПЛАТОНАВА** і **А. МІРОШНІКАВА.**



# Батанічны сад у Мінску

Хто хоць раз пабываў у Мінску і наведаў Парк культуры і адпачынку імя Чэлюскінцаў, той, напэўна, звярнуў увагу на шырокую прыгожую алею, што, некалькі метраў не даходзячы парка, вядзе ўнутр агароджанага двара з надпісам «Батанічны сад АН БССР». Алея тут не звычайная — уся яна высаджана выключна маладымі дрэвамі хваёвых парод, і таму круглы год прыцягвае ўвагу сваім вечназялёным колерам.

На тэрыторыі саду ў розных месцах растуць хваёвыя малазнаёмыя нам дрэвы іншакраіннага паходжання. Калекцыя іх вялікая. Толькі адной ёлкі маецца больш 10 відаў. Самая прыгожая ёлка — «Сërабрыстая» і «Калючая», яе звычайна высаджваюць каля помнікаў і абеліскаў. Канадская хвоя і кедры, крымская хвоя і кіпарысы паспяхова растуць на землях батанічнага саду ва ўмовах беларускага клімату. Добра развіваюцца далёкаўсходняя лістоўніца, цягнецца да сонца прыгожая хуткарастучая дугласавая піхта, як-бы падстрыжаны садоўнікам, зелянее мажжавельнік «Віргінскі», драўніна якога незаменіма для вырабу алоўкаў.

Батанічны сад Акадэміі навук БССР амаль самы малады з існуючых у Саюзе ССР батанічных садоў. Створаны ён у 1931—32 гадах на 106 гектарах рэдкалесся. Зараз тут закладзены геаграфічныя ўчасткі флоры Беларусі, Заходняй Сібіры, Каўказа, Крыма, Усходняй Азіі, Сярэдняй Азіі, Поўночнай Амерыкі. За гады свайго існавання сад расшырыўся. У ім налічваецца амаль да трох тысяч відаў і гатункаў розных пладовых і дзікіх раслін, прывезеных з многіх краін свету.

Кветкавых і дэкаратыўных раслін у садзе можна налічыць 700—800 гатункаў. Гэта астры і півоні, ружа і бэз, нарцысы і хрызантэмы, цюльпаны... Цэлы шэраг дэкаратыўных дрэў і кветкавых раслін, як айчыннага, так і іншакраіннага паходжання, маюць вялікую каштоўнасць для азелянення гарадоў і іншых населеных пунктаў. Іх насенне, чаранкі, лукавіцы і карнявішчы батанічны сад адпускае трэстам зялёных насаджэнняў.

Можна пазнаёміцца ў батанічным садзе з багаццем тропікавай і субтропікавай раслінасці. 6 тысяч цеплалюбівых раслін, якія прадстаўляюць амаль 600 батанічных відаў, сабраны ў багатых аранжарэях. Тут можна сустрэць і ніколі не плоданосячыя ў нашых умовах пальмы і бананы, і адрастаючыя за суткі на 10—15 сантыметраў кактусы, якія трэба рэгулярна падразаць, каб яны не разрушылі даху аранжарэі.

Мічурынскі сад займае асобае месца сярод дзікіх і дэкаратыўных раслін. У ім ёсць больш 500 гатункаў яблынь і ігруш, чарэшні, вішні, парэчак і іншых пладовых раслін. Налічваецца 68 гатункаў агрэсту і 13 гатункаў суніц, 19 відаў абрыкосаў і персікаў. Выспяваюць і даюць плады 35 гатункаў вінаграду. Сярод іх «мускат жоўты», «усурыйскі ўраджайны», «брэсцкі чырвоны», «беларускі крапчаты».

У батанічным садзе працуюць шэсць навуковых супрацоўнікаў Акадэміі навук БССР. Яны праводзяць вялікую работу па акліматызацыі ў Беларусі каштоўных дрэў з іншых краін свету і з мэтай рэканструкцыі і ўзбагачэння нашай флоры. Сад трымае цесную сувязь з усімі старэйшымі і маладымі батанічнымі садамі нашай радзімы, праводзіць з імі абмен насення, чаранкоў, саджанцаў. Вядзецца перапіска з аматарамі дэндралогіі.

Да Айчыннай вайны ў Мінскім батанічным садзе быў шырока пастаўлены міжнародны абмен дэлектусамі (спісамі насення раслін, якія ёсць у садзе) з батанічнымі садамі зарубежных краін. У вайну гэты абмен быў парушаны і цяпер пачаў аднаўляцца. Ужо наладжана сувязь з многімі батанічнымі садамі краін народнай дэмакратыі, Поўночнай Амерыкі, Англіі.

**А. ЗАЯЦ.**

# Лялька

**В. СВІШЧОЎ**

*Мал. Наталлі Лебедзевай*

На сцяне несупынна вагаецца маятнік: уверх-уніз, уверх-уніз, цік-так, цік-так — нескончона паўтарае ён адны і тыя-ж гукі. І калі-б не гэтае цік-так, у пакоі дзяжурнага было-б зусім ціха. Лейтэнант Зорын, абапёршыся на далонь, у такт маятніка лічыць: пяцьдзесят восем, пяцьдзесят дзевяць, шэсцьдзесят і загінае палец — яшчэ адна мінута. Потым ён устае з-за стала, пачынае вымерваць крокамі пакой. Лейтэнант не любіць цішыні. Яна прыгнятае, насцярожвае.

Нехта ціхенька стукае ў дзверы; днём, калі ў міліцыі стаіць нескончоны шум, такога стуку ніхто не пачуў-бы.

— Заходзьце,— лейтэнант з цікавасцю сочыць за дзвярыма.

У пакой уваходзіць жанчына. Валасы, што выбіваюцца з-пад цёплай пуховай хусткі, сівеюць інеем.

«Моцны мароз на двары»,— думае Зорын, а ўголас пытаецца:

— Што прывяло вас сюды?

Жанчына дастае з кішэні чорнага, апушанага футрай поўшубка акуратна складзеную паперку.

— Вось прачытайце, не магла да заўтра чакаць.

Зорын разгортвае паперку. На крыва наклеенай тэлеграфнай стужцы — некалькі слоў.

«Люся Тамара Новасібірск не прыязджалі Нікольская».

Зорын запытальна глядзіць на жанчыну.

— Адразу вам, вядома, не зразумець. Дык я ўсё па парадку,— жанчына сядзіць насупраць. На яе твары страшэнная разгубленасць.

— Я вас слухаю.

— Перш за ўсё — хто я такая? Я Новікава, Настасся Іванаўна, Насця, адным словам. Насця Новікава. Жыву я па вуліцы Дальняй.

Перад вачыма лейтэнанта паўстае незабрукаваная яшчэ, уся ў каўдобінах і маладых прысадах ускраінная вуліца. Ого, моцна занепакоіла жанчыну тэлеграма, калі яна, не дачакаўшыся дня, пайшла ў такую далячынь! Якая яна радня прапаўшым Люсі і Тамары? Ці можа?.. Лейтэнант адганяе такую думку: у жанчыны адкрыты твар, чэсныя, праўдзівыя вочы, яны глядзяць на Зорына з надзеяй.

— Мужа ў мяне няма, загінуў на фронце. Сама я на швейнай фабрыцы працую. Можа, гэта і не цікава? — гаворыць далей жанчына.

— Не, чаму-ж, расказвайце...

— Дык пра што я? Ага, дзе я жыву... Побач з намі дом Страхавых. Віктар працуе дыспетчарам у парту, а яго бацька вартуе гастраном. Жонка Люся нідзе не працуе. Сям'я ў іх невялікая, свой гародчык. Ну, і Тамарка яшчэ малая — шосты гадок пайшоў. Дзеці, яны дзеці і ёсць. Кінеш іх дома без прыгляду, дык таго і чакай, каб якое няшчасце не здарылася... Вось, бачыце, і зноў я не тое кажу, што трэба.

— Не, не, усё гэта важна. Вас усхвалявала загадкавае знікненне з дому Страхавых жонкі Людмілы і дачкі Тамары. Вы зрабілі правільна, што прышлі паведаміць пра гэта.

— Дык вы ўжо ўсё ведаеце?

— Пакуль — нічога.

— Але-ж вы кажаце, што яны зніклі. Пра гэта ведаю толькі я.

— А пасля таго, як вы расказалі мне, ведаю яшчэ і я. Гэта вы давалі тэлеграму ў Новасібірск?

— Я... Вядома, можа, і не трэба было-б...

— Наадварот. Вы не здзіўляйцеся, адкуль мне вядома. З тэлеграмы відаць, што Люся і Тамара ў Новасібірск не прыязджалі. Значыць, яны павінны былі паехаць. Дзе-ж яны? Вось гэта вас і ўсхвалявала. Так?

Жанчына сцвярджальна кіўнула галавой.

— Спачатку я не надавала ніякай увагі. Віктар сказаў, што Люся кінула яго і з дачкой паехала да маці. І праўда, яны часта сварыліся. Ну, паехала і паехала. Толькі крыўдна было, што не прышла развітацца. А потым, калі пад Новы год ён прывёў у хату Ніну Вятрову, дык я занепакоілася. Паслала людмілінай маці тэлеграму, і вось бачыце самі: іх там няма.

— Даўно Страхаў ажаніўся?

— Тыдні два назад.

— І яшчэ адно пытанне. Вы не радня Людміле Страхавай?

Жанчына здзіўлена паглядзела на лейтэнанта.

— Не, а што?

— Нічога, проста зацікавіўся. Я вас папрашу застацца.

* * *

Крытая машына спынілася ля дома № 23 па вуліцы Дальняй. З яе выйшлі пяць чалавек і, асцярожна ступаючы па рыпучым снезе, пайшлі к дому.

— Пяць гадзін. Самы сон,— сказаў адзін з іх.— Уважліва сачыце за вокнамі. Хутчэй абгледзьце двор.

Двое адразу-ж аддзяліліся ад групы: адзін спрытна пераскочыў плот, уважліва агледзеў кожны закутак двара, другі, схаваўшыся, цікаваў за вокнамі.

Трое астатніх узышлі на ганак, з хвіліну стаялі моўчкі, потым адзін з іх рашуча пастукаў у дзверы. У доме было ціха. Зноў стук. У адказ — напружаная цішыня. Рука чалавека ў шынялі мімаволі намацала рукаятку пісталета.

— Хто там? — пачуўся, нарэшце, з-за дзвярэй заспаны жаночы голас.

Наперад выступіла жанчына.

— Гэта я, Ніна Васільеўна, ваша суседка Новікава з дзевятнаццатага дома. Адчыніце, калі ласка, у мяне да вас пільная справа.

За дзвярыма, відаць, раздумвалі, адчыняць дзверы ці не.

— Зараз, толькі апрануся.

У хаце зноў зрабілася ціха. Потым у вокнах загарэліся агні. Нарэшце, у сенцах бразнуў цяжкі засаў. Усе трое гурбой увайшлі ў сенцы. Па сценах, столі палаunion прамені электрычных ліхтароў. Жанчына кінулася ў хату.

— Хто вы? Што вам трэба?

— Спакойна. Я — начальнік міліцыі Воранаў. А гэтых людзей,— Воранаў паказаў на Новікаву і домакіраўніка,— вы, напэўна, ведаеце. Мы да вас па справе.

— Праходзьце, — гаспадыня спрабавала ўзяць сябе ў рукі, але ў яе голасе гучэў непераадольны страх.

— Хто тут жыве? — пытаўся між тым начальнік.

— Страхавы.

— Муж дома?

— Не, ён у камандзіроўцы. Сёння а першай гадзіне павінен прыехаць. Дома толькі я і свёкар. Ён там, на печы.

Нібы ў пацверджанне яе слоў на печы нехта па-старэчаму закашляў.

У хату зайшлі Каржоў і Ціханаў. Начальнік знарок марудзіў, выпрабавальна глядзеў на



гаспадыню. Мажная, крутабёдрая, з вялікімі вачыма, прыгожымі, але нахабнымі, яна нервова церабіла абшлаг халата.

— Даўно вы замужам за Страхавым?

— Усяго два тыдні. А што?

— Дзе-ж яго першая жонка, Люся.

Гаспадыня бойка затараторыла.

— Яна ў Новасібірск паехала. Разыйшліся яны, як кажуць, палюбоўна. Вось яна і паехала. А што? Яна-ж забрала ўсе рэчы. Вы не верыце?

— Чаму, верым,— Воранаў гаварыў з цвёрдым пераконаннем у голасе, што ён верыць Вятровай.—Я думаю, вы інакш і не выйшлі-б замуж за Віктара Сцяпанавіча.

— Так, вядома!

З печкі злез свёкар. Сеў на табурэт, скруціў з газеціны ладную самакрутку. У старога былі чырвоныя, нібы ад доўгай бяссоніцы вочы, яны ўвесь час слязіліся, і стары час-ад-часу выціраў іх нягнуткімі пальцамі.

— Добрай раніцы, бацька,— ветліва прывітаўся Воранаў.— Чаму-ж гэта ад вас так нечакана нявестка паехала? Няўжо вам унучка надакучыла?

— Унучка не пры чым,— стары зацягнуўся дымам. Адкашляўшыся, прадаўжаў: — З сынам нявестка не паладзілі. А ўнучка, што, дзіця. Я яе любіў. Ляльку надоечы купіў. Я сам працую, вось і збярог грошы. Малой уцеха і мне радасць. Націснеш ляльку—яна плача і вачыма моргае. Дужа адмысловая лялька, і ўнучка яе любіла.

— Любіла,— падхапіў Воранаў.— Хіба цяпер ужо не любіць?

Стары зноў зацягнуўся тытунёвым дымам, выцер слязлівыя вочы.

— Чаму не любіць. Мусіць, любіць. Далёка толькі яна цяпер. Паехала ў Новасібірск і ляльку з сабою павезла,— дзед усміхнуўся, нібы прыпомніўшы нейкую смешную дэталь.— Закруціла яе яшчэ ў коўдру, каб не замерзла. Дзіцё!..

— І рэчы нявестка таксама забрала?

— Забрала. Якія там рэчы. Грошы ёй сын аддаў — восем тысяч. А рэчы — два кошыкі, вось і ўсе рэчы.

Воранаў нецярпліва падняўся.

— Будзем рабіць вобыск, — сказаў ён новай гаспадыні.

— Што вы шукаць думаеце? — гаспадыня ў роспачы развяла рукі,— далібог у нас нічога забароненага няма.

Вобыск ішоў марудна крок за крокам. Воранаў і Ціханаў агледзелі шафы, куфры, ложкі. Ніякіх слядоў не было. Ціханаў закатаў палавікі, якія старанна хавалі падлогу.

— Вось тут, таварыш начальнік, падлогу нібы скрэблі.

— Гэта я мыла яе. Вельмі брудная была. Муж таму і не мірыўся з жонкай, што яна гразнуха.

Воранаў нічога не адказаў. А капітан поўзаў па падлозе з лупай. Вось ён нешта доўга разглядаў, потым дастаў з кішэні ножык, адшчапіў кавалак маснічыны, загарнуў яго ў паперу.

— Шукайце ў паграбцу, — прапанаваў Воранаў.

Капітан падняў маснічыну. Пад падлогай была звычайная яма. Відаць, гаспадары яшчэ не паспелі яе працэментаваць.

Воранаў свяціў, а капітан вывучаў зямлю.

— Каржоў, прынясіце рыдлёўку, яна ў сенцах.

Міліцыянер прынёс рыдлёўку. Капітан паглядзеў на рыдлёўку, потым на зямлю і пачаў капаць. Рыдлёўка глыбока ўваходзіла ў мяккую зямлю. Капітан капаў моўчкі. І вось рыдлёўка наткнулася на нешта мяккае. Ціханаў асцярожна разгроб зямлю, выцягнуў вузел.

— Што тут!? — сурова запытаўся Воранаў у гаспадара.

— Не ведаю,—дзед абапёрся на рукі, глядзеў на падлогу.

— Развязвай.

Каржоў адну за другой даставаў рэчы.

— Паліто, хустка, плацце, туфлі,—гучна паўтараў ён, і яго голас адзінока гучэў у цішыні. Вось ён дастаў нейкі скрутак. Разгарнуў яго, і ўсе ўбачылі ляльку: ружовашчокую, белавалосую, з сінімі-сінімі вачыма, якія час-адчасу моргалі.



—Ну, вось і лялька. А вы казалі, што яна паехала ў Новасібірск.

— Я тады дома не быў. Але бачыў, як унучка загортвала ляльку вось у гэтую коўдру.

Усе замоўклі. Потым Насця Новікава здзіўлена запыталася:

— У чым-жа паехала Люся? Гэтае паліто было ў яе адзінае!

Гаспадыня, не міргнуўшы, адказала:

— Муж гаварыў, што купіў ёй новае паліто. І наогул, пытайцеся пра ўсё ў яго.

Воранаў яшчэ раз абвёў вачыма хату. Яго погляд спыніўся на паляўнічай стрэльбе. Ён адкрыў затвор, потым рэзка захлопнуў яго і зноў павесіў стрэльбу.

— Дзе трупы? — начальнік цопкімі пальцамі сціснуў плячо старога.

— Што вы? Якія трупы? — спалохана запытаўся дзед.

— Тады пойдзем з намі. Вы арыштаваны. І вы, грамадзянка, таксама.

* * *

Поезд, пыхкаючы парай і дымам, павольна падыходзіў к перону. Нехта махаў хусцінкай, нехта ўзбуджана крычаў: Валя, Валя. З шостага вагона выйшаў шырокаплечы, гарбаносы, з чорнымі валасамі чалавек. У яго руках — два чамаданы. Чалавек агледзеўся, але, відаць, не ўбачыўшы знаёмых, паволі рушыў за вароты. Вось ён вышаў за браму і наважыўся перасекчы плошчу. Чалавек хацеў сесці на аўтобус. Але не зрабіў ён і пяці крокаў па плошчы, як дарогу яму перагарадзіла таксі. Чалавек паставіў чамаданы, і тады, прыадчыніўшы дзверы, шафёр запытаўся:

— Падвязем?

— Можна, — згадзіўся чалавек.

— Вам куды?

— На вуліцу Дальнюю.

— О-о-о, крыху не па дарозе. Але нічога? У мяне ўжо двое пасажыраў ёсць,— шафёр вылузнуўся з кабіны, падхапіў чамаданы, спрытна паклаў іх у багажнік. Потым гэтак-жа спрытна ён адчыніў дзверцы і ветліва запрасіў:— Сядайце.

З Савецкай плошчы машына павярнула направа.

— Мне налева,— абурана сказаў чорны.— Хіба вы не ведаеце, дзе вуліца Дальняя?

— Вось ссаджу гэтых двух,— шафёр кіўнуў на задняе сядзенне.

Чорны пасажыр адкінуўся на спінку. На Пралетарскай вуліцы машына прытармазіла і раптам вільнула на двор. І адразу-ж тыя, што сядзелі ззаду, выскачылі з машыны, адчынілі пярэднія дзверцы.

— Пройдзем з намі,— прапанавалі яны чорнаму пасажыру.

Чалавек, забыўшыся на рэчы, моўчкі пайшоў у дом.

— У чым справа? — запытаўся ён, калі яго завялі ў адзін з кабінетаў.— Вы многа на сябе бярэце, крадучы людзей такім чынам. Я буду скардзіцца.

— Вельмі прашу прабачыць, але ў мяне было вельмі пільнае да вас пытанне. Вы, спадзяюся, Страхаў Віктар Сцяпанавіч?

— Дапусцім.

— Тады вы, можа, скажаце, дзе зараз ваша першая жонка і дачка Тамара?

— Каб задаць гэтае пытанне, вы мяне крадзеце на вакзале. Але я мог на яго адказаць у любы час і без гэтых фокусаў,— у голасе Страхава чулася натуральнае абурэнне.— Мая жонка паехала да маці ў Новасібірск. Гэтага вам хопіць?

Начальнік міліцыі падаў Страхаву тэлеграму.

— Тады растлумачце, у чым справа.

Страхаў прачытаў тэкст, здзіўлена акругліў вочы.

— Не можа быць. Якое непаразуменне. Нарэшце, гэта ў яе звычцы. Баламутная бабёнка. Блыталася з кім папала. Кажуць, у яе быў нейкі маёр. Можа, з ім куды-небудзь паехала.

Воранаў напружана думаў. На хвіліну мільганула думка, што затрыманыя людзі не вінаваты. Якія ў яго, уласна, доказы, што яны забілі жанчыну і яе дзіця? Рэчы, след крыві. Гэтага вельмі мала. Гаспадыня і стары маўчаць. Але сам Страхаў пра гэта не ведае. І Воранаў рашыў ісці напрост.

— Нікуды ваша жонка не ехала. Вы забілі яе і дачку. Так, так. Новая жонка і бацька прызналіся. Дзе трупы?

Страхаў, як ашпараны, ускочыў з крэсла.

— А-а-а, я?.. Жонку, дачку?.. Вы ашалелі... Гэта мяне вінаваціце. Я не даваў ёй дачку. Я ведаў, яна яе загубіць. Тамарка мая...

Па твары Страхава паліліся слёзы. Твар сударгліва корчыўся ад болю.

«Не вінаваты, — падумаў Воранаў. — Тады дзе жонка і дачка?»

Страхаў яшчэ доўга ўздрыгваў ад задушанага плачу. Нарэшце, ён супакоіўся, выпіў вады.

— Божа мой, няўжо яна загубіла дачку. Я так любіў яе. Я плакаў, калі яна ад'язджала. Я цалаваў яе і ляльку, якую яна павезла з сабою. Вы можаце ўявіць, як мне было цяжка, калі дачушка, трымаючы на адной руцэ ляльку, загорнутую ў коўдру, другой махала мне на развітанне. І я забіў дачку?! — Страхаў зноў заплакаў. Затым ён неяк абмяк і рухнуў на край стала, дзе ляжала прыкрытая газетай нейкая рэч.

— Ма-ма-а,— нешта запішчала з-пад газеты.

Страхаў ашалела падскочыў, яго твар перакасіў страх. Не памятаючы сябе, ён схапіў газету. На стале ляжала лялька.

Страхаў адкінуў назад чорныя валасы, размашыста сеў на крэсла.

— Праклятая лялька. Усё з-за яе. Ваша ўзяла. Так, я забіў іх. Дзе трупы? У хляве закапаны. Каб не лялька, нічога вы не даведаліся-б. Трэба было спаліць.

Воранаў пагардліва ўсміхнуўся.

— Не лялька, а нашы людзі вас выкрылі. Простыя, савецкія людзі.

# Музей на даму





Так выглядаюць пакой і сцены ў кватэры І. Д. Галькевіча.
Фото аўтара.

Увесь невялікі пакой застаўлены дзівосными рэчамі. Ля шчытоў з медалямі і манетамі, быццам нерухомыя вартавыя, стаяць бронзавыя старажытныя рыцары. Каменныя багі ўтаропіліся сляпымі вачыма ў вялізныя зубы маманта. Заржавелыя кайданы катаржніка ляжаць побач з масіўным нагрудным ланцужком царскага міравога суддзі...

Здавалася, сама гісторыя зносіла сюды на працягу стагоддзяў даніну. Колькі энергіі і настойлівасці павінен мець чалавек, які нястомна шукае і зберагае гэткае багацце!

Імя Івана Данілавіча Галькевіча — вядомага ў Віцебску калекцыянера, сціплага выкладчыка Віцебскага медыцынскага вучылішча, вядома многім. У яго кватэры пабывалі сотні людзей. Адны прыходзяць сюды як цікаўныя наведвальнікі, другія — каб прапанаваць новыя экспанаты.

Тое, што робіць Іван Данілавіч,— не дзівацтва. Сваім шматлікім гасцям ён любіць паўтараць крылатыя словы: «Той, хто не цэніць і не ведае мінулага, не мае будучага». І найкаштоўнейшыя помнікі як даўняй, так і зусім яшчэ нядаўняй мінуўшчыны, якія з любоўю ён сабраў, сапраўды пра многае расказваюць, многаму навучаць.

Вось нямецкія медаль і манета, якія Іван Данілавіч паказвае звычайна разам. Медаль выпушчаны ў 1914 годзе. На ліцавым яго баку — карта Еўропы. З цэнтра кайзераўскай імперыі да Англіі, Францыі, Італіі і Расіі накіраваны агсленыя мячы. «Кароль кліча, усе, усе пойдзем за ім!» — заклікае ваяўнічы надпіс. А на адвароце для натхнення вернападданых — маніфест Вільгельма... Наступны мядзяк — манета у 100 мільёнаў (!) марак. Яна — нібы эмблема пакут і цяжкасцей, якімі расплачвалася Германія за колішнія мячы і ваенныя маніфесты. З аднаго боку — палаючае сэрца; з другога — прыкаваны да скалы Прametэй, і хцівы арол дзяўбе ў яго печань...

Як бачым, у двух кавалках металу — яркі расказ аб трагедыі цэлага народа. Можна ўявіць, якія цудоўныя гэта дапаможнікі для настаўніка!

Пра што тут не даведаешся, знаёмячыся з нумізматычнай калекцыяй Івана Данілавіча! Грашовыя знакі старажытнай Грэцыі, знойдзеныя пры капанні калодзежа на гарадской ускраіне — Маркаўшчыне, пераносяць нас у часы, калі недалёка ад Віцебска праходзіў славуты «шлях з варагаў у грэкі». Манеты-малюткі, чаканеныя Іванам Грозным, велічынёю з фасоліну, расказваюць пра тагачасны звычай насіць дробныя грошы ў роце, за шчакой. Медалі, выпушчаныя Пятром І у гонар перамогі пад Палтавай (на адвароце надпіс: «А о Петре ведайте, что жизнь ему не дорога — жила бы только Россия...») і Аляксандрам І пасля выгнання і разгрому Напалеона, напамінаюць пра слаўныя старонкі гісторыі рускага народа.

Медалі і манеты — толькі частка калекцыі Івана Данілавіча. У яго выдатным хатнім музеі — самыя рознастайныя помнікі старажытнасці. Вось карціна — цудоўнае паўтарэнне славутай «Тайнай вячэры» Леанарда да Вінчы. Паводле меркавання спецыялістаў, яна зроблена адным з вучняў геніяльнага мастака. Вось амаль пудовы псалтыр двухсотгадовай даўнасці. Зацікаўленыя больш у «мірскіх», чым у загробных справах, царкоўнікі не спыніліся перад багахульствам — намалявалі з німбам і крыламі святых імператрыцу Елізавету і яе наследнікаў... А гэта — рукапісны «лячэбнік», занатаваны ў 1827 годзе «богословия учеником» Захарам Балашовым; ноты, на якіх рукою Івана Сяргеевіча Тургенева запісаны словы з каваціны Фауста. Цікавых аўтографаў, наогул, у Івана Данілавіча многа. У яго ёсць кнігі з аўтографамі акадэміка Карскага, пісьменнікаў Шчэпкінай-Куперник, Прышвіна, Эрэнбурга, фотаздымак з даравальным надпісам Янкі Купалы і г. д.

А колькі ў кватэры рэчаў, прыналежнасць і каштоўнасць якіх яшчэ трэба ўстанаўліваць! Гаспадар не ведае, напрыклад, хто аўтар нядаўна набытага ім партрэта дзяўчыны, які, паводле манеры выканання, адносіцца да XVIII стагоддзя. Або скульптура хлопчыка, знойдзеная землякопамі. Калі Галькевіч ачысціў яе ад іржы і гліны, перад ім паўстала да слёз хвалюючая сваёй выразнасцю фігурка маленькага жабрака — худзенькага, абадранага, з самотным поглядам. Прозвішча аўтара таленавітай работы гаспадар усё яшчэ не ведае. Маўчыць пакуль што і Эрмітаж, куды ён звярнуўся за кансультацыяй.

Папаўненне для сваёй выдатнай калекцыі Галькевіч знаходзіць у самых нечаканых месцах. Гуляюць хлапчукі ў «шлёп», а біткай з'яўляецца юбілейны медаль Пецербургскай акадэміі мастацтваў. Разбурае селянін стары падмурак, а сярод цэглы — каштоўнейшая старадаўняя манета, якую яго прапрадзед паклаў туды, каб у хаце вялося багацце...

І. Д. Галькевіч.



У Івана Данілавіча ўсё больш сяброў, якія дапамагаюць яму ў папаўненні музея. Лік сяброў расце і ў іншых гарадах. Рэгулярна пішуць яму калекцыянеры — Нікіфараў з Тамбова, Полазаў з Бранска, Шоя з Растова-на-Дану, Слюнкоў з Омска, Сцімасаў з Масквы.

Хатні музей віцебскага педагога Івана Данілавіча Галькевіча з цікавасцю наведваюць рабочыя, студэнты, таварышы па прафесіі.

«Глыбокапаважаны Іван Данілавіч! — напісаў адзін са шматлікіх наведвальнікаў дацэнт Г. Лур'е ў сваім водгуку.— Ваш цудоўны музей пакідае выключнае ўражанне. Яго багацце і высокая культура робяць гонар вашай працавітасці, вашай выдатнай мэтанакіраванасці і волі».

Да гэтых слоў хочацца далучыцца ўсім сэрцам.

**Ул. МЕХАЎ.**

г. Віцебск.

## Каб узмоцнена біліся сэрцы...

Перапоўненая зала... Усюды — карычневыя сукенкі, чорныя і белыя фартухі шасцікласніц і сямікласніц, форменныя гузікі рамеснікаў. Прагна накіраваны на сцэну сотні вачэй. Так выглядае зала Тэатра юнага гледача.

Значную частку трупы ў Тэатры юнага гледача складаюць маладыя артысты — выпускнікі тэатральна-мастацкага інстытута. Яны розныя па характару дараванняў, але ўсіх іх характарызуе вялікая працавітасць. Моладзь тэатра радуе гледачоў і сваіх старэйшых таварышаў свежасцю і непасрэднасцю створаных сцэнічных вобразаў.

Тэатр наладзіў цесную сувязь з камсамольскімі арганізацыямі, з школьнымі актывамі, арганізоўвае абмеркаванне спектакляў. На гэтых абмеркаваннях выяўляецца, што моладзь хоча бачыць на сцэне герояў, па якіх можна раўняцца, з якіх можна было-б браць прыклад. Шкада, што такой сувязі, якая існуе з школай і камсамолам, пакуль яшчэ няма з драматургамі. Хацелася-б убачыць на сцэне нашага тэатра п'есы беларускіх драматургаў, хацелася-б, каб драматургі не абмяжоўвалі поле сваёй дзейнасці толькі тэатрам для дарослых, а стваралі-б п'есы пра школу, пра дзяцей, пра жыццё нашай моладзі. Тэатр з вялікай радасцю будзе працаваць над п'есамі пра камсамол, пра нашых рамеснікаў, пра суvoraўцаў. Такія п'есы з нецярплівасцю чакаюць нашы юныя гледачы, і ў гэтым тэатру павінны дапамагаць Саюз пісьменнікаў і Міністэрства культуры БССР.

Пажадаем Тэатру юнага гледача працаваць яшчэ больш настойліва і напружана над удасканаленнем свайго майстэрства. Трэба дамагацца таго, каб кожны новы спектакль прымушаў узмоцнена біцца маладыя сэрцы.

**А. САННІКАВА.**



Сцэна са спектакля «Горад Майстроў».
Фото М. Ананьіна.

*Сатыра і гумар*

# Праз дзверцы „ЗІМа“

**А. КАРНЕЕЎ**



Мал. А. Волкава

Скончыўшы работу, Сымон Пятровіч Чубрыкаў выйшаў з установы, якою ён кіруе вось ужо на працягу некалькіх год. Быў цёплы, нават крыху парны майскі вечар. Які ні чорствы, далёкі ад лятуценнасці быў Сымон Пятровіч, усё-ж і ён спакусіўся прайсці пешшу па цэнтральнай вуліцы і падыхаць свежым водырным паветрам.

Жыў Сымон Пятровіч у прыгожым з калонамі доме над самай рэчкаю, што як-бы перарэзвала ўпоперак горад. У звычайныя дні на работу і назад яго вазіла персанальная машына. Але сёння ён вырашыў прайсці некалькі кварталаў, а пасля пад'ехаць дадому гарадскім аўтобусам. Сымон Пятровіч падыйшоў да ЗІМа, які стаяў ля пад'езда. Пачуўшы знаёмыя крокі, шафёр хуценька адчыніў дзверцы машыны.

— Вася,— сказаў спакойна Сымон Пятровіч,— я сёння пешачка. А ты едзь у гараж. Заўтра, а палове дзевятай,— дадаў ён.

Шумныя і людныя вуліцы горада ў час заканчэння работы. У скверах, у магазінах, ля зіхатлівых вітрын — натоўпы людзей. Сымона Пятровіча захапіў людскі рух, і ён хутка засігаў у агульным патоку. Але неўзабаве ён засопся і, спатнелы, пайшоў да прыпынку аўтобуса. Там стаяла вялікая чарга. Людзі тоўпіліся, шумелі, раз-по-разу чуўся свісток міліцыянера. Сымон Пятровіч спакойна стаяў у чарзе. Адзін за адным праходзілі перапоўненыя аўтобусы. Час ішоў, а чарга стаяла на месцы. Сёй-той не вытрымаў, стараючыся трапіць у аўтобус праз пярэднія дзверы. Чулася лаянка ў адрас вадзіцеляў.

— Не можаце навесці парадак, навошта вы тут стаіце? — гаварылі з натоўпу да міліцыянера.

— Грамадзяне, не хвалюйцеся, бачыце, машыны поўныя,—спакойна адказваў міліцыянер,— праз паўгадзіны ўсе паедзеце.

— Непарадак. Па паўгадзіны стаяць у чарзе,— не суніманіся людзі,— мы будзем скардзіцца ў горсовет.

Па спіне Сымона Пятровіча прабеглі мурашкі. Ён азірнуўся, ці няма ў чарзе знаёмых. І хоць быў цёплы вечар, ён наставіў каўнер летняга паліто. «Так, непарадкі»,— падумаў ён.

Неўзабаве ён праціснуўся ў аўтобус. Там хто стаяў, хто вісеў на адной руцэ. Сымон Пятровіч, сціснуты з усіх бакоў, стаяў на задняй пляцоўцы. Яму наступалі на ногі, штурхалі. Нехта збоку дыхаў гарэлачным перагарам. І раптам ён адчуў, што хтосьці лезе яму ў ніжнюю кішэню. На твары ў яго выступіў халодны пот. Ён хацеў праціснуць руку да сваёй кішэні. Але дарма. Хлапчук, што стаяў з ім поруч, шчыльна прыціснуўся да яго. З вялікай цяжкасцю Сымону Пятровічу ўдалося адштурхнуць хлапчука. І вось нечыя пальцы ён сціснуў у сваёй руцэ. У гэты момант аўтобус спыніўся, хлапчук ірвануўся да дзвярэй і выскачыў з аўтобуса. Сымон Пятровіч заўважыў знаёмы твар. Жэня! «Не, не можа быць»,— падумаў ён сам сабе.

— Ну, браточкі, я пагарэў,— сказаў збялелы доўганогі хлапчук сваім сябрам, якія акружылі яго на тратуары.

— Не звяртай увагі, яшчэ і не так бывае.

— Што ты, Ванька, гэта-ж мой бацька!

— Што ты кажаш!—выгукнулі ў адзін голас сябрукі.

На момант усе замоўклі, не ведаючы, што рабіць.

— А можа, ён не заўважыў, — сказаў нехта з хлапчукоў.

— Ён...— з горыччу сказаў даўганогі хлапчук, — ён пазнаў мяне.

Іван трывожным позіркам правеў аўтобус.

— Ідзя! — раптам ускрыкнуў ён.— Жэнька, бяры вунь тое таксі і гайда дадому. Калі ты прыедзеш раней за бацьку, дык не ўсё прапала. Давай!..— падштурхнуў ён яго.

Жэнька хуценька ўскочыў у таксі.

— Садовая пяць! Толькі як мага хутчэй,—сказаў ён шафёру.

— Можна і хутчэй,— сказаў той абыякава.

Праз колькі хвілін таксі падкаціла пад дом. Жэнька хуценька разлічыўся і пабег у дом. Хвіліны праз дзве на рагу вуліцы спыніўся аўтобус. Сымон Пятровіч, увесь спатнелы, выйшаў на свежае паветра. Трывожныя думкі сляпіцаю лезлі ў галаву. «Няўжо ён?» ... Сымон Пятровіч таропка выцер насоўкаю мокры лоб, стараючыся адагнаць гэтую страшэнную думку. Сумленны, праўдзівы, як думаў пра Жэньку бацька, і раптам — злодзей... Не, гэтага не можа быць», — заспакойваў ён сам сябе.

Неўзаметку ён падыйшоў да дзвярэй кватэры, націснуў кнопку электрычнага званка. Дзверы расчыніліся, на парозе стаяў Жэнька.

«Значыць, не ён!»—мільганула ў галаве.

Жэнька хуценька зачыніў дзверы. Яму здалося, што бацька ведае ўсё. Ён нават неяк аж абяссілеў. «Зараз дасць лупцоўку»,— падумаў ён.

Падрыхтаваны да ўсяго, ён пайшоў у свой пакой. Калі ён браў з кніжнай шафы для прыліку кніжку, рукі яго калаціліся. Сеўшы на канапку, Жэнька раз-по-разу пазіраў на дзверы, чакаў бацьку. Але бацька не паказваўся. Хвілін праз пятнаццаць Жэнька пачуў ласкавы матчын голас:

— Жэня, ідзі есці...

«Значыць, яна яшчэ нічога не ведае»,—падумаў ён.

— Мама, я не хачу,—як не сваім голасам, адказаў ён.

Маці ўвайшла ў пакой і дакранулася ружовай пульхнай рукою да жэнькавага ілба.

— Ты што, хворы?..—спалохана спытала яна.

— Ды не, нічога...—патупіўшы вочы, адказаў Жэнька.

— А я думала, табе што баліць,—паспакайнела маці і, ласкава абняўшы сына, дадала:—Ідзі, мой хлопчык, выпі шклянку кавы з піражным.

Жэнька нешта буркнуў і выйшаў следам за маці ў сталовую. Ён сеў за стол супраць бацькі, стараючыся менш глядзець яму ў вочы. Але дарэмнай была трывога Жэнькі. Неўзабаве ўсе павячэралі і кожны заняўся сваёй справай. Тамара Васільеўна і маленькая жэнькава сястра Валя выйшлі ў дзіцячы пакой. Маці вышывала сурвэтку, а Валя майстравала з кубікаў хатку.

Бацька пасля добрай вячэры сеў у мяккае крэсла і пачаў чытаць газету. Чытаў ён нядоўга. Хутка газета спаўзла яму на калені і ў цішыні пакоя пачуўся храп.

У першым пакоі зазваніў электрычны званок. Жэнька кінуў кніжку і хуценька адчыніў дзверы. На парозе стаяла з партфелем у руцэ класны кіраўнік Надзея Пятроўна.

— Бацька дома?— лагодна спытала яна.

— Ён... адпачывае...—ледзь чутна адказаў Жэнька.

Надзея Пятроўна хацела яшчэ нешта сказаць, але ў гэты момант у пакой увайшла Тамара Васільеўна.

— Вы да нас? Калі ласка, праходзьце.

Надзея Пятроўна прайшла ў другі пакой. Сымон Пятровіч, адчуўшы жончын штуршок, перастаў храпці і, падняўшы з каленяў газету, павітаўся з настаўніцай. Жэнькавы бацькі вось ужо два гады пасля таго, як Жэнька перайшоў у сёмы клас, не былі ў школе. Жэнька ўсе гады добра вучыўся, таму яны вырашылі, што сыну, амаль ужо даросламу,



Марк СМАГАРОВІЧ

### Бацька

Па хаце ходзіць Савасцей
Задумлівы, вядома:
Ён гадаваў траіх дзяцей,
Лічы — адно з іх дома.
Яго старэйшы сын Адам
Жыве ў Алтайскім краі.
Камбайнер ён. Здымае там
Высокія ўраджаі.
Гаворыць Савасцей з дачкой,
На лаве сеўшы побач;
Яна душою маладой
Сагрэць паедзе Поўнач.
Развагі, нібы цень, ляглі
У бацькі на аблічча:
Якая-ж далеч і калі
Малодшага пакліча?
Мільгае думка ў галаве:
Не можа быць сакрэту,
Патрэбна будзе — абжыве
Ён іншую планету!

### Навальніца

Здаецца, што па-над пшаніцай
Не хмару ўдаль нясуць вятры,
А хмурыць бровы навальніца,
Вачамі бліскае ўгары.
Сасмаглыя пасевы з неба
На полі ўбачыла яна
І прагрымела: — Дождж ім трэба,
Жаўцее лён і збажына! —
І лівень хлынуў скрозь на жыта.
Ён засланіў сабою бор.
Падобным стаў на школьны сшытак
Наўскос зліненны прастор.
Дождж не паспеў яшчэ спыніцца,
Не выпіў лужын грунт зямлі,
А ўжо вясёлая пшаніца
І вушы буракі ўзнялі.

### Землякі

Мора прада мной не на малюнку,
А жывое туліцца да гор.
Я пагляд спыняю ў тым кірунку,
У якім заўважыў мачтаў бор.
І адразу пазнаю сасонкі,
Што са мной нэд Прыпяццю раслі.
Вось такіх, вынослівых і гонкіх,
Анідзе не знойдзеш на зямлі.
Гне тут бура часта іх, магчыма,
Ды яны не падвядуць людзей...
І мяне, прывольная Радзіма,
Пасылай туды, дзе найцяжэй!

* * *

Спіць мора ў ціхую пагоду.
Стаіць таполяў стройных рад.
Я, асядлаўшы камень з ходу,
Прыняўся есці вінаград.
Непадалёку селі двое,
Жартуюць шчыра між сабой;
Яны не ведаюць пра тое,
Што стала ў гэты час са мной:
Я ўспомніў першы пацалунак,
Вясновы расквітнелы сад,
І ўміг пасаладзеў ласунак —
Каўказскі спелы вінаград.

### У лесе

Тут сплялі свае галіны,
К небу ўскінулі чубы,
Пасівелыя асіны,
Стогадовыя дубы.
А пад імі ў цені лісця
Каржанее маладняк.
Немагчыма тут прабіцца
Да святла думкам ніяк.
Іх-бы знесці на паляны,
Хай сабе растуць тады.
Нельга-ж, братцы веліканы,
Рост марудзіць маладых!

час быць самастойным. Яны нават не ведалі Надзеі Пятроўны.

— Я кіраўнік таго класа, у якім вучыцца ваш сын,— адрэкамендавалася яна.

— Вельмі прыемна... Сядайце, калі ласка,— запрашала Тамара Васільеўна.

— Я прышла да вас пагаварыць адносна вашага сына, — спакойна пачала Надзея Пятроўна.

Сымон Пятровіч, пачуўшы пра сына, нахмурыў бровы.

— За апошні час ён двойкі мае.

Надзея Пятроўна зрабіла паўзу, нібы хочучы праверыць, якое ўражанне на бацькоў зрабілі яе словы.

— Апрача таго, ён пачаў прапускаць урокі,— працягвала Надзея Пятроўна.—Я спрабавала з ім пагаварыць, дык ні блізка.

— Не можа быць,— перабіла яе Тамара Васільеўна,— ён у нас заўсёды такі паслухмяны. Можа, гэта памылка?

— Не, гэта не памылка. Я другі год працую класным кіраўніком і мне відаць, што ў апошні час з ім адбываецца нешта незвычайнае. Можа, яму дома што перашкаджае?

Надзея Пятроўна яшчэ раз зірнула на жэнькаву маці.

— Вось таму я і зайшла да вас,— скончыла яна.

— Што вы, дома яму нішто не перашкаджае,— абыякава сказала Тамара Васільеўна. Відаць было, што ёй не падабаўся прыход класнага кіраўніка.— Гэта пераходны ўзрост,— стараючыся заспакоіць настаўніцу, працягвала маці.— Жэню пайшоў семнаццаты год, а ў пятнаццаць год мы яму далі поўную самастойнасць, дык ён, відаць, яшчэ не ведае, як ёю карыстацца. Мне здаецца, што гэта не вельмі ўжо небяспечна. Як ты, бацька, думаеш? — звярнулася яна да Сымона Пятровіча.

— Ды гэта пройдзе,— азваўся ён, лена пазяхаючы.

— Але ўсё-ж я лічу, што гэтую самастойнасць трэба кантраляваць,—заўважыла Надзея Пятроўна.

— Так, так, зразумела. Мы вам вельмі ўдзячны,— устаючы з канапы, адказала маці.

Надзея Пятроўна адчула абыякавасць бацькоў да яе прыходу. І як толькі зачыніліся дзверы за класным кіраўніком, Тамара Васільеўна заўважыла:

— Ніякага такту... Разумееш? Яна цікавіцца нашым сямейным жыццём.

Але Сымон Пятровіч ужо нічога не чуў, ён ужо хроп сабе ў мяккім крэсле.

На другі дзень пасля заняткаў Жэнька сустрэўся з сябрамі.

— Ну, як? — спытаў Іван.

Жэнька, знаходзячыся яшчэ пад уражаннем учарашняга дня, адказаў няпэўна:

— Не ведаю.

— Мо' білі?

— Не, але я адчуваю сябе дрэнна.

— Калі не білі, дык плюнь на ўсё,— заўважыў Іван.— Ведаеце што, хлопцы, давайце змайструем па сто грамаў.

— Гайда,— падхапілі хлопцы, цягнучы за сабою ў піўную Жэньку.

Мінула некалькі дзён. Як звычайна, ад дома, што на беразе рэчкі, да месца работы і назад кожны дзень курсіраваў цёмнасіні ЗІМ. У ім велічна і важна сядзеў Сымон Пятровіч, зрэдку паварочваючы галаву да поўадкрытага акна машыны. І раптам яго ўвагу прыцягнула здарэнне. З задняй пляцоўкі аўтобуса старшына міліцыі здымаў затрыманага хлапчука. Ля аўтобуса сабраўся натоўп разявак. ЗІМ мякка затармазіў. Сымон Пятровіч прыадчыніў дзверцы машыны.

— Што здарылася?— спытаў ён у жанчыны.

— Злодзея злавілі, па кішэнях лазіў.

— А...— спачувальна працягнуў Сымон Пятровіч.

Раптам хлопчык аглянуўся, і Сымон Пятровіч пазнаў свайго сына. У яго пацямнела ў ваччу.

## НА КОНКУРС „МАЛАДОСЦІ“







Здымак уверсе зроблены ў Гомелі Міколам Старчанкам. Аматар умела знайшоў месца для фатаграфіі. На ёй вы бачыце пад'езд да рачнога вакзала, прывольныя прасторы Сожа.

Другі здымак зроблены ў Мінску ў парку імя Чэлюскінцаў. На ім адлюстравана сустрэча навучэнцаў Мінска і Латвіі ў час першага Беларускага фестывалю працоўных рэзерваў. Фото зрабіў Марат Соркін.

Трэці здымак зроблены пад Мінскам. Анатоля Вайніцкага захапіў пейзаж тыпова беларускі.

# Для адпачынку

## Адгадайце!

**1.** Арк-Сінус убачыў на беразе дзесяціфутавую бамбукавую трысцінку. Надламаны канец яе быў прыгнуты да зямлі і адстаў ад асновы трысцінкі на тры футы. Арк-Сінус задумаўся: якой даўжыні надламаная частка?

**2.** «Паглядзі, — сказаў Арк-Сінусу французскі матэматык Алкуан,— сабака гоніцца за трусам. Паміж імі адлегласць у 150 футаў. Сабака робіць прыжок у 9 футаў кожны раз, калі трус прыгае на 7 футаў. Колькі прыжкоў павінен зрабіць сабака, каб дагнаць труса?»

**3.** Забаўлялася чарада малп, квадрат восьмай іх часткі гуляў у лесе, астатнія дванаццаць крычалі на вяршыні ўзгорка. Колькі ўсяго малп у чарадзе?

**4.** У канцы XVIII стагоддзя Арк-Сінус адправіўся ў экскурсію з маладым прафесарам французскай політэхнічнай школы Сільвестрам Пакруа.

29 дзён ішлі яны, кожны дзень праводзячы ў дарозе 7 гадзін, і прайшлі 112 кіламетраў. «А колькі мы пройдзем за 17 дзён, калі будзем менш часу траціць на размовы і штодзённа ісці па дзесяць гадзін?» — спытаў Пакруа.

**5.** У старажытнай Грэцыі настаўнік задаў дзецям такую задачу: «Асліца скардзілася на цяжкасць клунка. «Чаго ты скардзішся, — адказаў ёй мул, — калі ты мне аддасі адзін свой мех, мой клунак стане ў два разы большы за твой, а калі я табе аддам адзін свой мех, нашы грузы толькі зраўняюцца». Колькі мяхоў было ў кожнага?»



**Колькі і якія геаметрычныя фігуры на гэтым малюнку?**

## Красворд

Склаў К. Хацяшоў



**Па гарызанталі:** 4. Агульнапрыняты парадак размяшчэння літар. 7. Арыгінал ці копія тэкста, зробленая не друкарскім спосабам. 9. Пастух, які пасе авечак. 10. Тубылыя насельніцтва трапічнай Афрыкі. 11. Месяц. 13. Аптычнае шкло. 14. Прадмет сляпога пакалення. 17. Поўднёвая фруктовая расліна. 20. Ягадны кустарнік. 21. Велічыня, якая характарызуе ваганне. 24. Украінскі народны музычны інструмент. 25. Кароткае гумарыстычнае апавяданне. 28. Балотны газ. 29. Савецкая паэтэса. 31. Паэма А. І. Палежаева. 33. Дзяржава ў Азіі. 34. Прыток Обі. 36. Выдатны нямецкі комуніст. 37. Чалавек, якому адрасавана пісьмо. 38. Гераіня паэмы Лермантава «Хаджы-Абрэк». 40. Народны паэт БССР. 41. Месца стаянкі машын. 44. Мужчынскае імя. 46. Металічны шчыт, які засцерагае электрычны прыбор ад знешніх уплываў. 47. Твор К. Маркса. 49. Творчы работнік тэатра. 50. Матэматычная лінія. 51. Злучэнне кальцыя з вуглеродам. 53. Тое, што адпавядае рэчаіснасці. 54. Спартыўная ігра. 56. Навуковы літаратурна-мастацкі ці грамадска-палітычны кірунак, які мае пэўныя характэрныя рысы. 57. Адзінка работы. 58. Прадстаўнік членістаногіх. 60. Герой ранняга апавядання М. Горкага. 61. Ваенная спецыяльнасць. 62. Хімічны элемент.

**Па вертыкалі:** 1. Паяц. 2. Бурны паток вады, які падае з вышыні. 3. Рускі хімік. 5. Горная парода. 6. Цяпліца для вырошчвання ранняй гародніны. 7. Айчына. 8. Адзінка часу. 12. Прыстасаванне для прабівання сцен. 13. Старадаўняя карэта. 15. Драўлянае вядро. 16. Зімовы корм для кароў. 18. Шырока распаўсюджаная горная парода, якая ўжываецца ў ганчарнай справе. 19. Спартсмен. 21. Група астравоў. 22. Сорт яблыкаў. 23. Стары воін. 24. Французскі пісьменнік. 26. Лёгкая павозка з кулямётам. 27. Гімнаст. 29. Цемната. 30. Інертны радыёактыўны газ. 32. Раствор смалы ў спірце, які ўжываецца для надання бляску. 35. Урачысты хвалебны лірычны гімн. 39. Рэгулятар маятніка ў гадзінніку. 40. Шкляны сасуд. 42. Орган у рыб. 43. Абмежаваная норма. 45. Культурная расліна. 46. Першапачатковы малюнак. 48. Карлік. 49. Штучны карунд. 52. Нязначная падрабязнасць. 53. Старажытная грэчаская эпічная паэма. 55. Сельскагаспадарчая машына. 59. Мера вагі каштоўных каменняў. 60. Горад у РСФСР.

### АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ «ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ?», ЗМЕШЧАНЫЯ У № 7 ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ»

**1.** Папярэднікамі Чыгорына былі рускія майстры старэйшага пакалення, якія зрабілі першыя крокі ў стварэнні рускай школы ў шахматным майстэрстве. Першым рускім майстрам быў **Аляксандр Дзмітрыч Пятроў** (1794—1867 гг.). Ён набыў вядомасць выдатнага шахматыста сваім аналізам у дэбютнай стадыі партыі і выданнем кнігі «Шахматная игра, приведённая в систематический порядок с присовокуплением игор Филидора и примечаний на оные» (1824 г.). У турнірах і матчах ён не ўдзельнічаў, але, сустракаючыся з сучаснікамі яму выдатнымі рускімі майстрамі, заўсёды дэманстраваў сваю перавагу над імі, ствараючы бліскучыя па якасці партыі, якія адзначаліся перш за ўсё прыгажосцю, глыбінёй задумы і нечаканасцю камбінацый. Для прыкладу прывядзем партыю А. Д. Гофман—А. Д. Пятроў.

1. e4 e5. 2. Kf3 Kc6, 3. Cc4 Cc5, 4. c3 Kf6, 5. d4 ed, 6. e5 (лепш 6. cd), Ke4 (6. ... d5!), 7. Cd5 K:f2 (за каня чорныя атрымліваюць тры пешкі) 8. Kp:f2 dc+, 9. Kpg3! cb, 10. C:b2 Ke7, 11. Kg5? (Гэта дае магчымасць Пятрову ажыццявіць выдатную камбінацыю з ахвярай ферзя.) K:d5, 12. K:f7 0—0!!, 13. K:d8 Cf2+, 14. Kph3 (або: 14. Kpg4 Лf4+, 15. Kpg5 h6+, 16. Kph5 Лh4+, 17. Kpg6 Ke7X) d6+, 15. e6 Kf4+, 16. Kpg4 K:e6, 17. g3 (пагражала Лf4+ і Лh4X) Kd4+, 18. Ke6 C:e6+, 19. Kph4 Kf5+, 20. Kph3 Ke3+, 21. Kph4 Kg2+, 22. Kph5 g6+, 23. Kpg5 Ce3X.

**2.** Першым, хто выступіў у якасці прадстаўніка Расіі на міжнародных турнірах, быў С. Вінавер, у ігры якога было шмат агульнага з майстэрствам Пятрова. У тым-жа годзе, калі памёр Пятроў, трыццацігадовы Вінавер узяў другі прыз у вялікім міжнародным турніры ў Парыжы.

**3.** Да славутай групы першых рускіх майстроў належаў і Ілля Сяпанавіч Шумаў. Таленавіты майстар, ён быў першым рускім шахматыстам-журналістам. Кіруемы ім на працягу 12 год аддзел ва «Всемирной иллюстрации» адыграў вялікую ролю ў развіцці шахматнага жыцця Расіі.

**4.** Першы рускі шахматны дапаможнік быў выдадзены ў Пецярбурзе ў 1821 годзе. Гэта праца Івана Бутрымава (1782—1851 гг.) «Аб шахматнай ігры».

**5—6.** Афіцыяльна званне чэмпіёна свету ўстаноўлена ў 1886 годзе і прысвоена В. Стэйніцу пасля перамогі над І. Цукертортам (з вынікам +10, —5, =5). Да Стэйніца гэтага звання не існавала.

**7.** Сучасны падвойны шахматны гадзіннік упершыню быў выкарыстаны на Лонданскім турніры 1883 года. Раней для кантролю часу карысталіся пясочным гадзіннікам і іншымі гадзіннікамі.

**8.** У Маскве адбылося 4 матчы на першынство свету па шахматах:

а) Матч-рэванш Ласкер—Стэйніц зімой 1896/97 года;

б) Другая палавіна матча-турніра пяці гросмайстраў (Батвіннік, Смыслоў, Керэс, Рэшэўскі, Эйве) у 1948 годзе;

в) Матч Батвіннік — Бранштэйн у 1951 годзе;

г) Матч Батвіннік — Смыслоў у 1954 годзе.

**9.** Самы працяглы матч на першынство свету складаўся з 34 партый з якіх 25 з нічыйным вынікам. Ён адбываўся ў 1927 годзе паміж Капабланкам і Алёхіным.

**10.** Найкарацейшыя матчы на першынство свету складаліся з 10 партый. Працаўнікамі былі Ласкер — Яноўскі і Ласкер — Шлехтэр. У першым матчы было толькі дзве нічыйныя партыі; у другім — толькі дзве рэзультатыўныя.

### АДКАЗЫ НА ШАШАЧНЫЯ ЗАДАЧЫ, ЗМЕШЧАНЫЯ У № 6

**Рашэнне пазіцыі № 1**

1. h2 — i3! к2 № i1
2. g3 — f4!! g5 — c5
3. i3 — h4 і выйгрывае.

**Рашэнне пазіцыі № 2**

1. h2 — i3! к2 — i1
2. h4 — i5!! к6 : к2
3. e5 : e1 і выйгрывае.

**Рашэнне пазіцыі № 3**

1. c3 — d4! a5 : a1
2. f4 — e5! a3 : e3
3. e5 : e1 і выйгрывае.

**Рашэнне пазіцыі № 4**

1. c3 — d4! a5 : a1

Калі 1. ... a5 : e5, дык 2. f4 : к8 і выйгрывае.

Калі 1. ...g5 : c5, дык 2. b4 : к8 і выйгрывае.

2. g3 — h4!! a1 : f5
3. к6 : к10 і выйгрывае.

# МОДЫ

### ПА ЧАСОПІСАХ ЧЭХАСЛАВАКІІ І ГДР.

1. Плацце-касцюм з баваўнянай тканіны для студэнткі. Спадніца кругом у складкі, блузка двухбортная, можа быць запраўлена ў спадніцу.

2. Баваўнянае плацце-касцюм, пад якое можна надзяваць розныя блузкі. Прамая спадніца мае спераду тры сустрэчныя складкі. Блузка кімано ў талію, каўнерык стаячы.

3. Рабочы халат, зашпільваецца ззаду. Шлейкі халата зашпільваюцца спераду на гузікі. Халат зручны для работы ва ўстанове.

4. Сарафан з блузкай. Спадніца расклёшаная, спераду два веера. Практычны для работы ва ўстанове.

5. Рабочы касцюм з накладнымі кішэнямі. Вельмі зручны для работы на будаўніцтве або прадпрыемстве.

6. Рабочы сарафан. Кішэні ўразныя, зашпільваюцца на гузікі. Зручны для работы ў полі, на будаўніцтве.

*Зрабі сам!*

# Прасцейшы тэлевізар

Прасцейшым тэлевізарам, які можа зрабіць сабе радыёаматар, з'яўляецца тэлевізійная прыстаўка — дадатак да звычайнага радыёпрыёмніка, напрыклад, «Р-7».

Тэлевізійная прыстаўка складаецца з двух панелей: панель разгортак і панель прыёмніка сігналаў адлюстравання і гуку. Сігнал, які паступіў у антэну ад тэлецэнтра, паступае на ўваход прыёмніка і ўзмацняецца двума каскадамі высокай частаты, якія сабраны на лямпах 6Ж1П ($Л_1$ і $Л_2$). Каскады гэтыя сабраны па схеме паслядоўнага сілкавання з мэтай паменшання аноднага току. З контурам другога каскада УВЧ індуктыўна звязаны контур рэжэкцыі $L_4C_8$. Сігнал, прадэтэктаваны дыодам $Д_1$ (ДГЦ-13), паступае на ўзмацняльнік сігналаў адлюстравання ($Л_3$ — 6Ж1П). З ланцуга анода $Л_3$ сігналы адлюстравання паступаюць на панель разгортак і на катод $Л_5$ (13ЛО37). Пастаянная складаючая аднаўляецца з дапамогай $Д_5$ (ДГЦ-14) і R—34.

Прыём гукавога суправаджэння вядзецца па метаду выкарыстання біенняў паміж нясучымі частотамі адлюстравання і гуку. З выхаду ЧМ дэтэктара праз фільтр напружанне гукавой частаты падаецца на гняздо з надпісам «гуказдымальнік» прыёмніка, які выкарыстоўваецца для сілкавання прыстаўкі. Ступень кантраснасці адлюстравання, атрыманага на прыстаўцы, рэгулюецца ў працэсе наладкі падборам супраціўлення R=10 і лікам віткоў катушкі $L_8$.

Разгортка змантыравана на адной лямпе $L_4$ (6Н1П), якая мае дастаткова высокае напружанне прабою катод-падагравальнік. Для большай надзейнасці ў схеме сілкавання разраднага ланцуга кадравага блокінга заземлена сярэдняя кропка высокага напружання. Сінхранізацыя па кадрах падтрымліваецца частатой сілкуючай сеткі ($ТР_3$), а сінхранізацыя па радках — сінхраімпульсамі, якія выдзяляе абмежавальнік $Д_4$ (ДГЦ-14), з аноднага ланцуга лямпы $Л_3$. Дыферэнцыраванне робіцца ланцужком $R_{41}C_{30}$.

Сілкуецца панель разгортак і панель прыёмніка з дапамогай пераходных калодак ад выпрамніка радыёпрыёмніка. Пераходныя калодкі, якія ўяўляюць сабой праходную цокаль-панельку, устанаўліваюцца: пераходная калодка I пад выхадную і пераходная калодка II пад выпрамляльную лямпы прыёмніка і робіцца наступным чынам: бярэцца цокаль ад нягоднай лямпы тыпу 5Ц4С для пераходнай калодкі II і 6П6 для пераходнай калодкі I, адбіваецца шкляны балон, і ўнутранасць пластмасавага цыліндра з ножкамі старанна ачышчаецца ад рэшткаў шкла і засохлай масы, якою балон прыклейваецца да цокаля. Затым у бакавой паверхні цокаля прасвідроўваецца адтуліна дыяметрам 5—6 мм, праз якую будуць выведзены правады. Пасля гэтага бакелітавая лямпавая панель прыпайваецца кароткімі праваднікамі да ножак цокаля адначасова з доўгімі (60—70 см.), лепш рознакаляровымі, правадамі, якія выводзяцца праз бакавую адтуліну цокаля. Прыпайка вядзецца ў наступным парадку: 1-я ножка лямпавай панелі да 1-й ножкі цокаля, 2-я да 2-й, 3-я да 3-й і г. д., пакуль не будуць прыпаяны ўсе ножкі. У I-й калодцы доўгія правады прыпайваюцца да 2-й, 4-й і 7-й ножак, у II-й калодцы—да 2-й, 4-й, 6-й і 8-й ножак. Для ўстаноўкі калодак у прыёмнік неабходна выняць лямпу 6П6С, замест яе ўстанавіць пераходную калодку I, а лямпу ўставіць у панельку, якая ўпаяна ў калодку. Аналагічным чынам устаўляецца калодка II пад лямпу 5Ц4С.

Неабходнае высокае напружанне для сілкавання трубкі 13ЛО37 (ЛО737) атрымліваецца ўчацвярэннем напружання кожнага пляча павышаючай абмоткі сілавога трансфарматара прыёмніка. Для высокавольтнага выпрамніка выкарыстоўваюцца высокавольтныя селенавыя слупкі тыпу АВС-720.




**Мал. 1. Пакаёвая антэна.**

Нітка накалу 13ЛО37 сілкуецца праз трансфарматар $ТР_4$ ад накалу 5Ц4С прыёмніка.

#### Дэталі і канструкцыя

Дадзеныя наміналаў прыведзены на прынцыповай схеме. Канструкцыя і намотачныя дадзеныя катушак ясныя з мал. 5. Панель прыёмніка сігналаў адлюстравання і гуку зроблена з алюмініевага або жалезнага лісту таўшчынёю 1,5—2 мм і мае памеры 70×140 мм. На гэтай панелі ўстанаўліваюцца лямпы прыёмніка, электраліт $C_{15}$ і ЧМ дэтэктар. Пад панеллю ставяцца катушкі і вядзецца ўвесь мантаж прыёмніка. Панель мацуецца чатырма стоечкамі даўжынёй 60 мм.




**Мал. 2. Сіметрычны вібратар.**

Панель разгортак мантыруецца на каробчатым шасі, зробленым з таго-ж матэрыялу, што і панель прыёмніка. Яго памеры 75×95×195 мм.

Абедзве панелі ўстанаўліваюцца ў асобным фанерным футляры, у пярэдняй панелі футляра робіцца выраз памерам 80×107 для экрана трубкі.

Ніжэй выразу выводзяцца ручкі: рэгулёўкі яркасці ($R_{31}$), факусіроўкі ($R_{29}$) і выключацель сілкавання прыстаўкі $П_1$. (мал. 6). Ручкі рэгуліроўкі частаты кадраў, частаты радкоў і памеру радкоў выводзяцца на заднюю сценку пад адвёртку. Шасі прыёмніка злучаецца як мага больш кароткім провадам з панелямі прыёмніка і разгортак.




**Мал. 3. Петлевы вібратар.**

Адлюстраванне атрымліваецца памерам 80×110 мм дастаткова яркае і кантраснае.

Упэўнены прыём адлюстравання з дапамогай апісанай тэлевізійнай прыстаўкі можа ажыццяўляцца ў радыусе да 10 км ад тэлецэнтра. На якасць прыёму вялікі ўплыў аказвае антэна, дабудовы якой трэба аднесціся вельмі сур'ёзна. Тып і канструкцыі антэны ў кожным асобным выпадку павінны выбірацца ў адпаведнасці з умовамі прыёму і адлегласцю ад тэлецэнтра.




**Мал. 5. Катушкі тэлевізара-прыстаўкі: $L_1$ $L_2$, $L_3$ і $L_4$ наматваюцца провадам ПЭШО 0,7 з крокам намоткі 1,5 мм; $L_1$ мае 5 віткоў з адводам ад 2-га вітка (лічачы ад заземленага канца катушкі); $L_2$ — 6,5 вітка; $L_3$ — 6 віткоў; $L_4$ — 7 віткоў; $L_5$ — 32 віткі ПЭШО 0,2; $L_6$ — 17+17 віткоў ПЭШО 0,3; $L_7$ — 12 віткоў ПЭШО 0,15 (катушкі $L_5$, $L_6$, $L_7$ наматваюцца віток да вітка); $L_8$ — 85 віткоў ПЭШО 0,1 (намотка «Універсаль»).**

**Прыведзеныя дадзеныя віткоў разлічаны на прыём Мінскага тэлевізійнага цэнтра.**

Калі вы знаходзіцеся ў неспрыяльных умовах прыёму, у нізіне, за высокімі дамамі і да т. п., і ў вас няма прамой бачымасці тэлецэнтра, дык магчыма прыйдзецца прымяніць двух-, а можа і трохэлементную антэну, нягледзячы на невялікае ўдаленне ад тэлецэнтра.

У тых выпадках, калі тэлевізар устаноўлены недалёка ад тэлецэнтра (3—6 км.), можа быць прыменена пакаёвая антэна, якая ўяўляе сабою поўхвалевы дыполь. Цяпер вам час ужо ведаць, што тэлевізійная антэна складаецца з праваднікоў пэўнай даўжыні, якія завуцца дыполямі. Пакаёвую антэну можна зрабіць з провада дыяметрам 2—3 мм або з асвятляльнага шнура 1,5—2 мм, а таксама з антэннага канаціка. Канструкцыя такой антэны бачна на мал. 1 і тлумачэнняў не патрабуе.

Знадворная антэна, якая прымяняецца пры аддаленні ад тэлецэнтра далей 3—6 км., устанаўліваецца на даху і мае канструкцыю, зразумелую з мал. 2. Гэты тып антэны завецца сіметрычным вібратам. Вібратар робіцца з металічных трубак або пруткоў дыяметрам 20—25 мм і мае наступную даўжыню:

для 1-га канала 2l=2670 мм,
для 2-га канала 2l=2260 мм,
для 3-га канала 2l=1760 мм.

Вібратар мацуецца на драўлянай або тэксталітавай планцы пры дапамозе ролікаў.

Даўжыні адрэзкаў кабеля $l_1$ і $l_2$ роўныя:
для 1-га канала $l_1$=2850 мм $l_2$=950 мм,
для 2-га канала $l_1$=2450 мм $l_2$=820 мм,
для 3-га канала $l_1$=1900 мм $l_2$=630 мм.

Гэтыя адрэзкі робяцца з таго-ж кабеля, з якога робіцца зніжэнне, што ідзе да тэлевізара, і завецца фідэрам і пажадана тыпу РК-1 або РК-3. Для знадворнай антэны можа быць прыменены таксама петлевы вібратар, канструкцыя якога ясная з мал. 3. Петлевы вібратар робіцца з металічнай трубкі дыяметрам 20—25 мм. Даўжыня вібратара:

для 1-га канала 2l=2670 мм,
для 2-га канала 2l=2260 мм,
для 3-га канала 2l=1760 мм.

Дапасуючая пятля зроблена з такога-ж кабеля, што і фідэр, які ідзе да тэлевізара, і мае даўжыню:

для 1-га канала $l_1$=1900 мм,
для 2-га канала $l_1$=1630 мм,
для 3-га канала $l_1$=1260 мм.

Абавязкова пры ўстаноўцы тэлевізійных антэн павінны захоўвацца наступныя ўмовы: вось антэны павінна быць перпендыкулярна напрамку на тэлецэнтр і вышыня антэны над дахам павінна быць не менш 3-х м. Пры аддаленні ад тэлецэнтра 12—15 км неабходна прымяняць двухэлементную антэну, 12—20 км — трохэлементную і 20—30 км пяціэлементную антэну.

Двухэлементная антэна адрозніваецца ад аднаэлементнай тым, што ззаду петлевага вібратара на адлегласці, роўнай 900 м *, умацоўваецца рэфлектар, зроблены з такога-ж матэрыялу, што і вібратар, і які ўяўляе сабою адрэзак трубкі даўжынёю 3350 мм *. У трохэлементнай антэны спераду вібратара на адлегласці 600 мм * ад яго ўмацоўваецца яшчэ адзін вібратар, які завецца дырэктарам і ўяўляе сабою адрэзак трубкі з такога-ж матэрыялу, што і вібратар і рэфлектар, і мае даўжыню 2340 мм *.

Што датычыць пяціэлементнай антэны, дык гэтая антэна складаецца з вібратара, рэфлектара і трох дырэктараў, гэта значыць, усяго з пяці элементаў.

Трэба адзначыць, што арыентацыя антэны на тэлецэнтр абавязкова ў тых месцах, дзе ёсць прамая бачымасць антэны тэлецэнтра. Там-жа, дзе няма такой бачымасці, антэну трэба арыентаваць па якасці адлюстравання.


**В. ГУГЕЛЬ,**
**супрацоўнік тэлевізійнай лабараторыі Мінскага радыёзавода ММіПП.**


*) Адлегласці і памеры рэфлектара і дырэктара дадзены для першага канала, на якім працуе Мінскі тэлецэнтр.

**Мал. 4. Схема тэлевізара-прыстаўкі.**

Панель приемника изображения и звука

Чм детектор

Панель разверток

Размер строк

Частота строк

Частота кадров

Переходная колодка I

Переходная колодка II

Фокусировка

Яркость

**Прынцыповая схема тэлевізійнай прыстаўкі:**

$Д_1$, $Д_2$, $Д_3$—дыоды ДГЦ-13. $Д_4$, $Д_5$ — ДГЦ-14. $Тр_1$: сардэчнік III 12×15 мм, абмоткі I—150 віткоў, II — 300 віткоў ПЭШО-0,15; $Тр_2$: сардэчнік III 15×20 мм, абмоткі I і II па 3000 віткоў ПЭШО-0,1. $Тр_3$: сардэчнік 0,12×15 мм; абмоткі I — 800 віткоў, II — 2800 віткоў, III — 500 віткоў ПЭШО-0,1: $Тр_4$: сардэчнік III 15×20 мм; абмоткі: I—100 віткоў, II — 130 віткоў ПЭЛ-I 0,5; $В_1$ — $В_8$ селенавыя слупкі тыпу АВС-720.

На першай старонцы вокладкі: **Член коннай секцыі Гомельскай спартыўнай школы Святлана Фядосава на трэніроўцы.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Фотаэцюд «Кветкі».**

Фото А. Дзітлава.


Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).

«Молодость».
Ежемесячный литературно-общественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.
Фармат паперы 70×108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Здадзена ў набор 13.VII.56 г. Падпісана да друку 31.VII.56 г.

АТ 01754. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 523.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.


**Мал. 6. Агульны выгляд тэлевізара-прыстаўкі.**



